БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА. ЗАСНАВАНАЯ Ў 1906 Г. У ВІЛЬНІ. АДНОЎЛЕНАЯ ТАМСАМА Ў 1991 Г. З 1 САКАВІКА 1996 Г. ВЫХОДЗІЦЬ У МЕНСКУ. ВЫДАВЕЦ РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ «НАША НІВА»

# БЕЛА-РУСІ-ФІКАЦЫЯ

**АНОНС**

Калі пачынаеш гутарку пра расейцаў, якіх у сучаснай Беларусі паводле перапісу мільён, дык раптам разумееш, што іх няма. Не відаць. У штодзённым бытнаваньні яны зьліваюцца з тлом рускамоўнае беларускае публікі. Яны не выходзяць на ўласныя мітынгі, не вызіраюць са старонак рускамоўнае прэсы. Мы ня зьвязваем свае ўяўленьні пра расейцаў у Беларусі з русіфікацыяй, бо яны, расейцы, такі самы аб'ект гэтай русіфікацыі як і мы. Яны, як правіла не займаюцца беларусаедзтвам, таму мы іх не вылучаем з агульнае масы. Праўда, тое, што этнічных працэсаў не відаць, зусім не азначае, што яны не адбываюцца і што заўтра ня выплеснуцца ва ўсёй сваёй непрыгляднасьці або красе.

Магчыма, ёсьць рацыя ў тым, што нацыянальныя адметнасьці бароняцца тады, калі ёсьць відавочны прэсінг іншанацыянальнага асяродзьдзя. А тут — рускамоўныя сярод рускамоўных, так бы мовіць, страчваюць пільнасьць. І ўжо незразумела, хто каго перайначвае. Русіфікаваная Беларусь становіцца вялікай падманкай для расейскага чалавека. І першы паказчык таго, што ён стачвае сваю этнічную адметнасьць, сваю расейскую душу —тое, што ён у Беларусі не ствараe сваёй расейскай культуры.

Якая пэрспэктыва ў расейскай культуры, абапертай на расейскую моўную і этнічную базу? У Беларусі праявы такой культуры спрадвеку былі і, бадай, будуць асуджаныя на правінцыйнасьць. Гэта значыць, што кожны таленавіты творца ўсё адно імкнецца ў «цэнтар» — у Маскву або Піцер. Бо ня могуць быць цэнтрамі расейскай культуры Менск або Полацак. Менск у сёньняшняй сытуацыі ў расейскім культурным кантэксьце — гэта Тамбоў або Волагда. Слушна кажуць, што цывілізаваныя краіны адрозьніваюцца ад нецывілізаваных адсутнасьцю правінцыі. Дык вось Тамбоў і Волагда на шляху цывілізацыі маюць шанец ператварыцца з правінцыі ў самадастатковыя цэнтры расейскай культуры. Менску ж такая пэрспэктыва ня сьвеціць. Ён або вечна будзе заставацца правінцыяй на ўскрайку імпэрыі, або стане паўнавартасным цэнтрам культуры, у якой, акрамя яго, іншых сталіцаў няма.

*Тэма наступнага нумару «НН».*

**В Я Л І К Д З Е Н Ь**




# НАША НІВА

№ 7 (104) 13 КРАСАВІКА 1998 г.



## Чорная дата найноўшай гісторыі

***6.*** Чатыры гады назад у Авальнай залі Дому ўраду...

## Перачытваючы «Карнікаў»

***3.*** Эсэ Рыгора Барадуліна.

## Зброя, альбо Міт талеранцыі і рэальнасьць агрэсіі

***8.*** Народ узбройваецца...

## Сярод украінскіх мараў

***9.*** Парлямэнцкія выбары ў суседняй краіне.

## Прага і беларуская незалежнасьць

***6-7.*** Па сьлядах Ураду БНР у эміграцыі.

## Падарункі зь Вены

***14-15.*** Падарожныя нататкі Адама Глёбуса.


# ВІРТУАЛЬНАЯ РЭАЛЬНАСЬЦЬ

***Апазыцыя ў Беларусі перажывае крызіс. Пра гэта сёньня ня піша хіба што лянівы. А ў чым сутнасьць крызісу? Тут кожны мае права выстаўляць — і выстаўляе — свае аргумэнты. Адныя кажуць, што няма сапраўднага лідэра, другія — што партыям не хапае палітычнай волі, а масам — нацыянальнай сьведамасьці, трэція — што Захад слаба памагае ў барацьбе за дэмакратыю. Праўда, назваць, тое, што адбываецца ў Беларусі, барацьбой, тым больш палітычнай, можна, хіба што, у празьмерным запале.***

Размова не пра хлапчукоў і дзяўчынак, якія кідаюцца пад міліцэйскія дубінкі, нібы пад танк — хто, акрамя якоганебудзь зімоўскага, кіне ў іх камень? У нашых дзяцей, прынамсі, думкі і перакананьні не разыходзяцца зь дзеяньнем. У старэйшага ж пакаленьня — уключна да трыццацігадовых, выхаванага савецкімі рэаліямі, падвойныя альбо патройныя стандарты паводзінаў уеліся ў плоць і крою. Адсюль і «палітыка»:

Ня важна, калі нехта X верай і праўдай, за добрую пасаду й булку з маслам, служыў Z, фактычна прывёўшы таго да ўлады. Калі Z даў высьпятка X, усе палічылі яго ахвярай рэжыму і дэмакратам. Ці зрабілі выгляд, што так лічаць, і цяпер мусяць трываць ягоную прысутнасьць на ўсіх, ці амаль усіх партыйных форумах, грамадзкіх канфэрэнцыях, круглых сталах і гэтак далей. Ня важна, калі У трапіў за краты, а ягоны бліжэйшы паплечнік і сябра XX заяўляе, што У гэта наўмысна зрабіў, каб сябе выставіць ахвяраю, а ўвесь вызвольна-дэмакратычны рух дыскрэдытаваць. Гэта сапраўды няважна, бо прыклады можна памнажаць, а справа ня ў прыкладах, але ў мадэлі паводзінаў. Дапусьцім, зайздрасьць, амбітнасьць, хцівасьць — катэгорыі агульначалавечыя, і ад палітычнай сытуацыі ў той або іншай краіне не залежаць. Але ж ёсьць і свае, тутэйшыя адметнасьці. Комплекс мізэрнасьці, ці што.

Адзін дэмакратычны лідэр перажывае з тае прычыны, што Крэмль недаацэньвае пагрозу, якую нясе Лукашэнка. Другі — што гэтую пагрозу недаацэньвае Захад. Прычым, слова «недаацэньваюць» трэба разумець проста — мала даюць грошай апазыцыі на барацьбу з таталітарным рэжымам. Я наўмысна утрырую, бо, калі казаць шчыра, небясьпеку таталітарнага рэжыму сапраўды на Захадзе ўсьведамляюць кепска, бо пасьля Гітлера ні з чым таталітарным там ужо паўвека не сутыкаліся і дрэнна памятаюць, што гэта такое. А паколькі ў Беларусі няма канцэнтрацыйных абозаў, газавых камэраў і СС, значыць, і трывожыцца асабліва няма чаго. У Маскве, наадварот, таталітарныя часы добра памятаюць, і ня толькі памятаюць, але шмат у чым сьледуюць запаветам, выпрацаваным «ад Ільліча да Ільліча». Там Лукашэнка ўспрымаецца як малады, неабстраляны, але надта пэрспэктыўны губэрнатар Северо-Западного края.

Добра ці блага, Крэмль вядзе сваю палітыку. А тутэйшыя аракулы спрабуюць разгадаць загадку: каго цар-бацюхна зробіць сваім наступным фаварытам, і што ад гэтага будзе царэвічу-самазванцу? Ды нічога ня будзе, пакуль той не замінае транспартаваць газ на той самы Захад. Гэткая канструкцыя, паўтаруся, выглядае спрошчанай. Але ж беларускія дэмакраты ўспрымаюць яе як дадзенасьць. І гэта зручна, бо не вымагае ніякіх асаблівых высілкаў — акрамя аднаго, выпрошваньня грошай у самых розных міжнародных дабрачынных і не зусім дабрачынных

Працяг на старонцы 2.



**РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**

*Прэзыдыюм*

*Сакавік 1998*

ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ!

Вітаю Вас зь вялікім нашым нацыянальным сьвятам, 80-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Сьвята гэтае напамінае нам, што Рада БНР 80 гадоў зьяўляецца носьбітам ідэалаў 25-га Сакавіка, 80 гадоў змагаецца за іх ажыцьцяўленьне. Дзякуючы нашаму і Вашаму змаганьню, жыве ідэя беларускае дэмакратычнае дзяржаўнасьці.

На жаль, тады, калі здавалася, што мы нарэшце здабылі незалежнасьць, краіна наша апынулася ў небясьпецы інтэграцыі ў Маскоўскую імпэрыю. Маной, ізаляцыяй Беларусі ад рэшты сьвету Лукашэнка вядзе наш народ назад у няволю.

Дарагія суродзічы, толькі разам мы зможам да гэтага не дапусьціць. Толькі зьяднаныя мы станемся сілай, зь якой увесь сьвет будзе лічыцца. Разам мы зробім наш край вольнай, незалежнай і дэмакратычнай дзяржавай.

У гэтыя 80-я ўгодкі абвешчаньня нашым народам свае незалежнасьці прашу кожнага з Вас, далучайцеся да руху за нацыянальнае адраджэньне нашае Бацькаўшчыны. Не давайце нячэснаму рэжыму абманваць людзей. Толькі ў сваёй уласнай, вольнай і дэмакратычнай дзяржаве, Беларускі Народ дасягне лепшай долі.

Жадаю Вам сілы і мужнасьці ў змаганьні за вольную і незалежную Беларускую Народную Рэспубліку.

Жыве Беларусь!

Старшыня рады Беларускае Народнае Рэспублікі

**Івонка Сурвіла**

## ПОШТА

# Пагляд у будучыню

Без асэнсаваньня падзеяў мінулага немагчыма зьведаць будучыню. Зьвязаць жыцьцё нашых далёкіх продкаў зь лёсам сучасьнікаў і наступных пакаленьняў дапаможа веданьне роднай Беларусі.

Гісторыя майго краю, за двухтысячагадовае існаваньне ты бачыла шмат добрага і прыемнага, напрыклад, росквіт беларускай мовы ў Вялікім Княстве Літоўскім, разьвіцьцё нацыянальнай культуры і традыцыяў, дабрабыту і гаспадаркі слаўных суайчыньнікаў... Хапіла ліхога й жахлівага: бясконцыя войны і міжусобіцы, рознага кшталту акупацыі з Захаду і Ўсходу, зьнішчэньне лепшых прадстаўнікоў інтэлігенцыі ў час сталінскіх рэпрэсіяў і таленавітых асьветнікаў-палемістаў у Контаррэфармацыю. Колькі разоў цікавыя старонкі мінуўшчыны перараблялiся на свой капыл невукамі і прыстасаванцамі ад улады. Аднак ты, скарбонка чалавечай памяці, не здавалася, не вывешвала белы сьцяг паражэньця, а ганарова вучыла юнакоў і дзяўчат любіць Бацькаўшчыну і змагацца за яе даступныя сродкамі.

Без абвяшчэньня 25 сакавіка 1918 году Беларускай Народнай Рэспублікай незалежнасьці не атрымалася б у далейшым утварэньня БССР у 1919-м і Рэспублікі Беларусь у 1991 годзе.

Ня будзем забываць гістарычных здабыткаў, ня менш каштоўных за багацьце нетраў прыродных.

**Сяргей Званар, Менск**

# «Жаба ў роце»

Хачу запыніцца на двух момантах. Абодва прыклады бяруцца з №6 (103) за 16 сакавіка 1998 году.

Спадар Алесь Менскі ў сваім водгуку на «Жабу ў роце» зазначае: «Я не філёляг». Але пры артыкуляцыйнай характарыстыцы гукаў такія-сякія «Элемэнтарныя веды ў галіне мовазнаўства» аўтару ўсё ж не зашкодзілі б. Бо дагэтуль беларуская філялёгія ведала выбухнымі толькі гукі [б], [п], [г], [к], [д], [т] і мяккія вырыянты некаторых зь іх. Цьверджаньне пра выбуховасьць гуку [в] — гэта зусім новае слова ў беларускім мовазнаўстве, вартае спэцыяльнага ўшаноўваньня аўтара адкрыцьця. Бо нават у Лёсікавай граматыцы 1926 году гэты гук не ўважаецца за выбухны (кажу «нават», бо за такія не ўважаюцца таксама [г] і [к]).

Другая заўвага прыпадае на артыкул «Таямнічая Туркаль». Аўтар праводзіць вельмі цікавыя паралелі паміж назовамі. І яму верыш да тае пары, пакуль не сустракаеш узгадку пра Воршу.

Не ўяўляю, наколькі мэтазгодна праводзіць параўнаньне назову Воршы са словамі марыйскай мовы. Дазволю сабе зацытаваць: «Цікава, што на тэрыторыі Марый-Эл назваў, падобных «Оршы», досыць шмат. Дык вось: «Ор» — рэчышча, дзе цячэ вада, «Ша» —вада». Сапраўды, цікава, але ці бачыў тут беларуская Ворша?

Калі разглядаць назоў у гістарычным аспэкце (а бяз гэтага немагчыма), дык спадар Скрабатун лёгка знойдзе ў летапісах найстарадаўнейшую форму гарадзкога назову Рьша. Рэдукаваны [ъ] вымаўляўся сярэдне між [о] і [э]. Зь цягам часу ён выявіў тэндэнцыю да поўнагалоснага вымаўленьня — і ў летапісах стаў сутракацца прыметнік «рошский». Але потым, паводле законаў разьвіцьця старабеларускае мовы, гук «эміграваў» на пачатак слова — і ўзьніклі формы «Орша», «оршанский». Прыстаўны [в], які не пасьпелі зафіксаваць старабеларускія дакумэнты, зьявіўся ўжо бліжэй да нашага часу.

**Зьміцер Дзядзенка, Менск**

# Пра лекара і мяккі знак

Чытаю вашу газэту ўжо пару гадоў. Прыемнае здарэньне: газэта, беручы на ўвагу зьмешчаныя матэрыялы, палепшала, папраўлялася, падрасла. Добра было б, каб вы заняліся выкіданьнем таго, што я называю чужым дзядоўнікам у нашай мове. Напрыклад: «вучымся беларускай мовЕ» замяж «вучымся беларускай мовЫ» (чаго, а не чаму, як у расейскай!).

Варта пазбыцца «Германіі», а трымацца «Нямеччыны», вышвырнуць «урача», а паклікаць назад «лекара». Шмат сынтаксычных непаладак прынесьлі нам добразычлівыя суседзі. А што ўжо гаварыць пра лексыку... Добра, што трымаецеся мяккага знаку, які патрэбны нашай мове, як кісларод усяму жывому.

**Кастусь Акула, Канада**

# Першая беларуская дыскатэка

Менавіта з гэтых словаў пачыналіся ўлёткі, што запрашалі моладзь Мар'інай Горкі на гэтае, у нейкай ступені гістарычнае для правінцыйнага гораду, мерапрыемства. Ладзілася яно 14 сакавіка 1998 году маладымі нацыяналістамі ў самай беларускай школе №1. Жадальнікаў (а іх прыйшло прыблізна 200 чалавек) не спалохала нават тое, што ўваход быў платны.

Усё пачалося са шчырага прывітаньня, а потым шмат конкурсаў, такіх як: на лепшых выканаўцаў павольнага танца ды metal'у, «спадар Асілак». Файныя прызы, добрая беларуская музыка канчаткова прыўзьнялі настрой прысутным. Безумоўна, кульмінацыяй сталі лятарэя ды конкурс прыгажосьці «Міс дыскатэка». Пяць самых-самых, якіх выбралі арганізатары, спаборнічалі за гэтае ганаровае званьне, але дзяўчаты настолькі спадабаліся публіцы, што вызначаць зь іх найлепшую так і не ўдалося — перамаглі дзьве Сьвятланы.

Зразумела, што не абышлося безь непаразуменьняў і бойкі, якая добра была спраектаваная мясцовымі прыхільнікамі прэзыдэнта. Так, падчас аднаго з танцаў трое, безь нічога ніякага, наляцелі на нашага хлопца. Бойку хутка ўдалося спыніць, але на гэтым справа не скончылася — пасьля дыскатэкі разборкі паміж варагуючымі ўспыхвалі ў розных мясьцінах гораду.

І ўсё ж такі, нягледзячы на гэтыя інцыдэнты, падзея адбылася, пераважная большасьць малады людзей вынесла з залі добры настрой ды жаданьне прыйсьці на такую дыскатэку яшчэ, а гэта і было галоўнай ідэяй арганізатараў Алеся Васькевіча, Сьцяпана і Максіма Кульчанкаў ды аўтара гэтых радкоў.

**У.Вольны, Мар'іна Горка**

Працяг са старонкі 1.

арганізацыяў: «Падайце на змаганьне з дыктатурай!»

Да прыкладу, зрабілася ледзьве ня добрым тонам нагадваць пры выпадку палякам пра іхны маральны абавязак: маўляў, Захад ім некалі дапамагаў утварыць «Салідарнасьць» і зьвяргаць камуністычны рэжым, цяпер яны, у сваю чаргу, павінны дапамагчы браткам-беларусам. Але ж, папершае, у Беларусі няма пакуль сваіх прафсаюзаў, хоць чымсьці падобных да Салідарнасьці. А па-другое — палякі, якім неабыякавы лёс Беларусі, самі гавораць пра с в о й маральны абавязак. Ня нам ім пра яго нагадваць.

Тут мушу зрабіць досыць доўгае адступленьне ад тэмы ў сувязі з Польшчай. Для афіцыйнай прапаганды Польшча, з савецкіх часоў яшчэ, а можа нават і царскіх — жупел, сымбаль каталіцкага цемрашальства, панскага прыгнёту й вераломства (гэта пасьля трох падзелаў, пакту Молатава-Рыбэнтропа й савецкай акупацыі). А тут яшчэ, у недалёкай будучыні, за Бугам узьнікне фарпост самай варожай савецкаму чалавеку арганізацыі — NATO. З другога боку, да самага апошняга часу Польшча й замежжам сапраўдным не была — купляй ваўчар за нейкую капейку, ды язджай, гандлюй. Таму новыя правілы ўезду — як плявок, агіда на ўсё жыцьцё. Яны — Эўропа, а мы хто?! І разам з тым — вось ён, капіталістычны рай, зусім пад бокам, прадмет зайздрасьці, прыклад да перайманьня. Яшчэ ў сярэдзіне 70-х тут былі голыя паліцы, як і ва ўсіх краінах «разьвітога сацыялізму». А цяпер аспрэчваць дасягненьні палякаў на шляху рэформаў, аспрэчваць той факт, што злоты паступова набірае вагу няма падставаў. Пасьля нядаўняга фінансавага крызісу, які скалануў усе эўрапейскія біржы, у тым ліку Варшаўскую, злоты зноў упэўнена пнецца ўгару, а ад замежных інвэстараў, што жадаюць выгадна размясьціць свой капітал, адбою няма. Усё гэта, як кажуць, з хрэстаматыі сучаснасьці. Але ж ці там рай? Няма раю на зямлі. І не пра клясавую няроўнасьць гаворка. Не пра сацыяльнае расслаеньне.

# ВІРТУАЛЬНАЯ

Вось некалі ў беларускай прэсе прамільгнула нататка — у горадзе Н. школьнік-старшаклясьнік бяз дай прычыны выкінуўся з дзявятага паверху. Пасьмяротнай запіскі не пакінуў. Але ніякіх наркотыкаў, алькаголю ў крыві ягонай не знайшлі. Быў, як кажуць, нармальны хлопец. Прычыны самагубства невядомыя. А тут нядаўна ў невялічкім горадзе ў Польшчы адразу тры дзяўчынкі, па адзінаццаць гадкоў кожнай, скончылі жыцьцё калектыўным самагубствам (адну зь іх дактары ўсё ж уратавалі) — усе трое былі з добрых сем'яў, бяз кепскай спадчыннасьці. Дарослыя ня могуць даўмецца прычыну.

Вучань сталічнага ліцэю, узброены загадзя сякерай і нажом, урываецца сярод заняткаў у клясу і нападае на настаўніцу, тое ж паўтараецца ў суседняй клясе, і ў яшчэ адной — усё на вачах іншых вучняў, амаль ніхто зь іх нават не спрабаваў заступіцца за ахвяраў. Настаўніцы выжылі, але ж псыхалягічны шок аказаўся страшнейшы за фізычныя траўмы.

А то вось двое студэнтаў разам зь яшчэ адной студэнткай забілі чацьвертую — забілі зь нематываванай жорсткасьцю, бэйсбольнай бітай і нажом, з-за нейкай драбязы. Усе трое атрымалі тры пажыцьцёвых пакараньні — у Польшчы, якая ідзе ў Эўразьвяз, пакараньня сьмерцю няма. Што тут, у мэнтальнасьці хіба справа, у сацыяльным асяродзьдзі, у нейкіх заганах цывілізацыі? Ды не — пры чым тут цывілізацыя. Жыцьцё чалавечае цяжкае. І будзе такім заўсёды, пры любым -ізьме. Нашыя палітыкі ня хочуць гэтага ведаць. Лукашэнка гэта ведае — ведае, што людзям, асабліва на вёсцы цяжка — так цяжка, што аж няма як уздыхнуць. Ну, дык трэба ім зманіць, паабяцаць, што будзе добра, галоўнае, што ня будзе горш, што вайны, напрыклад, ня будзе, што карупцыянэраў усіх хутка зьвядуць — і будзе так як раней.

А з другога боку, рэфарматар, надзвычай рацыянальны чалавек Лешак Бальцэровіч казаў: людзі паўсюль аднолькавыя, што ў Амэрыцы, што ў Нямеччыне, што ў Паўднёвай Карэі, усе ад прыроды лянівыя, усе хочуць менш працаваць і больш зарабляць і не плаціць пры гэтым падаткі. Але ж у кожным ёсьць і яшчэ нешта, дадзенае Богам. І ад кожнага залежыць, як ён гэтым пакарыстаецца. Калі, зразумела, дзяржава ня будзе біць яго па галаве бітай. Улады ў гэтым сэнсе таксама мала адрозьніваюцца паміж сабой — ці то ў Карэі, ці ў Самалі, ці ў Беларусі. І толькі людзкая салідарнасьць — ня згаднасьць! — здольная процістаяць татальнаму гвалту над асобай.

Сучасная беларуская апазыцыя не прайшла й сотай долі тых выпрабаваньняў, праз якія прайшлі і лідэры КОС-КОР, і шараговыя сябры «Салідарнасьці». Таму ў цяперашняй апазыцыі, за рэдкім выключэньнем, няма маральнага права наогул нечага ад некага патрабаваць.

І справа ня толькі ў гэтым. Такая арганізацыя, як ІРА, напрыклад, мае сваіх пакутнікаў, палітвязьняў, ахвяраў рэпрэсіяў. Але ж ніводная праваабарончай арганізацыя на Захадзе, ня кажучы ўжо аб урадавых, ня прыйдзе да галавы дапамагаць ІРА ў ейнай тэрарыстычнай дзейнасьці. Здавалася б, прыклад ІРА зусім далёкі ад рэаліяў Беларусі. Але гэта сёньня. Размова аб альтэрнатывах, якія абіраюць палітычныя лідэры ды шляхах дасягненьня мэты. У 20-я гады нашага стагодзьдзя імёны Колінза і ягоных паплечнікаў па нацыянальна-вызвольным руху вымаўляліся ірляндзкімі каталікамі як сьвятыя. Зь цягам часу вайна з брытанскім уладарствам і пратэстантамі вылілася ў звычайнае паляваньне на людзей. І што гэта дало? Легальнае крыло ІРА — партыя Шын-Фэйн усё адно пайшла на мірныя перамовы з брытанскім урадам. У амэрыканскім фільме рэжысэра Джыма Шэрыдана «Баксёр» выдатна паказана, як людзі, што кіруюцца вышэйшымі прынцыпамі, бездакорнай, быццам бы, мараллю, надзеленыя ўладай над іншымі людзьмі, сучаснай зброяй ды адчуваньнем уласнай бязгрэшнасьці, паступова ператвараюцца ў звычайных забойцаў. Хоць і забіваюць яны ў імя ідэалаў свабоды. Няма патрэбы шукаць тут нейкіх паралеляў зь мітычным Беларускім вызвольным войскам. Цалкам можа стацца, што гэты міт выпушчаны зь нетраў спэцслужбаў дзеля запалохваньня абывацеля. Але ж і тыя, каму здаецца, што бутэлька з кактэйлем Молатава, альбо самаробная бомба — выйсьце з сытуацыі безнадзейнасьці, якая апанавала Беларусь, гэтыя таксама ёсьць абывацелямі, але толькі звар'яцелымі. У слова абывацель ня ўкладваю адмоўнага сэнсу, проста канстатую, што абывацель яшчэ ня ёсьць грамадзянінам у сэнсе самастойнае адзінкі цывільнай супольнасьці.

Ды адкуль жа ёй узяцца ў, здаецца, Богам забытай Беларусі?

Некалькі гадоў таму адзін паважаны прафэсар сказаў: грамадзкая супольнасьць — гэта мы. Г. зн. — ад нашых ініцыятываў, колькасьці створаных грамадзкіх інстытутаў, гуманітарных праектаў залежыць, у якім грамадзтве мы будзем жыць. Дзеля пабудовы адкрытага грамадзтва быў утвораны філянтрапічны фонд, намаганьнямі якога, сапраўды, удалося зрабіць шмат на карысьць нацыянальнае навукі, культуры й адукацыі. Тое, што ўладам гэта не спадабалася — тое заканамерна. Цікава іншае — шмат хто з грантаатрымальнікаў успрыняў існаваньне фонду, які асабіста фінансаваў вядомы ў

Рыгор Барадулін

# ПЕРАЧЫТВАЮЧЫ «КАРНІКАЎ»

Кожнае слова з дня сваіх народзінаў і да сталага веку самаўзбагачаецца, пераймае нешта ў суседзяў, абрастае побытавымі паняцьцямі, шматзначнее.

Невыпадкова нарадзілася слова правадыр. У ім была патрэба здаўна.

Правадыр — гэта той, хто вядзе, праводзіць праз самае небясьпечнае. У корані слова маецца яшчэ й значэньне — той, хто праводзіць, ашуквае, абводзіць, што называецца, вакол пальца.

У нашай мове блізкае правадыру слова павадыр. Гэта той, хто вядзе сьляпога. Пакуль давядзе, можа такі добра павадзіць. Павадыр — тут гучыць і павадок. Ці доўгі, ці кароткі — ад варункаў залежыць.

У расейскай мове *вождь* перагукваецца з *вожжами*, зь лейцамі, па-беларуску кажучы.

У паняцьці правадыр, як і ў кожным зьявішчы, два бакі — дадатны й адмоўны. Усё залежыць, хто вядзе й куды. Немалаважна й каго вядзе.

Натоўп ці статак прыручаны й прывучаны, каб яго вялі, безумоўна, на райскія выпасы. І зь сівое даўніны йдзе барацьба, змаганьне любымі спосабамі за правадырства ці за павадырства. Самае жаданае для кандыдатаў у правадыры гэта павадырства. Сьляпога весьці хоць і цяжкавата, затое сам ён не адхіліцца ад генэральнага курсу.

На памяці не аднаго пакаленьня з абшараў савецкай імпэрыі яскрава ці, дакладней, крывава праявілася правадырства, якое стала павадырствам. Правадырамі гэтымі былі, як сьпявалася ў псэўданароднай песьні, «два сокалы ясных» Ленін і Сталін. Усе наступнікі, што йшлі па іхных сьлядох, да правадыроў не дацягвалі.

Правадырам савецкай імпэрыі было турботна й высільна весьці за сабой працоўныя масы да зіхоткіх вяршыняў, да райскіх выпасаў. Маса гэтая была неаднародная, неаднанародная. Ніяк не ўдавалася зрабіць зь яе жывую плястмасу. Упіраліся, білі ў хамут розныя *инородцы*, нацдэмы. Рознамоўныя, рознаканфэсійныя калёніі спадцішка, але няспынна расхіствалі калёны ўсіх імпэрыяў. Савецкая імпэрыя ня стала выключэньнем.

Затое ў Нямеччыне ідэя «адзін народ — адзін фюрэр» дзейсьнілася лягчэй. І слова фюрэр (Führer), корань якога зьвязаны з тым, хто зноў жа вядзе, ці нават вязе (уплыў прагрэсу), стаў сынонімам ідэальнага падпарадкаваньня, жалезнай дысцыпліны ды неабвержнай улады. Фюрэраўская Нямеччына для пэўных сёньняшніх младафюрэраў зрабілася зямлёй абяцанай, блакітнай альбо чырвона-карычневай мрояй.

Алесь Адамовіч у сваёй кнізе «Карнікі: радасьць нажа, альбо Жыцьцяпіс гіпэрбарэяў» глыбокаасэнсавана дасьледаваў вытокі фюрэрства й жахлівыя вынікі ўлады фюрэра.

Алесь Адамовіч, як сапраўдны празорца, зрабіў мастацкае дасьледаваньне на будучыню. Гэта й папярэджаньне й перасьцярога, бо адчуваў, што, як і заўсягды ў гісторыі людзтва бывала, усё можа паўтарыцца і ў пачварных, і нават у трагікамічных варыянтах.

І на нашых вачох там і тут змушае сябе прыкмеціць цяга паасобных постсавецкіх лідэраў, харызматыкаў да фюрэрства. Хай сабе міні, але ўсё роўна, каб фюрэры.

Надзённа гучаць разважаньні фюрэра ў Адамовічавых «Карніках»: «... не для таго прыйшоў Адольф Гітлер, каб гуляць у парлямэнцкую балбатню, а каб усіх вас вышпурнуць... я вазьмуся за... гісторыю па-сапраўднаму... ня ўдасца вам прастадушна адрачыся ад свайго фюрэра. Вымыць рукі, якімі цягнуліся да Яго, стараліся дакрануцца хоць бы да адзежы ці крыла машыны... Мы павязаныя... Месца фюрэра — адноадзінае...»

Алесь Адамовіч, раскрываючы апраметную нутра фюрэра, ускосна, бо кніга пісалася за савецкім часам, паказваў і «геніяльнага правадыра ўсіх часін і народаў». Бо яны фактычна былі духоўнымі блізьнюкамі. Калі наогул льга да іх дапасаваць паняцьце духоўнасьці. Хаця і ў д'ябла свой дух, свой маральны кодэкс.

Усе тыя чысткі ў партыі, усе паказальныя працэсы былі й там, і тут. Яны й сёньняшнія мэтады даўнія: «Меў рацыю, меў фларэнтыец: калі ты ня ў спадчыну атрымаў, а заваяваў «прастол», пасьпяшайся ўсіх і ўсё замяніць, зьмяніць, зламаць. І ў першую чаргу так званых «паплечнікаў», хто ведаў цябе «да» дый наогул занадта многае памятае, чаго ня трэба. Каб ня ты быў чужаком, а ўсялякі табой адкінуты, адрынуты... Тут важна, каб... безь цябе, без тваёй прысутнасьці, тваёй волі ўжо не ўяўлялася само існаваньне народу. Для гэтага кожнае пакаленьне мусіць адчуць цяжар, жорсткасьць тваёй рукі — на сабе адчуць. Асабліва ў мірны час. Яго наогул не павінна быць, мірнага, нават калі няма вайны... Трэба толькі ўмець акружыць сябе прыроджанымі другімі нумарамі, якія на першыя ролі проста няздатныя...»

Недавер, падазронасьць, страх перад нейкімі змовамі — гэта хвароба ўсіх грос і міні-фюрэраў. Адсюль непамерная колькасьць паліцыянцкіх войскаў, розных ланцуговых спэцыяльнага прызначэньня. Стукачоў альбо на-вуха-даносараў і палічыць немагчыма. Чытаючы ў кнізе фразу «тут і моль падслухоўвае», пераносісься ў недалёкае савецкае мінулае дый не забываесься, у якой краіне жывеш.

Як учора, так і сёньня гэта знаёма: «Меў рацыю, меў фларэнтыец: недалужны розум у валадара, які трымае каля сябе, доўга церпіць тых, з кім прыйшоў да ўлады... Яны, мае верныя паплечнікі думаюць, што фюрэру пра іх нічога невядома. Які і ў якім банку ў каго рахуначак прыхаваны...»

І фюрэра, й правадыроў, і фюрэрчыкаў радніць то ўсохласьць рук, то шалёнасьць вачэй, то нават вусікі. «У Поля вочы папулярныя — фюрэрскія, а ў прыдачу й вусікі завёў сабе фюрэрскія».

Папулізм — гэта той канёк, на якім льга заехаць на трон. Асабліва, калі нейкі фюрэрчык брэша і ў гэты момант шчыра верыць у сваю ж брахню. Галоўнае, каб убіць у дрымотную сьвядомасьць натоўпу: «Фюрэр добры не таму, што добры, а таму, што ёсьць, і ён незаменны». Дарэчы, сталінскае: «незаменимых нет» тычылася ўсіх, акрамя яго самога.

Хіба гэта аджыло, хіба гэта ня дзейнічае на электарат, хіба гэта не замбіруе плакальшчыкаў па таннай кілбасе: «... рабі зь людзьмі што хочаш, але час ад часу пагавары зь імі грунтоўна, нават у чымсьці павініся — і можаш ехаць далей! Няма чагосьці, ну й прызнай, у зручны момант, што былі такія вось упушчэньні. Людзі ўзрадуюцца праўдзе, а пра сутнасьць і забудуцца...»

Побытавая послаўка: людзі ня сьвіньні — усё зьядуць, як гэта ні абразьліва гучыць, тычыцца й палітыкі, ці, лепей сказаць, фюрэрства. Так было з савецкімі правадырамі, так было і зь фюрэрам: «Фюрэр, як толькі аб'явіўся, стаў задаваць самыя простыя пытаньні. І даваць самыя зразумелыя адказы».

Нездарма любілі бальшавікі так званую работу з масамі. Любяць яе й сёньняшнія чырвона-карычневікі.

У Алеся Адамовіча такое адкрыцьцё для сябе зрабіў фюрэр: «Калі я зь імі гавару, зьвяртаючыся з трыбуны ці па радыё, у голасе некалькі галасоў. Не адразу й сам гэта выявіў. Кожны слухае толькі той голас, які зьвернуты да яго, толькі да яго... Кожнаму абяцай болей, чым усяму натоўпу».

І, вядома ж, нянавісьць да інтэлігенцыі. Яна ў крыві ва ўсіх правадыроў і правадырчыкаў. Ва ўсіх, хто, як кажуць, прыйшоў з бору й гоніць з двору. Ці зь мясьнікоў ён, ці з сэмінарыстаў, ці з турэмшчыкаў. Гэта кажа фюрэр: «Я сатру вашыя ўхмылачкі, інтэлігенцкія грымасы! Ніводзін не схаваецца. Колькі панагаварылі, панапісалі, і ўсё супроць, усё супроць!» А здаецца, чуеш голас з манапалізаванага тэлерадыё. Аж зябка робіцца. Ад фразы фюрэра: «Усё роўна мне выдумаеце — нанова!»

На жаль, і выдумляць ня трэба. Правадырства й фюрэрства, як алькагалізм, як наркаманія, цяжка вылечваецца. А варта. І Алесь Адамовіч заклікае да гэтага, дакладна паставіўшы дыягназ.

Калі статак вядуць на бойню, часьцяком правадыром служыць казёл-правакатар. Адну партыю пад нож ці пад ток завядзе, а сам па чарговую вяртаецца.

І ў нашыя дні інтэлігенцыя ня мусіць выконваць ролю казлоў-правакатараў. Гэтаму таксама вучыў апантаны змагар за праўду й дэмакратыю ў ранішнім значэньні гэтага слова Алесь Адамовіч.

Адступнікаў ад запаветаў Хрыстовых чакае кара. Цярпліва. Кары не мінуюць ні фюрэры, ні выканаўцы іхных загадаў — карнікі.

Кара вяртаецца да таго, хто карае...

# РЭАЛЬНАСЬЦЬ

сьвеце мільянэр, як належнае. Як быццам фонд — гэта нешта накшталт сабесу, альбо ў скрайнім выпадку — закрыты спэцразьмеркавальнік. Трэба зазначыць, што падставы дзеля такога ўспрыняцьця грамадзкай дабрачыннай установы давалі й некаторыя яе супрацоўнікі, паводзячы сябе чыста як партапаратчыкі старой закваскі. Зразумела, пачаліся інтрыгі, змовы, падседжваньні — усё як мае быць. Можна было б нават падумаць, што той замежны дзядзька-мільянэр паставіў экспэрымэнт — у якой прапорцыі залежаць чалавечыя хцівасьць ды зайздрасьць ад колькасьці дармовых грошай. Спроба знайсьці сумленных і непадкупных аўтарытэтных людзей сярод інтэлігенцыі (а яны пакуль яшчэ, дзякаваць Богу, не пераваліся ў Беларусі), каб зрабіць працэс разьмеркаваньня грошай празрыстым ды зразумелым, скончылася вядома чым. «Апаратчыкі», апэлюючы да інстынктаў масы (як казаў булгакаўскі Воланд: людзі як людзі, толькі кватэрнае пытаньне іх сапсавала), шляхам дэмакратычнай працэдуры ўнесьлі раскол у арганізацыю, самі пажынаючы вынікі перамогі. Атрымалася свайго роду міні-мадэль выбараў усенароднага кіраўніка дзяржавы. Праўда, у адрозьненьне ад выбараў прэзыдэнта, перамога апаратчыкаў ад філянтропіі аказалася піравай — фонд зачыніўся.

Аднак жа, прафэсар, які шчыраваў на ніве грамадзянскае супольнасьці, ніколькі не разгубіўся — ён працягвае сваю дабрачынна-дасьледчыцкую дзейнасьць, якая, па ўсім відаць, аднолькава цікавіць як заходнія дэмакратычныя інстытуты, так і айчынныя спэцслужбы.

Ці вось яшчэ. Зь нядаўніх часоў сярод «нячэсных» (паводле вядомага вызначэньня) журналістаў пачалося свайго роду спаборніцтва — хто зь іх больш «нячэсны». Можна падумаць, што журналістам няма больш чым заняцца, як высьвятляць, хто больш зрабіў дзеля справы вызваленьня Шарамета з-пад варты, альбо ў часе закрыцьця «Свабоды». Нехта пасьпеў адседзець у турме і вярнуцца пасля гэтага, так бы мовіць, да журналісцкага станка, а нехта ўсё яшчэ падлічвае колькасьць драпінаў — фізычных і маральных — на любімым целе, атрыманых ад праклятага рэжыму, а таксама уласных мужных выступаў супраць уладаў, каб кожны такі факт занесьці ў скрыжалі гісторыі. Ну, і на здароўе, як кажуць — хай бы займаліся гэтым ціха, самі з сабою. Дык не —трэба было ўсчыніць абструкцыю сябрам-журналістам на іхным зьезьдзе, абвінаваціць кіраўніцтва журналісцкай арганізацыі ва ўзурпацыі ўлады, дыктатарскіх замашках — куды там Лукашэнку! — а таксама бязьдзейнасьці, безыдэйнасьці і ледзьве не карумпаванасьці. Размова насамрэч ішла — правільна, зноў пра грошы. Пра тое, хто будзе іх атрымліваць і разьмяркоўваць.

Вось яшчэ прыклад — зусім сьвежы. Кіраўнік міністэрства праўды тэлефануе галоўным рэдактарам недзяржаўных выданьняў і абмяркоўвае зь імі магчымасьць утварэньня нейкага камітэту ў процівагу абранай на зьезьдзе радзе журналісцкай арганізацыі. Дзяржаўнага чыноўніка зразумець можна — яму не спадабалася рашэньне рады і ён дзейнічае даступнымі яму мэтадамі, вядомымі з часоў партыйнага кіраўніцтва друкам. Але ж цікава ня гэта, а тое, што рэдактары прагрэсіўных выданьняў — усе, акрамя аднаго — ня толькі жыва абмяркоўваюць з чыноўнікам раскольніцкія прапановы, але ня бачаць у гэтым нічога заганнага.

Што ж, такая ў нас гнюсная рэчаіснасьць. Калі няма як такога газэтна-часопіснага рынку, калі недзяржаўныя СМІ душаць падаткамі, арэнднай платай, штрафамі, судовымі выдаткамі, тады «раскручваць» выданьне за кошт аднае рэклямы немагчыма. Таварам на рынку ў цяперашняй Беларусі становіцца ня тое што апазыцыйнасьць (хто зараз не апазыцыянэр? Здаецца, хутка найлагоднейшы Лінг будзе лічыцца апазыцыянэрам) — але пацярпеласьць. Хто больш пацярпеў ад рэжыму — той можа разьлічваць на большую дапамогу. Адначасова, на ўсялякі выпадак, трэба падтрымліваць джэнтльмэнскія дачыненьні з начальствам. У цяперашняй, цалкам ненармальнай, алягічнай сытуацыі ўсеагульнага сьвінства гэта нармальна.

Байкі аб тым, што ўсе мы знаходзімся ў адной лодцы, ніхто ўжо не ўспрымае. Лодка даўно перавярнулася, і цяпер кожны, як кажуць, выжывае па-асобку. Аднак, пры гэтым ня блага было б захоўваць нейкую прыстойнасьць. Ня трэба біць вяслом па галаве сябра, які топіцца побач з табой, наступным будзеш ты. Каб пераканацца ў гэтым, неабавязкова глядзець «Тытанік» Джорджа Камэрона. Тым ня менш, пра некаторыя аксіёмы гэты галівудзкі блёкбастэр нагадвае. Нават у часе катастрофы, калі карабель ідзе на дно, каманда звар'яцела, а пасажыры азьвярэлі ад жаху, калі пацукі ды розная набрыдзь павылазіла на самы верх, можна ўсё ж-такі заставацца чалавекам.

Гэта слабое суцяшэньне, зразумела. Як правіла, ўратавацца ўдаецца ў першую чаргу набрыдзі. Але што нам да яе, калі мы лічым сябе людзьмі. Ну, можа некалі адчынім архівы (абавязкова трэба адчыніць), картатэкі, дасье — хай корпаюцца тады ў гразі, мажуць адзін аднаго брудам. Не аб гэтым жа марым.

Мара — БНР? БНР як мара? Яны называюць гэта віртуальнай рэальнасьцю. Наіўныя матэрыялісты, яны лічаць гэта абразай. Яны нават не здагадваюцца, які робяць камплімэнт. У век кампутарных сетак няма іншай раэльнасьці як рэальнасьць чалавечай думкі, творчасьці. У такім сьвеце дыктатура ператвараецца ў анахранізм, нешта накшталт гульні ў Дум. Улады пакуль яшчэ могуць прыйсьці і забраць кампутар, пасадзіць гаспадара ў турму — на большае ў іх ня хопіць фантазіі. Будучыня — за віртуальнай рэальнасьцю, г. зн. Мысьленьнем. Як думаем, так і існуем.

**Віталь Тарас,**
*Менск - Варшава - Менск*

**P.S.** Цалкам падтрымліваю ідэю грамадзянства БНР. Але ж, на маю думку, спробу перавесьці гэтую ідэю з плоскасьці маральнага й грамадзянскага выбару ў плоскасьць чыста палітычную можа сёньня прынесьці болей шкоды, чымся карысьці. Пагоня за колькасьцю заяваў аб грамадзянстве, як, напрыклад за колькасьцю подпісаў пад Хартыяй-97 тут зусім не патрэбная і здольная толькі дыскрэдытаваць ідэю — таксама як і празьмерныя фармальнасці. Прашу ўсё сказанае вышэй лічыць маёй просьбай аб уступленьні ў грамадзянства БНР.

**В.Т.**

*АД РЭДАКЦЫІ*

*«Наша Ніва» пачала атрымліваць заявы чытачоў на імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі аб уступленьні ў грамадзянства БНР. Усе гэтыя заявы мы перасылаем на адрас Рады, якая разглядае такія заявы і прымае рашэньне ў гэтай справе.*

# Нетрывіяльны горад у Каралеўстве Беларусь

19-22 сакавіка група беларускіх літаратараў, мастакоў ды музыкаў з мэтраполіі ажыцьцявіла своеасаблівы культурны штурм Беластоку — сталіцы праваслаўных беларусаў у Польшчы. Акцыя, арганізаваная ў рамках праекту «Каралеўства Беларусь», прыпала на васьмідзясятую гадавіну з дня абвяшчэньня БНР.

У 1939 годзе Беласток і Беластоцкі край Саветы адабралі ў палякаў і далучылі да БССР, як і астатнюю тэрыторыю Заходняй Беларусі. Аднак паводле рашэньняў Крымскай канфэрэнцыі кіраўнікоў урадаў — СССР, ЗША і Англіі — большая частка Беластоцкай вобласьці была перададзеная Польскай Народнай Рэспубліцы. У выніку грамадзяне РБ сёньня маюць унікальную магчымасьць на прыкладзе сучаснага жыцьця Беластоку і яго ваколіцаў назіраць, як магла б выглядаць Беларусь, свабодная ад хама.

Сёньняшні Беласток — гэта горад, у якім можна жыць, не адчуваючы сябе правінцыялам адносна Варшавы. Рэальныя рынкавыя дачыненьні, палітычныя і грамадзянскія свабоды дазваляюць беларусам і палякам рабіць свой горад камфортным для жыцьця. У Беластоку некалькі тэатраў і бібліятэк, раскошныя касьцёлы і гэткая ж нядаўна пабудаваная шматкупальная царква з цэглы колеру какавы. Шэсьць ці сем таксаматорных фірмаў прапануюць свае паслугі беластачанам і гасьцям гораду. Пра пабы і рэстарацыі, крамы і крамкі і казаць няма што: усюды вас сустрэнуць і праводзяць зь мілай усьмешкай нават тады, калі вы нічога ня купіце. Але, сказаў адзін з нашых «гідаў», у памяшканьнях, дзе сёньня разьмясьціліся свае сучасныя інтэр'еры прыватныя кавярні, яшчэ гадоў пяць-сем таму стаяў «водар» звычайнай савецкай сталоўкі, які заглушаў усялякі апэтыт і давадзіў да роспачы. Дзесяць гадоў незалежнага станаўленьня новай Польшчы пазбавілі ейных жыхароў ад падобных адчуваньняў.

20 сакавіка работнікі газэты і фонду «Наша Ніва», а таксама паэт, філёзаф і кіраўнік «Эўрафоруму» Ігар Бабкоў выступілі ў беластоцкай публічнай бібліятэцы. Паслухаць беларусаў зь Менску прыйшлі даўнія аўтары беластоцкай «Нівы» Надзея Артымовіч і Віктар Швед, студэнты беластоцкай філіі Варшаўскага ўнівэрсытэту... Публіцыст і перакладчык Ян Максімюк рэпрэзэнтаваў на гэтай сустрэчы анталёгію новай беларускай паэзіі 1987-1997 гадоў, укладальнікам якой ён і зьяўляецца. Перакладзеныя на польскую мову, у культурны кантэкст суседняй краіны трапілі вершаваныя тэксты трынаццаці беларускіх аўтараў. У пасьляслоўі да анталёгіі Максімюк заўважае: «Беларуская паэзія апошняга часу, уцякаючы ад банальнасьці калектыўных мітаў у сфэру інтымнасьці і прыватнага, пад ціскам вонкавых чыньнікаў ізноў апынулася «на першай лініі фронту». У сытуацыі, калі палітычная апазыцыя ў Беларусі падпала раззбраеньню й маргіналізацыі, беларуская культура застаецца найбольш эфэктыўнай зброяй у змаганьні супраць мангалізацыі грамадзтва».

Беластоцкая фіеста «Каралеўства Беларусь» пасьля паэтычнага зачыну мела працяг у музыцы. У адным зь мілых беластоцкіх падвальчыкаў выступілі гурты «NRM», «Новае Неба» і «Уліс». Слухачоў было якраз столькі, колькі трэба, каб свабодна перамяшчацца ад століка да століка. Грэла адчуваньне, что ты сярод сваіх у СВАІМ горадзе. І калі Слава Корань, саліст гурта «Уліс», засьпяваў хіт беларускага рок-супраціву «Радыё «Свабода», а заля дружна падхапіла песьню, на імгненьне падалося, што сучасная РБ — гэта толькі сон у вераб'іную ноч, які мінуўся разам з дрэнным надвор'ем.

Найбольшую колькасьць гледачоў сабрала мастацкая выстава. Артур Клінаў прадэманстраваў адзін са сваіх «катафалкаў» з чорнымі бутэлькамі, засьведчыўшы тым самым, што ягоная школа «пэкратычнага гіпэррэалізму» працягвае ўмацоўваць свае пазыцыі ва ўмовах акупацыі Беларусі. Мастак Віктар Пятроў-Хруцкі паказаў арт-пэрфоманс, прысьвечаны васьмідзясятай гадавіне БНР. Вядомы малявальшчык палеткаў Лёнік Тарасэвіч дэманстраваў сваю салідную фігуру на фоне відэакамэраў, мікрафонаў ды выкшталцоных панняў. Нехта ўпусьціў фужэр зь віном — атрымалася дарэчы. Купка цікаўных зазірала ў апарат, падобны на камэру-абскуру, папярэдне скінуўшы абутак. Цяжка сказаць, што яны там бачылі, бо мне, напрыклад, так і не ўдалося даступіцца да мэханізму. Адным словам, на выставе было цікава: панавала атмасфэра камунікабэльнасьці і рэспэкту.

Завяршылася культурная праграма дня ў пабе «На паддашку». Тут публіка дазволіла сабе расслабіцца. Мясцовае піва плёскалася ў кубках, як балтыйская хваля. Хто-ніхто блытаў кактэйль з ромам, пацягваючы апошні праз саламіну. Нехта з нашых прапаліў зялёнае сукно більярднага стала, але гасьціннасьць гаспадароў зьмікшыравала хваляваньні. На ўсю катушку адпачывалі беластоцкія студэнты-беларусы: пілі піва і сьпявалі разам зь менскімі музыкамі. За Лёнікам Тарасэвічам была заўважаная традыцыйная беларуская агрэсіўнасьць. Яна лунала над ім у вобразе мастакоўскае музы і нашэптвала на вушка. Адзін менскі літаратар, моцна ўзрушаны гасьціннасьцю беластоцкіх сяброў, вырашыў пакінуць Беластоку чырвоную тэчку з уласнымі вершамі. Праўда, ён ня можа прыгадаць, дзе адбыўся гэты сымбалічны акт.

22 сакавіка наша група ад'яжджала. Аўтобус адыходзіў па трэцяй дня. Толькі на вакзале мы нарэшце ўбачылі паліцыянта, які сядаў за руль службовага аўто. Вартавы польскага парадку аказаўся мясцовым беларусам. Мне захацелася сказаць яму нешта добрае. І я абавязкова скажу, калі наступным разам мы прыедзем у вольны горад Беласток з нашымі марамі пра вольную Беларусь.

**Славамір Адамовіч**

# Прымітыўны тэатар Еўсьцігнея Міровіча

Быць ці ня быць, — вось у чым пытаньне. Між тым, у Купалаўскім зноў бліскуча граюць вадзэвільчыкі.

Бадай, гэтая прэм'ера суб'ектыўна йшла пад знакам таго, што зьяжджае Мікалай Пінігін: Нацыянальны Акадэмічны застаецца тэатрам Раеўскага. «Тэатар Пінігіна» так і не матэрыялізаваўся ў Менску. Пінігін зьяжджае, бо ў Менску няма дзе й няма як ставіць клясыку. Усё ж Пінігін вернецца з БДТ так, як быў вярнуўся з Маскоўскага Тэатру Савецкай Арміі, ні з чым: ягоны тэатар магчымы толькі тут.

Сёньняшні Купалаўскі пагружае ў нейкую кафкіянскую атмасфэру: на ўваходзе дзяжураць дзябёлыя памятыя амонаўцы; за ўваходам вісіць чырвона-зялёны штандар; 25 сакавіка ў рэпэртуары тэатру «Памінальная малітва»; інтэлігентны хлопец, які пытаецца ля дзьвераў лішняга білеціка, ня ведае беларускай мовы, і прыходзіцца прадаваць яму квіткі ледзьве не на мігах; на рэпліку Некага (В.Рэдзька) «Я не магу зьняць паліто, бо... бо... на мне няма камізэлькі» ў заднім радзе нехта басам пытаецца, што такое камізэлька; у правай лёжы сядзіць і рагоча група жыцьцярадасных падлеткаў; тры чвэрці гледачоў, як толькі робіцца зразумела, што спэктакаль скончыўся, лятуць займаць чаргу ў гардэроб; найбольшы сьмех у залі выклікае рэпліка Жонкі (З.Белахвосьцік) «Ад цябе тхне гарэлкай»; Пакаёўкі і Слугі гавораць той самай моваю і з тым самым вымаўленьнем, што й іхныя Паны; на манерную рэпліку Жонкі-Японкі (Аляксандар Лабуш) «Эўразія — гэта я» ў залі адгукаецца воплескам адзін чалавек; гардэробніца крычыць на гледачоў; на сцэне за цэлы спэктакаль робіць толькі дзьве памылкі беларускай мовы; рэжысэр на паклон не выходзіць...

Усё круціцца, усё абарочваецца, усё мяняецца ў «Інтымным тэатры», арыгінальны варыянт якога ставіўся ў 1914 годзе, напярэдадні рэвалюцыяў: Жонка робіцца Пакаёўкай, Слуга стае Жонкай, а пасьля Мужам, Нехта пачынае выконваць ролю Мужа, а пасьля Слугі, etc. Каменны Госьць (Гарцуеў), Гітлер (Манаеў) і Атэла (Лабуш) ня здольныя ўзарваць руцінны прымітыў жыцьця — у выніку гінуць усе. Слова «рэвалюцыя», як вядома, спачатку азначала «абарот, абарачэньне». Слова «вадэвіль» таксама ўтварылася ад слова vauder — круціць. Круці не круці...

Круці не круці, а не з шынэлю Ігната Буйніцкага выйшаў беларускі тэатар, але з курортных самадзейных пастановак у мястэчку Блонь: Купалаўскаму дастаўся рэпэртуар, Расейскаму — мова, «Вольнай сцэне» — гульня актораў.

Што ж будзе, калі ня вернецца Пінігін? Калі сыйдуць здольныя акторы сёньняшняга Купалаўскага, сыйдуць, так і не сыграўшы ні ў чым, апроч брыкаў-скокаў?

У Маскве ўсё пачалося зь Неміровіча, а ў нас зь Міровіча.

Пытаньне ў выбары: быць ці ня быць.

**Андрэй Мышуга**

# Дакумэнтальная «Дамова з Гітлерам»

«Я ўпершыню рэалізаваў сябе як вольны мастак». Гэткімі словамі Уладзімер Колас азначыў сваю працу над новай дакумэнтальнай стужкай «Дамова з Гітлерам», якую паказалі 31 сакавіка ў Беларускім Гуманітарна-Адукацыйным Цэнтры. Пра што карціна? На гэткае ж самае пытаньне ў дачыненьні да сваіх твораў спрабуюць адказаць героі фільма — маладыя беларускія мастакі.

Нескладаны нібыта кантраст паміж развагамі мастакоў аб жыцьці і творчасьці і брутальнай рэчаіснасьцю сучаснай беларускай сталіцы, якія чаргуюцца ў адвольнай форме, у пэўны момант раскрываюць перад гледачом свайго кшталту галаграфічную карцінку. Як для мяне — перадчуваньне Свабоды...

Асобныя часткі й кавалкі фільма зьнітаваныя вобразам, створаным менскім мастаком Ігарам Цішыным. У адным закінутым да аварыйнага стану дамку Цішын знайшоў жытло сям'і бамжоў, і са згоды гаспадароў стварыў у дамку свайго кшталту мастацкую галерэю. У пакоях — авангардныя, сюр-сац-рэалістычныя інсталяцыі, на сьценах адпаведныя аплікацыі. Гаспадарам «мастацтва не перашкаджае», а Гітлер «вельмі падабаецца». Гаспадары — галоўны «экспанат» «галерэі».

Галерэя Цішына — жарт? У 1943 годзе герой апавяданьня Ігара Цішына, падчас службы ў партызанскім атрадзе жартам заключыў «Дамову з Гітлерам», у якой з густоўным сарказмам «абсьцябаў» «галоўнага фашыста». Камандзеры жартаўніка не зразумелі...

«Дамова з Гітлерам» Уладзімера Коласа сталася другой незалежнай дакумэнтальнай карцінай, створанай у Беларусі пасьля 1996 году. У адрозьненьне ад «Звычайнага прэзыдэнта», яе не магчыма перапрацаваць на ўзор праграмы «Куклы». Але, па меркаваньні стваральнікаў, яна будзе распаўсюджвацца «звычайнымі, напрацаванымі шляхамі». Ці стане перашкодай тое, што фільм «прысьвячаецца Джорджу Сорасу» — не вядома. Тым ня менш, прысьвячэньне не выглядае адно як дасьціпны жарт. Па прызнаньні Ўладзімера Коласа, ён «ня ведае, калі наступны раз зможа працаваць цалкам незалежна».

**Севярын Квяткоўскі**

# НОВЫ

Так атрымалася, што я нарадзіўся за два дні перад першым красавіка. Сьвяткаваньне зьяўленьня ўласнае асобы штораз замінае мне спрычыніцца да «міжнароднага дню сьмеху». Зрэшты, мяне гэта мала абыходзіць. Пэўна, у СССР сапраўдным Днём сьмеху стаўся дзень 12 красавіка, калі першы чалавек вярнуўся з Космасу на Зямлю. Асоба Юрыя Гагарына спарадзіла цэлую плойму анэкдотаў і «прыколаў». У тым ліку й «першакрасавіцкіх». Але з часам першы палёт у космас «падзялілі». У постсавецкі час Юрыя Гагарына паднялі на шчыт «альтэрнатыўшчыкі» кшталту «Нейрадзюбеля» і «Вопляў Відаплясава».

Пэўны час я ня мог зразумець, што натхняе сучасных альтэрнатыўшчыкаў на сьцёб з «саўка». Скуль у людзей, чые бацькі на пачатку 60-х яшчэ толькі хадзілі ў школу, бярэцца хай сабе сьцёбная, але «сьветлая туга» па «тых часох». Высьветлілася, што каб зразумець гэта, дастаткова 1 красавіка паглядзець расейскі ці беларускі тэлеканал. Кажуць, што ў Эўропе ў гэты дзень ладзяцца карнавалы. Магчыма, штосьці падобнае было і ў Беларусі гадоў дзьвесьце-трыста таму. Але сёньня ўсё зводзіцца да «белае сьпіны» і гульні ў КВН...

Колькі гадоў таму зьдзейснілася запаветная мара сотняў менскіх студэнтаў: беларуская каманда КВН «прабілася ў людзі» — патрапіла ў фінальныя гульбішчы славутага шоў. Я тады асабліва ня браў да галавы няўдалыя жарты «знаходлівых», якія спрэс круціліся вакол партызанаў, бульбы, і сьмешнага яшчэ на той час пэрсанажа ППРБ. У мяне перад вачыма ўвесь час былі бел-чырвона-белыя сьцягі, якія штораз узьвіваліся над галовамі прыхільнікаў беларускае каманды. У наступны фінал КВН беларуская каманда таксама патрапіла. Але на гэты раз спонсарамі каманды выступалі не незалежныя структуры, а Адміністрацыя. Сьцягі памянялі колер, спэктар жартаў звузіўся да тэмы бульбы...

Гледзячы перадачы КВН, я ніколі ня мог уявіць сабе на сцэне літоўскую ці эстонскую каманду. А калі пабачыў армянскую, адчуў, што шкадую журы. Хлопцы з усяе моцы выпінаіліся дзеля дасьціпных жартаў, але атрымлівалася звычайная пахабшчына. Гэтак недарэчна іншаземцы ўжываюць ненармаваную лексыку: нібыта смачна гучыць, але што да чаго?..

Жарт — канцэнтрацыя мэнтальнасьці носьбіта культуры. Жарт зьява імгненная — сакрэт посьпеху жарта ў дарэчнасьці. Я глядзеў перабудованыя КВНы і наракаў на суайчыньнікаў, маўляў, не хапае мазгоў і жаданьня, каб гэтак сама як іншыя «крута сьцябацца» з рэчаіснасьці. З савецкай рэчаіснасьці.

Беларуская каманда згубіла момант, шанец на зорны час. Бо выбілася ў «крутыя», калі ўжо колькі гадоў як зьнік Савецкі Саюз. Калі прадметы жартаў з палітычных паволі памяняліся на праблематыку «новых рускіх» і да таго падобнага. Калі КВН пачаў занепадаць. Бо ён быў народжаны як клюб вясёлых і знаходлівых

# Чорная дата найноўшай гісторы

Уноч з 11-га на 12-га красавіка 1995 году ў будынку Дому ўраду быў учынены гвалт у дачыненьні да 19-ці дэпутатаў ад апазыцыі Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня: іх зьбілі і дэпартавалі з Авальнай залі. Тады іхныя калегі па дэпутацкім мандаце праглынулі падзею, якая стала пачаткам пахавальнай цырымоніі для парлямэнтарызму ў Беларусі. Дэпутаты апазыцыі Беларускага Народнага Фронту Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня М.Аксаміт, С.Антончык, Л.Баршчэўскі, Ю.Беленькі, І.Германчук, В.Голубеў, Б.Гюнтэр, Л.Дзейка, У.Заблоцкі, Л.Зданевіч, М.Крыжаноўскі, В.Малашка, М.Маркевіч, С.Навумчык, З.Пазьняк, С.Папкоў, П.Садоўскі, А.Трусаў, А.Шут тры гады назад пастанавілі да канца выказаць свой пратэст супраць плянаванага антынацыянальнага рэфэрэндуму.

Нагадаем, што напачатку бальшыня дэпутатаў падтрымала толькі два пытаньні — аб інтэграцыі з Расейскай Фэдэрацыяй і аб магчымым роспуску прэзыдэнтам парлямэнту. Лёсавызначальныя для беларускай дзяржавы пытаньні мовы й сымболікі пры першым галасаваньні для ўключэньня ў рэфэрэндум не набралі неабходнай колькасьці галасоў. Тым ня менш, дэпутаты ад апазыцыі абвясьцілі галадоўку.

11-га кастрычніка ў Вярхоўным Савеце выступіў лідэр БНФ Зянон Пазьняк, які адзначыў, зьвяртаючыся да дэпутатаў: «Спадары дэпутаты! Мінула амаль пяць гадоў дзейнасьці Вярхоўнага Савету, у якім усё вызначала і вызначае былая камуністычна-намэнклятурная большасьць. Які ж вынік вашай дзейнасьці за пяць гадоў, спадары дэпутаты? Што вы нарабілі, што натварылі? Пяць гадоў таму ў нас быў аднолькавы жыцьцёвы ўзровень, як і ў краінах Балтыі. Але краіны Балтыі пайшлі па шляху свабоды і эканамічных рэформаў і цяпер ужо пачынаюць карыстацца пладамі сваёй разумнай палітыкі. Беларусь жа, дзякуючы перш за ўсё вашай дзейнасьці, пакацілася ў яму жабрацтва, разбурэньня эканомікі, інфляцыі. Ад рэформаў адмовіліся, краіну абрабавалі, народ абакралі, маёмасьць «прыхватызавалі». У людзей забралі грашовыя ўклады і аблігацыі, не далі ні зямлі, ні працы, ні нармальнага сацыяльнага забесьпячэньня. На кожную душу павесілі велізарную дзяржаўную пазыку. І што прапануеце вы цяпер разам з вашым прэзыдэнтам, якога вы прыдумалі, спадары намэнклятурныя дэпутаты? Што прапануеце вы цяпер, «пад заслону», у канцы вашай бясплённай, разбуральнай дзейнасьці? Абрабаваўшы народ, вы, топчучы Канстытуцыю і закон, прапануеце яму рэфэрэндум аб яго сьвятой беларускай мове, аб яго гістарычных сьцягу і гербе ва ўмовах жабрацтва бяспраўя, інфармацыйнай блякады і поўнага беззаконьня. Абрабаваўшы народ, вы гатовыя прадаць незалежнасьць яго Бацькаўшчыны, кінуць яго пад эксплюатацыю і расправу сваёй і замежнай мафіі. Вось вынік вашай пяцігадовай дзейнасьці. Мы, дэпутаты апазыцыі Беларускага Народнага Фронту, пратэстуем супраць зьдзеку над нашым народам, над нашай Айчынай, над Канстытуцыяй і законамі Рэспублікі Беларусь. Вычарпаўшы ўсе магчымасьці, у знак пратэсту супраць антызаконнасьці і згубнасьці вашых дзеяньняў, мы аб'яўляем галадоўку тут, у цэнтры гэтай залі, пачынаем яе цяпер, з гэтай хвіліны. Мы патрабуем выкананьня Канстытуцыі, законаў Рэспублікі Беларусь, свабоды слова і ліквідацыі цэнзуры, спыніць рабаваньне народа і Бацькаўшчыны».

Подпіс ужо згаданых 19-ці дэпутатаў. Цяпер гэтыя людзі ў розных партыях і краінах, аднак ацэнкі тае падзеі і наступкі наўрад ці будуць розьніцца.

Дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня, актывіст Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» Лявон Дзейка: «Я памятаю добра, як у той час прэзыдэнт Лукашэнка, выступаючы па тэлевізіі гаварыў, што там ніхто нікога не зьбіваў, «они торжественным маршем, Позьняк впереди, тихонечко вышли», пасьля сьцьвярджаў, што мы арганізавалі там нейкую бойку — тыповая «гебэльсаўшчына» спадара Лукашэнкі, якая была бачная ўжо ў тыя часы. Нашыя мэтады, павінен я адзначыць, гэта быў ужо крок адчаю. Ужо з восені 1994 году пачалася дэмаралізацыя Вярхоўнага Савету з боку Адміністрацыі прэзыдэнта. Найбольш слабых палохалі, некаторых спакушалі пасадамі, і калі пытаньне аб рэфэрэндуме трэба было вызначаць галасаваньнем, бальшыня парлямэнту і ягонае кіраўніцтва былі адпаведна маральна падрыхтаваныя. Гэта цяпер яны добра гавораць, што ніколі ня трэба верыць гэтаму чалавеку, што прэзыдэнт наабяцае і ня выканае, але тое ж самае яны ведалі і тады... Мы хацелі перашкодзіць гэтаму рэфэрэндуму, магчыма трэба было нам быць больш цьвёрдымі — працягваць і працягваць акцыю — у іншых месцах, будынках. З боку ўладаў гэта быў адзін зь першых крокаў па раскручваньні практыкі рэпрэсіўнага кіраваньня дзяржаваю. Рэакцыя іншых дэпутатаў на нашыя дзеяньні была рознай — нехта адводзіў вочы, а нехта, хто цяпер узгадвае тыя падзеі з мэтаю прадэманстраваць усталяваньне таталітарызму ў Беларусі, тады глуміўся. У нашыя дні гэтыя людзі — пад вялікай грамадзкай увагай, я б не хацеў называць імёны, бо можа яны сапраўды шчыра перагледзелі свае погляды. Я павінен нагадаць, што 11-га красавіка 95-га году, пасьля таго, як скончылася паседжаньне (а мы сядзелі каля трыбуны), як дэпутаты пакінулі Дом ураду, з намі была карэспандэнт Радыё «Свабода» Алена Радкевіч. Яна каля 9-й гадзіны вечара была выдаленая з залі ў грубай форме адным з кіраўнікоў службы дзяржаўнай аховы (ён і цяпер там пры пасадзе) Міхаілам Цесаўцом. Дом ураду быў ачэплены, усе двары былі запоўненыя спэцназаўцамі, вялікай колькасьцю апэратыўнікаў КГБ, людзьмі ў чорных масках — гэта помніцца вельмі добра. Выдаленьне 19-ці дэпутатаў адбывалася так —раптам адчыніліся ўсе дзьверы Залі паседжаньняў, і ў тры патокі хлынула лава шэра-чорнай масы, якая літаральна затапіла гэтую Залю. Уражаньне — Лацінская Амэрыка ў самых яе трагічных праявах... Мы супраціўляліся хто як мог, але былі скручаныя, кінутыя ў міліцыйныя машыны. Я ехаў з дэпутатам з Ваўкавыску Мікалаем Аксамітам. Самае галоўнае, што запомніў асабіста я —я да апошняй хвіліны, да той пары, пакуль не адкрыліся гэтыя дзьверы, лічыў, што ў мяне, як у абраньніка народа, ёсьць мой мандат, які мяне бароніць. Тое, што гэтая ўладная карная экспэдыцыя пераступіла мяжу так лёгка, для ўсіх нас стала вялікім патрасеньнем. Ужо тады я сказаў: «На Беларусь прыйшоў фашызм». 12-га кастрычніка 95-га году старэйшы сьледчы па асабліва важных справах пры Генэральным пракуроры Рэспублікі Беларусь Бролішс пасьля разгляду справы аб падзеях у Доме ўраду, якая была ўзбуджаная 12-га красавіка, пастанавіў: «Паводле заключэньня судмэдэкспэртызы у сямі дэпутатаў былі лёгкія, якія не пацягнулі за сабой шкоды здароўю, цялесныя пашкоджаньні ў выглядзе крывападцёкаў, нанясеньне якіх магчыма пры ўмовах, акрэсьленых пацярпелымі. Устаноўлена, што ў Доме ўраду былі ваенаслужачыя ўнутраных войскаў першай роты вайсковай часткі 3214 у колькасьці 37 чалавек, першай роты вайсковай часткі 5448 у колькасьці 43 чалавекі, атрад спэцназу МУС у колькасьці 43-х чалавек, 24 служачыя Галоўнага ўпраўленя аховы МУС. Апроч пералічаных у Доме ўраду былі і зьдзяйсьнялі актыўныя дзеяньні ў дачыненьні да дэпутатаў падразьдзяленьні, прыналежнасьць якіх і асабовы склад якіх сьледзтвам не ўстаноўленыя. Упраўленьне аховы пры прэзыдэнце краіны неаднаразовыя запыты пракуратуры пакінула без рэагаваньня. Касэты відэазапісу, выкананага ў Залі паседжаньняў Вярхоўнага Савету, Адміністрацыя прэзыдэнта сьледзтву не перадае. Запісы маюць істотнае значэньне для вызначэньня кола ўдзельнікаў падзеяў. Сабраныя доказы сьведчаць, што дзесяці дэпутатам Вярхоўнага Савету, на якіх распаўсюджваецца палажэньне артыкулу 37-га аб дэпутацкай недатыкальнасьці Закону «Аб статусе народнага дэпутата», дзеяньнямі прадстаўнікоў улады нанесеныя цялесныя пашкоджаньні. Аднак высьветліць канкрэтныя асобы і абставіны на гэты момант немагчыма. Папярэдняе сьледзтва па справе прыпыніць за нявысьветленасьцю асобаў, якія мусяць быць прыцягнутыя як вінаватыя». Подпіс: старэйшы сьледчы, старэйшы дарадца юстыцыі Я.Бролішс.

У крытычныя моманты Лукашэнка заўсёды дзейнічае, разьлічваючы на страх. Але тых дэпутатаў не ўдалося зламаць — супраць іх была проста ўжытая сіла, як не ўдалося зламаць мэтрапалітэнаўцаў — супраць іх была ўжытая сіла. Але ўжо ў крытычны момант для Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, калі вырашалася пытаньне рэфэрэндуму 1996 году і фактычна лёсу краіны на многія гады, Лукашэнку не спатрэбіліся гвалтоўныя мэтады, бо людзям, якія, здавалася б, павінны былі насьмерць стаяць за ідэалы дэмакратыі, не хапіла мужнасьці і адказнасьці.

**Падрыхтавала Вольга Караткевіч**

*З 1 сакавіка ў эфірнай пrasторы Беларускай рэдакцыі Польскага Радыё-5 выходзіць праграма «Бумэранг». Гэта аўтарская праграма, якая рыхтуецца пры ўдзеле Архіву Найноўшае Гісторыі. «Бумэранг» — унікальная магчымасьць пачуць галасы сьведкаў і ўдзельнікаў падзеяў нядаўняга мінулага НЕСАВЕЦКАЕ Беларусі. Мінулага, якое мы называем Найноўшым Часам, часам нашага жыцьця і жыцьця нашых бацькоў. Слухайце «Бумэранг» штонядзелі ў 16-30 (41,27м 7270 кГц; 49,22м 6095 кГц).*

**У беларускім нацыянальным адраджэньні канца XIX — пачатку XX стагодзьдзя Прага ўжо a рrіогі займала важнае месца. Рэч у тым, што за чатырыста гадоў перад тым Прагу назаўсёды ўпісаў у беларускую гісторыю першадрукар Францішак Скарына, які бясспрэчна займае вяршыню нашага нацыянальнага пантэону. Так сталася, што галоўным нашым нацыянальным героем стаўся ня князь ці кароль, вайскаводзец ці сьвяты патрон-місіянэр, а дзяяч культуры. І так сталася, што зорка ягоная ўзышла менавіта ў Празе.**

Беларуская незалежніцкая ідэалёгія жывілася й іншымі імпульсамі з Прагі — уласна чэскімі, азіраючыся на магутнае чэскае нацыянальнае адраджэньне XIX стагодзьдзя. Так, артыкул у «Нашай Ніве» пра адбудову чэскага Нацыянальнага Тэатру стаўся адным з запамінальных знакавых тэкстаў, закладзеных у стратэгію адраджэньня.

Зьвернемся аднак да падзеяў, зьвязаных зь цяперашнім юбілеем, і паспрабуем прасачыць разьвіцьцё беларускай незалежнай дзяржаўнасьці ў ягоным праскім аспэкце, прыслухаемся да «праскага акцэнту» Беларускай Народнай Рэспублікі.

Парушыўшы звычайную завядзёнку, сёньня я ня буду распавядаць пра кроніку беларускай нацыянальнай рэвалюцыі і прыгадваць, што адбывалася ў Беларусі, у Эўропе й сьвеце 80 гадоў таму. Пра гэта, зрэшты, сёньня ёсьць дзе пачытаць або паслухаць. Зазначу толькі, што падчас канвульсіяў Расейскай Імпэрыі беларусы пасьпелі запісацца ў клюб нацыяў, якія заявілі аб сваім праве на самастойную дзяржаўнасьць. Гэтая заяўка, хоць і не заўсёды бралася да разгляду гаспадарамі палітычнае сытуацыі, аднак была назаўсёды зарэгістраваная ў канцылярскіх кнігах гісторыі.

Свой роспавед я пачну з таго, як у сьнежні 1918 году Ўрад БНР эвакуяваўся ў Вільню, а на самыя Каляды ў Горадню — апошні лапік незанятай бальшавікамі беларускай тэрыторыі. Пачалася пакутная эпоха выгнаньня й спробаў заклікаць да сумленьня эўрапейскіх дэмакратыяў у беларускім пытаньні. Прэм'ер-міністар БНР Антон Луцкевіч рыхтаваўся да выезду ў Парыж на мірную канфэрэнцыю, аднак выезд гэты затрымваўся фінансавымі праблемамі. Дзеля іх вырашэньня адмысловая ўрадавая дэлегацыя скіравалася на Ўкраіну, дзе была атрыманая дзяржаўная пазыка ад ураду Ўкраінскай Народнай Рэспублікі.

У сакавіку 1919 году Антон Луцкевіч выяжджае ў Бэрлін, дзе чакае дазволу на выезд у Парыж. У гэтым часе было пастаноўлена перавезьці ўсе ўрадавыя грошы ў Прагу, якая ўжо амаль паўгады была сталіцаю маладой чэхаславацкай дзяржавы і выглядала найбольш спакойным і бясьпечным месцам для захоўваньня дзяржаўнага скарбу.

Так упершыню дзеячы БНР зьявіліся ў Празе. У траўні 1919 году Аляксандар Цьвікевіч, паўнамоцны пасол БНР пры ўрадзе Ўкраінскай Народнай Рэспублікі, заладзіўшы фінансавыя справы, завязаў першыя кантакты з чэскімі палітыкамі і акрэдытаванымі ў Празе замежнымі дыпляматамі — прадстаўнікамі Францыі, Украіны і Галічыны. На падрыхтаванай гэткім чынам глебе ў сярэдзіне траўня адбылася паездка ў Прагу прэм'ера БНР Антона Луцкевіча, які 17 траўня быў прыняты ў праскім Градзе прэзыдэнтам Масарыкам. У сваёй пазьнейшай справаздачы Антон Луцкевіч адзначыў гэткія вынікі сваёй сустрэчы з чэскім прэзыдэнтам: Масарык абяцаў падтрымаць беларускую справу наагул; аддаў паручэньне міністру Бэнэшу ў Парыжы актыўна падтрымаць беларускую акцыю і беларускую дэлегацыю; выказаў згоду прыняць сталага неафіцыйнага прадстаўніка ў Празе; паабяцаў паслаць Прадстаўніка Чэхіі ў сталіцу Беларусі пры вяртаньні туды беларускага Ўраду.

Падчас вырашэньня фінансавых праблемаў дзеячы БНР пазнаёміліся ў Празе з прадстаўнікамі чэскага грамадзтва і тымі арганізацыямі, якія так ці йнакш былі зацікаўленыя беларускім пытаньнем. У выніку гэтых кантактаў была праведзеная падрыхтоўчая праца да заснаваньня ў Празе Беларускага Камітэту. Першы сход беларусаў-грамадзянаў Чэскай Рэспублікі адбыўся 4 чэрвеня 1919 году. На сходзе Аляксандар Цьвікевіч зрабіў агітацыйна-інфармацыйны даклад пра беларускі нацыянальна-палітычны рух і яго сучасны стан. Была абраная ўправа Камітэту, старшынёю стаўся стары беларускі дзяяч, карэспандэнт «Нашай Долі» й «Нашай Нівы» Мікалай Вяршынін, сакратаром Васіль Скаварада.

5 чэрвеня беларускія палітыкі выехалі ва ўсходнечэскае мястэчка Хоцэн, дзе на той час быў галоўны лягер ваеннапалонных былога расейскага войска, дзеля азнаямленьня з становішчам палонных беларусаў. 9 чэрвеня Мікалай Вяршынін быў афіцыйна прызначаны ўпаўнаважаным Ураду БНР у справах ваеннапалонных у Чэхаславаччыне.

Апрача ўсіх гэтых захадаў, дзеля азнаямленьня чэскага грамадзтва зь беларускім пытаньнем А.Цьвікевіч напісаў адмысловую брашуру, якая была ў чэскім перакладзе выдрукаваная ў праскай газэце «Tribuna».

У тым самым часе Антон Луцкевіч вёў зацятую дыпляматычную барацьбу ў Парыжы за права Беларусі на палітычнае існаваньне. Неацэнную падтрымку й дапамогу ў гэтай барацьбе беларусы мелі ад чэхаславацкай дэлегацыі ў Парыжы на чале зь міністрам замежных справаў Эдвардам Бэнэшам. Уся дыпляматычная перапіска Беларускай Народнай Рэспублікі паміж Парыжам, Прагай, Бэрлінам і Варшавай ажыцьцяўлялася праз чэхаславацкую дыпляматычную пошту.

Вельмі зручнае геаграфічнае дый геапалітычнае становішча Прагі вызначыла пастанову сяброў Ураду БНР перанесьці сядзібу Канцылярыі Ўраду ў Прагу. Пастанова гэтая была прынятая ў ліпені 1919 году, аднак ёй не было наканавана ажыцьцявіцца —празь месяц бальшавіцкая акупацыя Беларусі зьмянілася польскай, і ў выніку дамоваў і кампрамісаў ад новых акупацыйных уладаў быў атрыманы дазвол на скліканьне чароднай сэсіі Рады БНР. Даючы дазвол, польскія ўла-

Сяргей Шупа

# ПРАГА І БЕЛАРУСКАЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ*

ды разьлічвалі на ляяльнасьць з боку беларускіх палітыкаў, аднак у асяродзьдзі самых гэтых палітыкаў пазыцыі ў дачыненьні да Польшчы істотна розьніліся. Прывяло гэта да таго, што Рада БНР на паседжаньні 13 сьнежня 1919 году падзялілася на дзьве часткі, адна зь іх —прыхільнікі Антона Луцкевіча — пацьвердзіла паўнамоцтвы ягонага Ўраду і дзеля апэрацыйнае мэтазгоднасьці перадала свае функцыі 5-асабовай дырэкторыі — Найвышэйшай Радзе БНР. Другая частка Рады — фракцыі сацыял-рэвалюцыянэраў і сацыял-фэдэралістаў — абвясьціла курс на змаганьне з усімі акупантамі, пераабрала Прэзыдыюм Рады і Ўрад — Раду Народных Міністраў. Старшынём Рады БНР стаўся Пятро Крэчэўскі, Урад узначаліў Вацлаў Ластоўскі. Польскія ўлады адказалі на гэты выступ рэпрэсіямі — Ластоўскі й яшчэ тры сябры новага Прэзыдыюму былі арыштаваныя. Старшыня Крэчэўскі й ягоны намесьнік Васіль Захарка перайшлі на нелегальнае становішча і ў хуткім часе здолелі ўцячы з краіны — у Бэрлін. Праз колькі месяцаў выехаў за мяжу — празь Літву ў Латвію — вызвалены зь Менскай турмы Вацлаў Ластоўскі. Так пачаўся новы этап у гісторыі БНР.

Антон Луцкевіч, які пасьля трагічнага менскага расколу пасьпяшаўся вярнуцца ў Парыж, апынуўся ў польскай пастцы —улады адмовіліся даць яму дазвол на выезд у Францыю. Праіснаваўшы колькі тыдняў у гэткім паралізаваным стане, Луцкевіч фактычна адыходзіць ад актыўнай дзейнасьці прэм'ера БНР, і ўсе паўнамоцтвы прымае на сябе рэвалюцыйны ўрад Ластоўскага.

Раскіданасьць сяброў Ураду й Прэзыдыюму Рады БНР блізу што па ўсёй Эўропе — Рыга, Бэрлін, Парыж — зноў паставіла на парадак дня пытаньне аб згуртаваньні ў адным месцы і зноў гэтым месцам была абраная Прага. Перамовы аб пераезьдзе ў Прагу цягнуліся ўсё лета 1920 году. Аднак дзеля нястачы сродкаў і гэтым разам ідэя засталася нерэалізаваная. Тым часам Мікалай Вяршынін быў прызначаны паўнамоцным прадстаўніком Ураду БНР у Празе на правох консула. Ягоная кватэра на Вэнцыговай, 4, сталася на доўгія гады своеасаблівым беларускім Штабам у Празе —неафіцыйнай сядзібаю дзясяткаў арганізацыяў. Пра тое, што сабою ўяўляў гэты штаб, сам Вяршынін пісаў у верасьні 1920 году:

«Я сямейны. Жыву у той самай кватэры што жыў перад вайною (адзін пакой і кухня) і у сябе садзяржу сваю канцылярію, бо наняць мешкане для канцылярії ня маю за што. Мне стыдна як прэдстаўніку Беларусі, калі ка мне прыходзяць чужые людзі».

Тым часам у кастрычніку 1920-га ў Рызе быў падпісаны прэлімінарны расейска-польскі мір, на ўмовы якога марна спрабавала паўплываць беларуская дэлегацыя на чале з Ластоўскім. Канчаткова мірная дамова была падпісаная 18 сакавіка 1921-га, на моцы яе Беларусь была падзеленая паміж Польшчай і Расеяй.

У кастрычніку 1920 адбылася яшчэ адна падзея, якая абярнулася для беларусаў здабыцьцём нечаканых саюзьнікаў. 10 кастрычніка польскі генэрал Жэлігоўскі акупаваў Вільню й Віленскі край, на які дагэтуль паводле савецка-літоўскай дамовы прэтэндавала Літва. З увагі на тое, што абсалютную большасьць на страчаных гэткім чынам Літвою землях складалі беларусы, Літоўскі Ўрад зацікавіўся пэрспэктывай супрацоўніцтва з Урадам БНР. У выніку ў лістападзе была падпісаная міжурадавая дамова аб супрацоўніцтве і Ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі Вацлава Ластоўскага атрымаў афіцыйны прытулак у Коўне. Стратэгічны разьлік палягаў у тым, каб памагчы Літве выбіць палякаў зь Віленшчыны й Гарадзеншчыны, і з гэтых ускраін беларускай тэрыторыі — своеасаблівага беларускага П'емонту — распачаць барацьбу за незалежнасьць астатняй Беларусі.

Новая палітычная сытуацыя, якая настала пасьля падпісаньня Рыскага міру — падзел Беларусі, стварэньне на расейскім баку савецкай беларускай рэспублікі, Слуцкае паўстаньне, паход Балаховіча, стан культурнай працы ды іншыя надзённыя праблемы патрабавалі новага асэнсаваньня ў колах беларускай палітычнай эміграцыі, выбару новых арыентыраў нацыянальнага палітычнага руху. З гэтай мэтай увосень 1921 году адбылася прадстаўнічая Беларуская нацыянальна-палітычная нарада з удзелам дэлегатаў зь Літвы, Латвіі, Польшчы ды іншых краінаў. Зусім натуральна, што канфэрэнцыя гэтая адбылася ў Празе. Яе праца праходзіла ад 26 да 29 верасьня 1921 году ў Обэцнім Доме — адным з найлепшых рэпрэзэнтацыйных будынкаў чэскай сталіцы — і шырока асьвятлялася ў чэскім друку. Адна з галоўных прынятых нарадаю рэзалюцыяў сьцьвердзіла, што адзінай законнай уладай Беларусі застаецца Ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі. Нарада заклікала аб'яднаць вакол Ураду БНР сілы ўсіх беларускіх партыяў, арганізацыяў і групаў дзеля дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі. Пасьля сканчэньня нарады яе дэлегаты наведалі міністра замежных справаў і прэм'ер-міністра Бэнэша, усклалі кветкі чэскім героям і агледзелі Біблію Скарыны ў Праскім Музэі.

Беларуская нарада ў Празе супала ў часе зь яшчэ адной важнай падзеяй у гісторыі беларускай Прагі. У верасьні 1921 году чэскі ўрад выдзяліў некалькі дзясяткаў стыпэндыяў для беларускіх студэнтаў, якія атрымалі магчымасьць вучыцца ў вышэйшых школах Чэхаславаччыны. Гэтым распачалася яскравая зьява ў міжваеннай беларускай гісторыі — праскае беларускае студэнцтва, якое дало нашай палітыцы й культуры не адзін дзясятак высокаадукаваных актыўных дзеячоў. Гэта аднак асобная тэма якая патрабуе асобнага шырэйшага разгляду.

Пасьля Беларускай Нацыянальна-Палітычнай Нарады ў Празе застаецца для палітычнай працы старшыня Прэзыдыюму Рады БНР Пятро Крэчэўскі. Працы гэтай было нязьмерна шмат — Прага сталася галоўным асяродкам расейскай, украінскай, кубанскай, грузінскай — пераважна сацыялістычнай антыбальшавіцкай —эміграцыі. На гэтай глебе высьпявала шмат супольных палітычных праектаў, у якіх беларусы прымалі чынны ўдзел.

Дзейнасьць Крэчэўскага ў Празе выявіла й пэўную неспрактыкаванасьць беларускіх палітыкаў. Прэзыдэнт Рады БНР не парупіўся аб неадкладным навязаньні палітычных кантактаў з чэхаславацкімі ўладамі. Гэта паставіла яго ў вельмі неспрыяльнае маральнае й матэрыяльнае становішча. Так, 28 кастрычніка 1921 году ён пісаў Вацлаву Ластоўскаму ў Коўна:

«Урадовая дапамога да новага году будзе немагчыма, але і з гэтай стараны была з нашаго боку зроблена абмылка ў тым, што я адразу не зрабіў нікому з ураду візытаў. [...] да Бенеша йсьці я не адважыўся і толькі цяпер можэ разам з украінцамі і кубанцамі я зламаю той лёд, які быў створаны нашай агульнай абмылкай [...] я і цяпер ні маю ні фэніга і не прыймаў ніякіх крокаў — так сама нічога не мае і Вершынін. Кінуты на праізвол лёсу я нават не магу спакойна працаваць і выкарыстовываць усе тые палітычные магчымасьці для нашай справы, якіе бы мог выкарыстаць, а пагроза, што мяне хутко выставяць з Готэля зусім паралізуе працу — сталась так як я і гаварыў з пачатку у Празе».

Ня ў лепшым становішчы быў і паўнамоцны прадстаўнік БНР у Празе Мікола Вяршынін. Зь ліста Ластоўскаму за 11 сьнежня 1921 году:

«Вельмі прашу Урад Б.Н.Р. высылаць мне грошы хоць на садзержане Канцэляры̆і, бо як за канцылярскіе матеріалы, так і за пачтовыя і тэлеграфные расходы я не у сілах сам плаціць. Часам самая пільная праца тармозіцца. Акром таго ўжо даўно студэнт Гладкі падаў мне счот на 308 карон, якіе ен расходаваў з сваіх у часе Конферэнціі ў Празе (пакупка газэт і г.д.). Ён кожны дзень бегае ка мне за гэтымі грашыма, бо сам галее бяз грошай. Так сама художнік Суслоў прыхадзіў ка мне нескалькі разоў за грашыма за адрес презыдэнту Масарыку. Ён угражае, што падасьць у суд і апублікуе ў газеце. Вось гэтыя патрэбы трэба як найхутчэй заспакоіць».

Вось яшчэ ўрывак зь ліста Крэчэўскага за студзень-люты 1922 году:

«Да нас беларусаў і да ўсёй беларускай справы наогул ва ўсіх групах адносіны добрые, каб яшчэ было троху грошэй і часьцей можна было спатыкацца прыватна, хаця бы с Чэскімі Урадовымі сфэрамі, то і зусім добра было б. Аб гэтым трэба падумаць. Апроч таго трэба на 25 сакавіка падгатаваць таржэственнае святкаваньне з тэлеграмамі, абедам, і г.д. Як у Вас з грашыма. Мы тут ледва жывем. Вершынін нават пачынае лаяцца за мною, што яму не плоцяць яго даўгоў. Я цягну жабрацкае істнаваньне. Ведаю, што і ў Вас трудна, але галадоўка дае знаць».

10 сакавіка 1922 году на сходзе Рады Народных Міністраў БНР было пастаноўлена запрапанаваць старшыні Крэчэўскаму перабрацца ў якую іншую краіну зь ніжэйшымі коштамі жыцьця. Аднак да канца лета, калі Пятро Крэчэўскі пераедзе ў Коўна, яму даводзіцца сяк-так працягваць існаваньне ў Празе.

Тым часам у красавіку 22-га прайграецца яшчэ адна дыпляматычная бітва — эўрапейская эканамічная канфэрэнцыя ў Генуі ня ўзялася пераглядаць ганебны Рыскі мір, на што амаль безнадзейна спадзяваліся беларускія палітыкі. Да таго ж адна з заяваў, падпісаных дэлегацыяй БНР у Генуі — адносна прыналежнасьці Вільні, зь відавочнымі авансамі ў бок Літоўскай Рэспублікі — выклікала канфлікт у Радзе Народных Міністраў, які дадаўся да некаторых іншых даўніх непаразуменьняў. У выніку ў красавіку 1923 году Вацлаў Ластоўскі пакідае пасаду прэм'ера і фактычна рве ўсе адносіны з колішнімі паплечнікамі ў змаганьні.

Новы Ўрад Аляксандра Цьвікевіча ставіць кропку на беларуска-літоўскім міжурадавым супрацоўніцтве, якое не вызначалася шчырасьцю зь літоўскага боку. Пасьля вырашэньня Лігай Нацыяў увесну 1923 году віленскага пытаньня на карысьць Польшчы, Літва цалкам страчвае цікавасьць да сваіх колішніх часовых саюзьнікаў у спробах забраць у Польшчы колішнюю сталіцу ВКЛ.

У сьнежні 1923 году Ўрад і Прэзыдыюм Рады БНР пераяжджаюць у Прагу, якая на той час сталася галоўным асяродкам беларускай эміграцыі — дзякуючы перадусім багатаму студэнцкаму жыцьцю і дзейнасьці беларускіх эсэраў. Аднак гэтым разам чэхаславацкія ўлады паставілі перад дзеячамі БНР умову: побыт на тэрыторыі Чэхаславаччыны ім дазваляецца толькі пры іхнай адмове дзеяньня ў якасьці эміграцыйнага ўраду. Такім чынам афіцыйна сябры Ўраду і Прэзыдыюму Рады БНР сталіся ў Празе прыватнымі асобамі і прысьвяцілі сябе партыйнай грамадзкай дзейнасьці.

Няяснасьць палітычных пэрспэктываў, няздольнасьць самарэалізавацца ў эміграцыйным асяродзьдзі прывялі да таго, што менш чым праз два гады міністры Ўраду БНР зь лёгкасьцю прынялі прапанову эмісараў зь Менску пераехаць у БССР. Дзеля гэтага ў кастрычніку 1925 году ў Бэрліне была скліканая Беларуская Палітычная канфэрэнцыя, дзе Аляксандар Цьвікевіч і ягоныя калегі прызналі БССР адзіным асяродкам беларускай дзяржаўнасьці і пастанавілі выехаць у Менск. Гэтая акцыя, насуперак цьверджаньням савецкіх ідэолягаў, не азначала самаліквідацыі БНР, гэтак разрэклямаванай у тагачасным менскім друку. Яшчэ да пачатку канфэрэнцыі міністры склалі свае паўнамоцтвы і такім чынам выступалі на канфэрэнцыі як прыватныя асобы.

З рэзкім пратэстам супраць учынку былых міністраў і зь непрыняцьцем пастановаў канфэрэнцыі выступілі Старшыня Прэзыдыюму Рады БНР Пятро Крэчэўскі і ягоны намесьнік Васіль Захарка. Ад гэтага часу яны фактычна аднаасобна перахоўвалі палітычную спадчыну Беларускай Народнай Рэспублікі, якая ператварылася тады ў чыстую ідэю, у высокі сымбаль беларускай незалежнай дзяржаўнасьці, матэрыялізаваны ў апошніх сакральных атрыбутах Рэспублікі — дзяржаўнай пячатцы і дзяржаўным сьцягу.

Пятро Крэчэўскі памёр 8 сакавіка 1928 году. Было яму 48 гадоў. Сьцяг сьветлай беларускай надзеі пераняў у свае рукі Васіль Захарка, які на той час застаўся адзіным, апошнім дзейным палітыкам Беларускай Народнай Рэспублікі. Аднак калі ў сакавіку 1943-га паміраў ён сам, яму ўжо было каму перадаць ідэю незалежнасьці, ахвярна захоўваную праз даўгія гады безнадзейнасьці. Закончылася Другая Сусьветная вайна і Беларуская Народная Рэспубліка адрадзілася з апошняй нязгаслай іскры, пахаванай пад халодным попелам гісторыі.

Сёньня мы мусім выказаць удзячнасьць гэтаму гораду, гэтай сталіцы нашай Эўропы, дзе друкаваў нашы першыя кнігі й ствараў каралеўскія сады Францішак Скарына, дзе як у самым надзейным банку захоўвалася дзесяцігодзьдзямі ідэя беларускай незалежнасьці, рыцары якой спачылі ў гэтай зямлі, дзе сёньня, напярэдадні новага стагодзьдзя й новага тысячагодзьдзя б'юцца новай надзеяй нашыя сэрцы.

*Артыкул падрыхтаваны на падставе выступу на ўрачыстай акадэміі, прысьвечанай 80-м угодкам абвешчаньня БНР, якая адбылася ў Празе 21 сакавіка 1998 году.



Тацяна Сьнітко

# СЯРОД УКРАІНСКІХ МАРАЎ

**НАПІСЯ-АЖАНІСЯ...**

Побач з намі, беларусамі, украінцы часам здаюцца сапраўднай happy nation. Вось і гэтым разам. Не пасьпявае твая нага ступіць на братнюю суседнюю зямлю — табе ў трох кроках ад шыльды «В місто» ужо адвальваецца кавалак шчасьця.

«Хочаш быць шчасьлівым адзін дзень — напіся! Хочаш быць шчасьлівым месяц — ажаніся! Хочаш быць шчасьлівым усё жыцьцё — абяры Рэформы і Парадак!» Так завецца адна з трыццаці партыяў і блёкаў, прадстаўленых на выбарах...

Шчасьце, безумоўна, не для нас, бо «щасливими бути просто», калі ня чорт ведама калі, а ўжо заўтра зь сёмай ранку зможаш нешта выбіраць увогуле. Праз тры хвіліны ў мэтро «Вакзальная» блакітна-нябесная мара — улётка была такога колеру — аказваецца «не маёй» у квадраце. Бо для жанчын прыдумалі іншую агітку, і ейныя рэцэпты шчасьця адпавядаюць практычнаму колеру афарбоўкі, якая выклікае асацыяцыю з цытрусавымі. «Хочаш быць шчасьлівай адзін дзень — зьмяні прычоску!.. адзін месяц — вазьмі адпачынак!..» Чаму улётка не ружовая, я разумею, калі складаю рэцэпты шчасьця для абедзьвюх частак грамадзтва разам: атрымліваецца амаль што ўкраінскі сьцяг з улёткі.

— У горадзе проста перадвыбарчая гістэрыка! — скардзяцца знаёмыя (з затоеным гонарам). — Ад гэтага ўсяго ўжо галава баліць і ня хочацца галасаваць ні за кога!

Адна з партыяў, Сацыял-дэмакратычная «об'єднана», вырашыла збудаваць сваю агітацыю на бяспройгрышным грунце — посьпехах ды іміджу знакамітага кіеўскага «Дынама». У партыю ўваходзіць экс-кіраўніцтва краіны — Л.Краўчук, Я.Марчук... Усё ішло файна. Сацыял-дэмакраты з экс-прэзыдэнтам ужо сталі зусім «аб'яднанымі» з дынамаўскім пераможным вобразам, калі каманда прайграла «Ювэнтусу». Выпадак не абыйшоўся безь зьедлівых камэнтароў журналістаў і палітыкаў. Кіраўніцтва «Дынама» доўга высьвятляла адносіны з прэсай праз судовыя інстанцыі.

Затое ў жыцьці праварадыкальнай УНА адыграў ролю зусім ня спорт. Украінская нацыянальная асамблея страціла даволі шмат ахвотных аддаць голас за яе з-за сыходу зь яе кіраўніцтва Дмітра Карчынскага. Замест палітыкі той вырашыў узяцца за «рэвалюцыйнае мастацтва». Харызматычны вобраз «палітычнага мастака» працягваў лунаць над УНА ў вачах прадстаўнікоў сьвядомых мастацкіх колаў. Напрыклад, падчас перадвыбарчых рок-канцэртаў менавіта пра гэтую партыю добра адгукаліся многія рок-музыкі, сярод якіх не абы хто, а вядомыя «Воплі Відоплясова». Пры гэтым на пытаньне «Што самае каштоўнае вы прыдбалі за апошні час?» лідэр «ВВ» Алег Скрыпка ў апошнім інтэрвію пахваліўся: сябры, нарэшце, падарылі расейска-ўкраінскі слоўнік. Сам сьпявак нарадзіўся ў сонечным Таджыкістане, і тонкага сьцёбу яго перакручаных тэкстаў, ня ведаючы ўкраінскай, не заўважыш. Ня некалі адзін украінскі знаёмец не разумеў, чаму мая беларуская мова «гучыць неяк ня так»: маўляў, ваш Лукашэнка гаворыць на ёй па-іншаму.

Як тыповая беларуска, я інстынктыўна кідалася чытаць надпісы на сьценах, але якраз гэтак, як у нас пішуць: «Наш дом — Беларусь», новыя раёны Кіева і будоўлі былі адзначаныя лёзунгам кшталту: «Наш кандыдат — Палячэнка». Як высьветлілася, гэты чалавек узначальвае вялікае будаўнічае падпрыемства, таму ўсе будаўнікі — за яго. У адным з наваствораных «спальных» раёнаў нехта з кандыдатаў абвясьціў, што за тры дні пусьціць праз вялізную пустку трамвай, які пойдзе роўненька 29-га сакавіка. Рабочыя пракладвалі рэйкі дзень і ноч, і, як кажуць тут, лаялі й кандыдата, і трамвай, і выбары. 28-га ранкам усё было ўжо гатова для трыюмфу. Трамвай паехаў, але кандыдату давялося «сысьці з рэек». Ён балятаваўся ў мэры сталіцы, але амаль адначасова са стартам першага трамвая выбары мэраў у Кіеве і Севастопалі адмяніў Канстытуцыйны суд Украіны. Паводле ўкраінскіх законаў, гэта гарады дзяржаўнага статусу, і іх кіраўнікоў прызначае асабіста прэзыдэнт.




**ЗГАДКІ ПРА БАЦЬКАЎШЧЫНУ**

Іх было ажно тры ў першы дзень. А потым пра Беларусь усе, у тым ліку я, пасьпяхова забыліся, пакуль, дзякуючы вынікам выбараў у Вярхоўную Раду, яна не ператварылася ў «Чырвоную страшылку».

Нешта вялікае колеру нашага сьцяга мільганула за вокнамі вагона на адной са станцыяў мэтро. Ад неспадзяванкі я некалькі хвілінаў вывучала сьцяну. Белы чатырохкутнік. Пасярэдзіне — чырвоныя літары. «Позняки» — гэтак завецца станцыя. Хаця мае знаёмыя сьцьвярджаюць, што гэта ўсё зьнянацку — Зянон тут ні пры чым, а Кіеў не Нью-Ёрк.

Падчас прагулянкі па цэнтры мы збочылі з Хрэшчаціка, апынуўшыся на брукаваных схілах «Андріївського звізу». Карціны, падсьвечнікі, пярсьцёнкі, значкі ГТО і ВЛКСМ, савецкія шынялі... А вось і абрус на прылаўку-століку. Такі самы, толькі бяз молата зь сярпом, у нас вісіць над некаторымі будынкамі. Чырвона-зялёнае палотнішча, як кажа гандляр, ня мае кошту. Гэта не «сувэнір», а дэкаратыўна-гаспадарчая прылада!

Трэці напамін пра Радзіму дагнаў мяне праз тэлеканал «1+1». Гэта быў сюжэт пра Валадарку, дзе тады якраз здымалі кіно амэрыканцы. Пра пэруанскіх тэрарыстаў у японскай амбасадзе. Сябры паклікалі, уключыўшы не з пачатку: «Глядзі, у вас там нехта хацеў захапіць турму?!».

**«СМОЛЬНЫ» ПА-ЎКРАІНСКУ**

Старшыня ЦВК Міхайла Рабец распавёў, што на момант пачатку галасаваньня свае кандыдатуры зьнялі 175 кандыдатаў у дэпутаты. 28-га іх было ўжо 117 — значыць, больш за паўсотні «адкаліся» ў апошнія суткі. Чаму? «Зробім запыт і паведамім», — паабяцаў старшыня. Ні на адной з наступных прэс-канфэрэнцыяў пачуць пра гэта так і не давялося. Міхайла Міхайлавіч, адзін з самых сьціплых дэпутатаў Вярхоўнай Рады, манерай адказваць на пытаньні журналістаў часам нагадваў пра беларускія рэаліі. Вось, прыкладам, зьвесткі пра скаргу назіральнікаў ад шэрагу партыяў — ім нібыта нехта перашкаджае назіраць. Якая на гэта конт думка Цэнтарвыбаркаму, што ён мае рабіць? Замест ужо казанага «Скаргаў шмат, займаемся праверкай, ня выключаныя правакацыі» сп. Рабец вымаўляе:

— А вы тут якія партыі прадстаўляеце?

— Сродкі масавай інфармацыі, — губляецца дзяўчына з аднаго ўкраінскага агенцтва навінаў.

— А, дык гэта вы так клапоціцеся пра журналістаў? — змрочна працягвае кіраўнік ЦВК. — Ці пра нейкія партыі? — Вось і ўвесь ягоны камэнтар.

У «бастыёнах» ЦВК, акрамя ўзмоцненай аховы, была яшчэ і звышапэратыўная мадэмная сувязь, пра якую з гонарам гаварыў Міхайла Міхайлавіч. Зьвесткі з розных рэгіёнаў высьвечваліся ў выглядзе мапаў, дыяграмаў, табліцаў на вялікім табло. Нягледзячы на ўсе зручнасьці, пры падвядзеньні вынікаў сучасная тэхніка «падводзіла». Прынамсі, ніхто не растлумачыў, чаму паступленьне новай інфармацыі некалькі разоў затрымлівалася. Тым часам зьвесткі, што не зусім супадалі з афіцыйнымі, ужо гучалі па ўкраінскіх службах заходніх радыёстанцыяў. На Заходняй Украіне народ хадзіў шчасьлівы, учуўшы па «Бі-Бі-Сі», што блёк партыяў «Нацыянальны Фронт» дасягнуў 4-працэнтавай рысы. Было 31 сакавіка. Праз паўдня затрымкі інфармацыі ЦВК перадаў лічбы, у якіх «Нацфронт» ня значыўся нават у 2-3-працэнтавых «хвастах» сьпісу партыяў-пераможцаў (ці блізкіх да іх). Калі «хлусілі» незалежныя ад уладаў СМІ, то сама за сябе гаворыць вышэйпамянёная манера афіцыйных асобаў удакладняць і камэнтаваць зьвесткі, што здаюцца ім «крамольнымі». У зьвязку з усім гэтым не зусім пераканаўча выглядае і «ўзьлёт» партыі «Громада» экс-прэм'ера Паўла Лазарэнкі, якая на 1 красавіка мела толькі крыху больш за тры адсоткі галасоў. Партыя Лазарэнкі лічыцца апазыцыйнай з-за ня самых лепшых дачыненьняў экс-прэм'ера з прэзыдэнтам Кучмам (перад выбарамі той прыкрываў нават кантраляваныя «Громадой» газэты). Аднак прадстаўнікі правага крыла апазыцыі, лічаць і цяперашні прэзыдэнт Л.Кучма, і Лазарэнка, абараняюць інтарэсы адных і тых жа палітычных сілаў — «Днепрапятроўскай мафіі». Менавіта Кучма ў чэрвені 96-га адыграў вырашальную ролю ў прасоўваньні Лазарэнкі на прэм'ерскі пост. Аднак «эканамічная тэрапія» выклікала незадаволенасьць палітыкай уладаў. Левыя дружна пачалі прыводзіць у прыклад «працьвітаючую» ў саюзе з Расеяй Беларусь. Павал Лазарэнка быў «выгнаны» са свайго паста і хутка стаў самай скандальнай палітычнай фігурай, раскруціўшыся як лідэр «Громады». Адным з найбольшых скандалаў быў ажыятаж вакол публікацыяў у маскоўскай прэсе («Московский комсомолец», «Известия») пра тое, што ўкраінскі Савет Бясьпекі нібыта рыхтуе плян ліквідацыі «Громады» з дапамогай крымінальных аўтарытэтаў. У абарону Лазарэнкі і ягонай газэты «Правда Украины» найбольш рашуча заўсёды выступалі сацыялісты (акрамя хіба Наталкі Вітрэнкі) і камуністы. Апазыцыйнасьць многіх украінскіх партыяў сёньня ўвогуле выглядае вельмі адносна, бо, у адрозьненьне ад іншага апазыцыйнага «лягера» — правых УНА, УРП, КУН, і цэнтрысты, і камуністы ўсё ж у нашмат меншай ступені «ізаляваныя» ад СМІ. У многіх склалася ўражаньне, што вялікая колькасьць цэнтрысцкіх партыяў проста небаходная дзеля дзьвюх рэчаў: каб адцягнуць частку галасоў працоўных ад КПУ, а пазьней, магчыма, як бы «паўплываць» на камуністаў сваёй большай дэмакратычнасьцю. Лягічна, што «чырвоным» будзе выгадна мець сваіх прыхільнікаў ва ўладных структурах у якасьці цэнтрыстаў — так спакайней. Зразумела і тое, што 25% галасоў за КПУ — вынік абіраньня іх ня столькі розумам, колькі страўнікам.

**УСХОД І ЗАХАД**

Выбары яшчэ раз прадэманстравалі падзел Украіны. На Ўсходзе, дзе больш вялікі працэнт расейскага й расейскамоўнага насельніцтва, сэнтымэнты пра незалежнасьць амаль не спрацоўваюць. Там аснову прамысловасьці складаюць горная і абаронная галіны, якія ня так проста паддаюцца рэфармаваньню. Ход рэформаў насельніцтва адчула на ўласным дабрабыце: вынікам эканамічных зьменаў сталі бяспраўе і беднасьць. У якасьці пратэсту кіеўскай уладзе супрацьпастаўленьне «чырвоныя». У самім Кіеве гэта назіралася ў меншай ступені — шмат людзей падтрымала «партыю ўлады» (Народна-дэмакратычную партыю прэм'ер-міністра Валерыя Пуставойценкі). Сёйтой з апалітычнага насельніцтва зрабіў гэта па інэрцыі. Вось прыклад: пытаесься ў купкі моладзі, каму хто аддаў перавагу, і чуеш: «Мы — НДП. А вы?» — «Я грамадзянка Беларусі.» — «А Беларусь сёньня не галасуе?!» Хвіліна недаўменьня...

Іншая справа Захад. Дарэчы, скарыстаўшыся запрашэньнем сваіх сяброў, я зазірнула на Цярнопальшчыну і была зьдзіўленая, што нават праз 2-3 дні пасьля выбараў людзі толькі пра іх тут і гавораць. Ды як! Вось старыя спыняюць моладзь з «Нацфронту» і са сьлязьмі на вачах (!) пытаюцца ў іх:

— Хлопцы, куды вы дывылысь?! — гэта пра вынікі з камуністамі. Тут яны асацыююцца з тэрорам і пагрозай незалежнасьці. Больш маладыя жыхары пасьпелі адчуць на сабе ня толькі адмоўны, але і станоўчы бок эканамічных свабодаў, якія не жадаюць страціць. Найбольшую колькасьць галасоў сабраў у Заходняй Украіне Нацыянальны Фронт. Прычым відавочнае расчараваньне ў Руху. Вось прыклад аднаго з раёнаў Цярнопальшчыны — Падвалачыскага, актыўнасьць якога нават адзначалася ў ЦВК як найбольш высокая ва ўсёй краіне. Прагаласавала 85 адсоткаў, зь іх 600 чалавек (9%) — за камуністаў, 597 (8,85%) за Рух, каля 3300 (62%) — за Нацыянальны Фронт. У пяці кілямэтрах адсюль — горад Валачыск Хмяльніцкай вобласьці. Там вынікі такія: 60,2% — КПУ, 7,6% — Нацфронт, 0,9% — Рух. Такія лічбы мне назвалі ў гарадзкіх выбарчых камісіях.

31 сакавіка Народны Рух самым першым правёў прэс-канфэрэнцыю ў Львове, дзе, паводле падлікаў, перамог разам з НДП, зь якой аб'ядна намаганьні перад выбарамі. Кіраўнік Львоўскага Проваду НР Алексій Гудыма сказаў, што шакаваны колькасьцю галасоў, аддадзеных невялікім партыям. Каля 450 тысяч львавян галасавалі за блёк «Менше слів», УНА, Рэспубліканскую хрысьціянскую партыю, «Рэформы і парадак», «Нацыянальны Фронт»; 0,13% падтрымалі партыю мусульман. На думку сп. Гудымы, менавіта гэтыя партыі нясуць адказнасьць перад народам за перамогу камуністаў. Праўда правыя, у сваю чаргу, лічаць, што ўлады спрыяюць Руху, каб той забіраў галасы ў нацыяналістаў. Многія згодныя за старшынём УРП Багданам Ярашынскім, які прыпісвае Руху пераход з плятформы нацыяналізму на плятформу лібэралізму і касмапалітызму.

Аднаму з простых цярнопальскіх кіроўцаў, чые палітычныя погляды здаваліся мне нявызначанымі, я жартам прапанавала далучацца разам з усёй Украінай да беларуска-расейскага саюзу. У адказ было пытаньне: ведаеш, што я буду рабіць у выпадку такога далучэньня? Я, канечне ж, ня ведала.

— Хату маеш? — спытаў ён.

— Не-а. А хата тут пры чым?

— Пры тым, што я яе маю. Прадам хату, куплю аўтамат. Далей —чытай кніжкі па гісторыі Украіны...

Ён не належаў ні да якой партыі.

Замест постскрыптума.

Міжнародныя назіральнікі з Парлямэнцкай Асамблеі і Кангрэсу мясцовых і рэгіянальных уладаў Рады Эўропы аб'явілі пра заўважаныя імі парушэньні ў розных украінскіх гарадах як падчас падліку галасоў, так і пры галасаваньні. ЦВК сьцьвярджаў, што такога не было, але жыхары глыбінкі пацьвярджалі зусім процілеглае. У шэрагу выпадкаў на кандыдатаў і выбарчыкаў чыніўся ўціск, мелі месца фізычныя напады, незаконныя адмаўленні кандыдатам у рэгістрацыі і арышты (нават без абвінавачаньня). ПАСЕ заўважыла таксама і тое, што для некаторых партыяў доступ да тэлебачаньня быў абмежаваны. Адным словам, Украіна, у параўнаньні з намі, у большай ступені «ще не вмерла», але да сапраўднай дэмакратыі і там далекавата.

# КНІГІ — ПОШТАЙ

**Каб замовіць патрэбную Вам кнігу, неабходна пазначаную суму плюс суму за перасылку праз пошту пералічыць на наступны рахунак:** БГФ «Наша Ніва» р/р 3015201930039 «Гарант» філія АКБ «Поіск» г. Менску, Код 987.

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары «Для пісьмовага паведамленьня» указаць назву кнігі й Ваш дакладны паштовы адрас і, калі ёсьць, тэлефон.

*Зьвяртацца можна праз пошту: 220085 Менск, а/с 5, Віталь Супрановіч.*

| № | Аўтар і назва | Кошт | Кошт перасылкі |
|---|---|---|---|
| 1. | Васіль Быкаў. Сьцяна | 112.000 | 20.000 |
| 2. | Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў | 75.000 | 16.000 |
| 3. | Аляксандар Лукашук. За кіпучай чэкісцкай работай | 50.000 | 12.000 |
| 4. | Аляксандар Лукашук. Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста | 28.000 | 12.000 |
| 5. | Канвэер сьмерці | 250.000 | 20.000 |
| 6. | Каралеўства Беларусь: Посткаляніяльная культура | 110.000 | 15.000 |
| 7. | Адам Глёбус. Толькі не гавары маёй маме | 30.000 | 16.000 |
| 8. | Адам Глёбус. Койданава | 45.000 | 10.000 |
| 9. | Ж.Дзюрасэль. Эўропа з 1815 году да нашых дзён | 15.000 | 16.000 |
| 10. | Б.Фэйган. Уводзіны ў археалёгію | 10.000 | 12.000 |
| 11. | Фрагмэнты | 40.000 | 20.000 |

# КАСЭТЫ — ПОШТАЙ

***На складзе БГФ "Наша Ніва" ёсьць касэты (кошт 45.000 + 7.000 БРБ)***

**Касэты можна замовіць праз пошту: 220085 Менск, а/с 5, Віталь Супрановіч**

1. Народны альбом: Супольны музычны праект (1997)
2. Палац. Дарожка (1997)
3. NRM. Made in NRM. Песьні з альбомаў 1995-1996
4. Новае Неба. Мая Краіна (1996)
5. Крама. Хворы на рок-н-рол (1993)
6. Данчык. Беларусачка і іншыя песьні (1974/1998)
7. Мясцовы час. Падвойны альбом (1998): Слота (1989), Мой дом (1990)
8. Žygimont VAZA. Стан галюцынацыі
9. Андрэй Мельнікаў. Гэта мы! (1996)
10. Камэлот. У краіне талераў (1995)
11. Віктар Шалкевіч. Смуты беларускі блюз (1996)

***На складзе БГФ «Наша Ніва» маецца ў наяўнасьці больш за 70 найменьняў касэтаў беларускіх рок-гуртоў, бардаў, поп-выканаўцаў. З поўным сьпісам можна пазнаёміцца ў папярэдніх нумарах «Нашай Нівы».***

## НАВІНКА!




*Беларускі калекцыянэр. №1 (16) люты 1998 г.*

«Беларускі калекцыянэр» аднавіў свой выхад у Воршы, дзе ў лістападзе 1990-га ўбачыў сьвет першы нумар выданьня (пасьля нейкі час БК друкаваўся ў Менску). Новы нумар прысьвечаны пераважна грашовым і паштовым знакам, узнагародам, гісторыі лятарэі ў Беларусі.

## НАВІНКА!



*Ларыса Геніюш. Выбраныя вершы / Укладаньне, падрыхтоўка тэкстаў і камэнтар Міколы Рамановускага. — Менск, 1997. — 320 с. — Наклад 500 ас. ISBN 5-85968-019-8*

Гэты том «Выбраных вершаў» грунтуецца перадусім на матэрыялах з архіву Ларысы Геніюш, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай Навуковай Бібліятэкі акадэміі Навук. Большасьць вершаў друкуецца ўпершыню.

## НАВІНКА!

*Жылка Ул. Выбраныя творы / Укладаньне, прадмова і камэнтары М.Скоблы. — Менск: Беларускі кнігазбор, 1998. — 358 с., іл. — Наклад 6000 ас. ISBN 985-6318-19 X*

Том Уладзімера Жылкі працягвае сэрыю «Беларускі кнігазбор». Акрамя вершаў, у яе ўключаныя Жылкавы артыкулы, пераклады, лісты. У дадатку друкуюцца ўспаміны пра паэта.

## НАВІНКА!



*Za niebokresem Europy. Antologia nowej poezji białoruskiej / Wybór i posłowie Jan Maksymiuk. — Białystok, 1998. — 119 s. ISBN 83-904359-5-0*

Польскую анталёгію новай беларускай паэзіі складаюць вершы С.Адамовіча, М.Анемпадыстава, А.Аркуша, І.Бабкова, Г.Дубянецкай, А.Глёбуса, Ю.Гумянюка, А.Мінкіна, Т.Сапач, І.Сідарука, Л.Сільновай, А.Сыса, Л.Вольскага.

# ПАМЯЦІ ВУЧОНАГА




*Русь — Литва — Беларусь. Проблемы национального самосознания в историографии и культурологии. По материалам международной научной конференции, посвящённой 90-летию со дня рождения Н.Улащика (Москва, 31 января 1996 г.). — Москва: Наследие, 1997.*

Гэты зборнік выдадзены да 90-х угодкаў з дня нараджэньня славутага беларускага гісторыка Міколы Ўлашчыка і складаецца з дзьвюх частак. У першай зьмешчаныя паведамленьні, што прагучалі на маскоўскай канфэрэнцыі ў студзені 1996 году, прысьвечанай памяці Міколы Ўлашчыка; у другой — матэрыялы з архіву выбітнага гісторыка.

Магло так здарыцца, што зборнік стаўся б кнігай дыфірамбаў на адрас юбіляра. Не атрымалася. Біяграфія ва Ўлашчыка трагічная. Ды і некаторыя прамоўцы не далі падставаў для дыфірамбаў. Вельмі паважаны расейскі акадэмік (Сігурд Шмідт — Рэдакцыя) настойліва праводзіў думку, што Ўлашчык — гэта гісторык праблемаў «Заходняй Русі». Пры гэтым меліся на ўвазе падрыхтоўка рэформы 1861 г. у Беларусі і археаграфічная выдавецкая дзейнасьць таксама ў Беларусі ў XIX — пачатку XX стагодзьдзя. Вось і маем, што наш славуты гісторык вывучаў зусім не Беларусь, а нешта «заходняе». Дзякуй Богу, што не «паўночна-заходняе».

Двухсэнсоўны камплімэнт атрымаў Улашчык і «ад рэдкалегіі». Аказваецца, ён — гэта «прадаўжальнік расейска-беларускай духоўнай роднасьці». Хутчэй наш зямляк быў ахвярай роднасьці расейска-беларускіх карных службаў. Не па сваёй волі Мікола Ўлашчык апынуўся ў Маскве, дзе вывучаў расейскія летапісы. І здолеў урэшце заняцца улюбёнымі ім беларускімі крыніцамі. Ня здолеў толькі вырвацца з Масквы і вярнуцца ў Менск. Вось такая «роднасьць».

Больш цьвяроза падыйшоў да ацэнкі дзейнасьці Міколы Ўлашчыка вядомы расейскі дасьледчык У.Кучкін. Нават задужа канкрэтна для юбілейнага выданьня. З уласьцівай яму стараннасьцю ён выявіў у шматлікіх выданьнях расейскіх і беларускіх летапісаў, што ажыцьцявіў М.Улашчык, безьліч агрэхаў. Гэта была б каштоўная рэцэнзія на працы беларускага гісторыка — у свой час, зразумела.

Найбольш цікавыя ў кнізе тэксты самога Міколы Ўлашчыка. Укладальнікамі кнігі яны падзеленыя на «матэрыялы да біяграфіі», «навуковыя працы» і «лісты». Сярод першых ёсьць, можа, ключавы дакумэнт да грамадзянскай біяграфіі гісторыка. Гэта ўрывак з паказаньняў арыштаванага М.Улашчыка пад час сьледзтва па справе «Саюза вызваленьня Беларусі» ў ліпені 1930 году. Арыштаваны паказаў, што ўлетку 1927 году ў час чарговага адпачынку быў на Ўкраіне, у Кіеве. Гэтая краіна на яго зрабіла вялікае ўражаньне. Як паведамляў Улашчык, у ягонай галаве моцна сядзела думка, што ў недалёкай будучыні адбудзецца ваеннае сутыкненьне СССР з капіталістычным сьветам, а разважаючы далей, ён прыходзіў да высновы, што такія «передавыя рэспублікі» як Украіна, Грузія павінны ўтварыць самастойныя дзяржавы. І далей думаў: Беларусь маленькая, культурна адсталая, без багатых нетраў, зь неразьвітай нацыянальнай самасьвядомасьцю, мела вельмі мала шанцаў на ўласную дзяржаўнасьць, і таму вялікая адказнасьць ускладаецца на нацыянальна сьвядомую беларускую інтэлігенцыю. «Тым больш высілкаў павінны былі мы прыкласьці да таго, каб умацаваць усе передумовы для будучай арганізацыі незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Такая ў мяне была плынь думак, калі я вярнуўся з Украіны».

Вось тут можна сказаць, што Мікола Ўлашчык — «прадстаўнік ураінска-беларускай духоўнай роднасьці» і яшчэ раз падзякаваць украінцам. Працягу паказаньняў, а дакумэнт захоўваецца ў архіве КГБ Беларусі, складальнікі кнігі не даюць. Цікава, што там яшчэ хаваецца? Пэўна ж, тры «адсідкі» Ўлашчыка пакінулі ў архівах адпаведных установаў шмат сьлядоў. Яны пакінулі сьляды і ў характары вучонага. Пра яго расейскі акадэмік М.Ціхаміраў казаў: «ціхая беларуская ўпартасьць», тую ж «беларускую ціхасьць» адзначаў В.Буганаў. Можа, то была гулагаўская ціхасьць? Жыцьцё прымушала ўцягваць галаву ў плечы. Адна з пэрлінаў Улашчыкавай спадчыны — кароткі ўрывак мэмуараў пад назвай «Як я стаў знакамітым». Сапраўды, трапіць у перадавіцу газэты «Праўда» — гэта стаць знакамітым, калі б то не былі данос і 1940 год. Канечне, пасьля такіх перадавіцаў трэба было быць «ціхім беларусам».

Чытаючы кнігу, застаецца яшчэ раз пашкадаваць, што Мікола Ўлашчык так і ня скончыў дасьледаваньне пра беларускія мэмуары. Складальнікі зборніка зьмясьцілі некаторыя ўрыўкі зь меркаванага выданьня. Разгледзеўшы «Дыярыюш» Афанасія Філіповіча і публікацыю помніка беларускім гісторыкам літаратуры А.Коршунавым, М.Улашчык ня здолеў адшукаць добрых словаў на адрас абодвух. Не дачакаўся гэтага і мэмуарыст пачатку XX стагодзьдзя Эдвард Вайніловіч. Каго ўхваліў бы наш выбітны гісторык? І на каго зважаць будучым беларускім мэмуарыстам? На жаль, пасьля Ўлашчыка не знайшлося ахвотных адказаць на такое пытаньне. Можа, яны знойдуцца пасьля больш поўнага выданьня навуковай спадчыны нашага вялікага Вучонага.

ВАЛЕРЫ ПАЗЬНЯКОЎ



# Новыя кнігі і пэрыёдыкі, дасланыя ў рэдакцыю

Уладзімер Арлоў. Рэквіем для бэнзапілы: Аповесьці, апавяданьні. — Менск: Мастацкая літаратура, 1998. — 240 с. — Наклад 2000 ас. ISBN 985-02-0398-6

Беларускі гістарычны агляд. Том 4. Сшытак 1-2. Менск, сьнежань 1997 г.

Беларускі калекцыянэр. №1 (16) люты 1998 г.

Браслаўскія чытаньні — 97: матэрыялы IV-й навукова-краязнаўчай канфэрэнцыі 24-25 красавіка 1997. —Браслаў: Браслаўскае музэйнае аб'яднаньне — Браслаўскае краязнаўчае таварыства, 1997. — 202 с. — Наклад 100 ас.

Вялічка У. і інш. Беларусь маладая / У.Вялічка, В.Шырко, У.Глушакоў; аўтар прадм. І.Шамякін. — Менск: Беларусь, 1998. —638 с. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-01-0221-7

Ларыса Геніюш. Выбраныя вершы / Укладаньне, падрыхтоўка тэкстаў і камэнтар Міколы Рамаоўскага. — Менск, 1997. — 320 с. — Наклад 500 ас. ISBN 5-85968-019-8

Дыялёг. Культурна-рэлігійны часопіс. №3 (47). Сакавік 1998

Жывая кніга прыроды: Дапам. для пэдагогаў дашк. установаў / Уклад. І.Марачкіна. Пад рэд. Я.Лецкі. Маст. В.Мішчанка. —Выдавецтва Бацькаўшчына, 1997. — 199 с. — Наклад 8000 ас. ISBN 985-6026-13-X

Жылка Ул. Выбраныя творы / Укладаньне, прадмова і камэнтары М.Скоблы. — Менск: Беларускі кнігазбор, 1998. — 358 с., іл. — Наклад 6000 ас. ISBN 985-6318-19 X

Іканапіс Беларусі XV-XVIII ст.: Альбом / Аўтар тэкстаў і складальнік Н.Высоцкая. — Менск: Беларусь, 1998. — 232 с. —Наклад 5000 ас. ISBN 985-01-0214-4

Кантакты і дыялёгі. 1998, №2.

Якуб Колас. Другое чытаньне для дзяцей беларусаў / Факсымільнае выданьне. — Менск: Юнацтва, 1998.

Леанід Марчанка: Альбом / На бел., рас., анг. мовах. — Менск: Беларусь, 1997. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-01-0212-8

Музэй старажытнабеларускай культуры: Дапаможнік для наведнікаў / Пад рэд. В.Шматава. Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру НАН Беларусі. —Менск: Беларуская навука, 1998. — 236 с., іл. — Наклад 5000 ас. ISBN 985-08-0068-2

Паведамленьні Нацыянальнага мастацкага музэю Рэспублікі Беларусь. Выпуск 2. — Менск: Беларуская навука, 1997. — 261 с.: іл. — Наклад 600 ас. ISBN 985-08-0014-3

Чалавек і грамадзтва: Энцыкл. даведнік. — Менск: БелЭН, 1998. — 287 с., іл. — (Энцыкляпэдычная бібліятэка школьніка). —Наклад 5000 ас. ISBN 985-11-0108-7

Цітоў А. Геральдыка беларускіх местаў / Маст. А.Бажэнаў.—Менск: Полымя, 1998. — 287 с., іл. — Наклад 5000 ас. ISBN 985-07-0131-5

Яшчанка А. Гомель у другой палове XIX - пачатку XX ст.: Гісторыка-этнаграфічны нарыс: — Гомель, 1997. — 80 с. —Наклад 400 ас. ISBN 985-6265-28-2

Павлов С., Павлова Я. Радуга времени. — Менск: Ураджай, 1997. — 302 с., іл. — Наклад 2000 ас. ISBN 985-04-0222-9

Za niebokresem Europy. Antologia nowej poezji białoruskiej / Wybór i posłowie Jan Maksymiuk. — Białystok: Rada Programowa Tygodnika «Niwa», 1998. — 119 s. ISBN 83-904359-5-0

# Літоўская Мэтрыка




Прымаюцца заяўкі на тамы Мэтрыкі — 6, 7, 8, 10, 11. Ахвотным просьба зьвяртацца на адрас: п/с 5 Менск 220085, Віталь Супрановіч.

Калі маеце тэлефон, калі ласка, пазначце яго.

# 50 гадоў да зьнікненьня вёскі



*В.Сакович. Белорусское село в 70-90-е годы: миграция населения, трудовые ресурсы. — Менск: НАН Беларусі, Інстытут гісторыі, 1997. 168 ст.*

...З 1992 году, упершыню за ўсе пасляваенныя гады, колькасьць беларусаў пачала няўхільна зьмяншацца. У апошнія тры гады колькасьць памерлых у нашай краіне перавысіла народжаных ужо ў два разы. Сьмяротнасьць на вёсцы сёньня ў 2,3 разы вышэйшая чым у горадзе... Паводле матэрыялаў міжнароднае канфэрэнцыі «Беларусь — тры гады па Каірскай канфэрэнцыі» (Менск, 1997), сярэднегадавыя тэмпы зьмяншэньня колькасьці вясковых жыхароў знаходзяцца на ўзроўні 10% (даклад Лазарэвіча)! Пры гэткіх тэмпах ня цяжка падлічыць, што вяскоўцы ў нас зьнікнуць прыблізна праз 50 гадоў...

Зрэшты, гэтыя лічбы — толькі акраец таго айсбэргу праблемаў, якім паўстае Беларусь у незалежнай статыстыцы. Рост узроўню сьмяротнасьці адлюстроўвае скарачэньне працаздольнага жыцьця. Сёньня яна складае 67,9 гадоў. Адзін з самых малых паказчыкаў на кантынэнце. Але гэта па краіне. У Менскай жа і ў Гомельскай абласцях працаздольнага жыцьця ў мужчынаў зьнізілася да 59,8 і 59,6 (адпаведна). Гэтых лічбаў не афішуюць. А гэта адныя з самых горшых паказчыкаў у сьвеце. Большасьць беларусаў не дажываюць да пэнсіі...

...Кніга Віктара Саковіча «Белорусское село в 70-90-е годы» — гэта першае беларускае выданьне па ўрбаністыцы, у якім ужо няма спасылак на Маркса зь Леніным, але яшчэ няма на Лукашэнку. Ва ўводзінах аўтар акрэсьліў свае мэты: даць цэльнае ўяўленьне пра міграцыйнае «вымываньне» працоўных рэсурсаў зь беларускай вёскі за апошнія трыццаць гадоў, вызначыць найбольш актуальныя праблемы вёскі, нашкіцаваць пэрспэктыву іх вырашэньня. Уяўленьне пра дынаміку скарачэньня працаздольнага вясковага насельніцтва кніга Саковіча дасьць любому чытачу. Толькі на падставе афіцыйнае статыстыкі факты ўражваюць: у 1960 годзе ў Беларусі было 34.442 вясковыя селішчы, а ў 1993 ужо толькі 24.692... За дзесяць гадоў «развітага сацыялізму» з 1970 па 1980 г. колькасьць вясковых жыхароў зьменшылася з 54% да 43% ад насельніцтва Беларусі. У саміх працэсах урбанізацыі няма нічога страшнага, Беларусь і дасёньня адна з найменш урбанізаваных краінаў Эўропы. Але ўражваюць тэмпы: тое, на што ў Эўропе спатрэбіліся стагодзьдзі натуральнага разьвіцьця, у Беларусі адбывалася пяцігодкамі. У 1995 годзе вясковыя жыхары ўжо склалі толькі 31% насельніцтва... Гэткім чынам аўтар першае з сваіх мэтаў дасягнуў. Масіў лічбаў (раней добра вядомых спэцыялістам), сабраных разам, стварае падрабязную панараму сацыяльна-дэмаграфічнага разьвіцьця Беларусі да і пасьля Чарнобыля.

Няпраўда, што ў горад беларус ехаў за лёгкім хлебам. Напачатку 80-х, паводле апытаньня, амаль 93% дзесяціклясьнікаў лічылі, што ў горад варта ехаць па культуру, пра добры побыт згадала толькі 32%... Ці спраўдзіліся іх мары? Што далі для іх культуры Маладэчна ды Мазыр, Сьветлагорск ды Наваполацак — не падлічыш ніякім чынам...

Аднак разьбіраючы прычыны, якія рэгулярна прыводзілі да крызісаў аграрнага сэктару, аўтар альбо пярэчыць сабе, альбо пярэчыць лёгіцы. Спачатку ён пазытыўна ацэньвае пастановы КПСС, у прыватнасьці сакавіцкага пленуму ЦК 1965 году: «У выніку ў сельскую гаспадарку Беларусі за 1966-1970 г. было ўкладзена 1,4 млрд. руб. дзяржаўных сродкаў, ці на 662 млн. руб. болей, чым за папярэднія пяць. Значна вырасьлі пастаўкі тэхнікі й мінэральных угнаеньняў...» Ну і што? Ці вырашылі што-небудзь гэтыя «ўліваньні»? Праз старонку: «У канцы 70-х сельская гаспадарка БССР аказалася ў перадкрызісным стане». І гэта пасьля сакавіцкага пленуму!

Асаблівай увагі заслугоўваюць адносіны аўтара да чарнобыльскай трагедыі. Тут Саковіч прыводзіць даўгую цытату з «Центральной газеты» (№17, 1996), зь якое вынікае, як шмат заасфальтавана вуліцаў, пракладзена каналізацыяў, вадаправодаў, газаправодаў. Урад зрабіў што мог! А вось «нехта» і «некаторыя» заміналі. Напрыклад, «палітыкі, якія выкарыстоўвалі чарнобыльскую трагедыю, як казырную карту ў сваёй палітычнай гульні. Замест цьвярозых і ўзважаных адносінаў, яны практыкавалі правядзеньне мітынгаў, імкнучыся аказаць ціск на органы ўлады й кіраваньня». А што яшчэ можа зрабіць палітык, апроч «ціску на ўладу»? Аўтар нават не паставіў сабе пытаньня, ці слушна траціць каляласьныя сродкі дзеля ўтрыманьня людзей на зямлі, дзе жыць нельга. Ніяк не камэнтуецца тое, што ў Беларусі былі згорнутыя праграмы міжнароднае дапамогі...

Характарызуючы праблему занятасьці ў вёсцы, В.Саковіч папярэджвае, што калі ня зьменіцца сацыяльная сытуацыя, то да 2000 г., гэта значыць ужо праз два гады, будзе 35% беспрацоўных вяскоўцаў працаздольнага ўзросту. Аўтар сам называе гэта сацыяльнай катастрофай. І што ён прапануе? «Адзінае выйсьце ў гэтым накірунку — стварэньне ўмоваў, якія стымулююць рээміграцыю часткі гараджан на вёску». Адна ў аўтара «нестыкоўка»: «многія зь беспрацоўных працягваюць існаваць на мізэрную дапамогу, перабіваца выпадковымі заробкамі, але ня кідаюць звычны камфорт». Трэба давесьці горад да поўнае галечы? Ці гвалтам зганяць у нязвыклы дыскамфорт? Вось над чым працуюць у Інстытуце гісторы АН Беларусі.

Гартаю кнігу, шукаючы надзеі, падказкі, парады... Не знаходжу. Вусьцішная статыстыка дзіцячае сьмяротнасьці, гармідар чарнобыльскіх праблемаў, плён хаатычных экспэрымэнтаў новай беларускай дзяржавы: «... у Гомельскай вобласьці ўсе захвораньні вырасьлі ў дзевяць разоў», «здаровых дзяцей ў рэспубліцы ўсяго каля 10%». Саковіч ліхаманкава шукае, дзе ставіць кропку. З 1990 па 1994 г. на вёсцы было ліквідавана 764 клюбы, 618 бібліятэк, 611 дзіцячых садкоў... Дзе ж выйсьце? «Прыярытэтным накірункам павінна стаць адраджэньне сацыяльных, духовых, палітычных і, зразумела, эканамічных умоваў для самасьцьвярджэньня ва ўсёй шматаблічнасьці і шматлікасьці Сельскае Абшчыны ў якасьці спэцыфічнае сацыяльнае супольнасьці». А што калі аўтару гэтае манаграфіі паверацы?.. І колькі падобных «рэкамэндацыяў» яшчэ выпусьцяць работнікі Акадэміі Навук. Зрэшты, вось гэта й ёсьць «стратэгія» нашага часу. Для будучых гісторыкаў новая кніга стане каштоўным дакумэнтам...

**Гары Куманецкі**

# Плён для ўласнага мысьленьня

*Философский поиск. Белорусский философский журнал. — 1997. — Выпуск 3. — Менск: Пропилеи, 1997.*

Тутэйшая публіка яўна не разбалаваная дастаткам паважных спэцыялізаваных гуманітарных выданьняў. А тыя, што ёсьць — пераважна народжаныя прыватнымі ініцыятывамі іх стваральнікаў у апошнія некалькі гадоў — прабіваюцца да чытачоў не без праблем і часта не адлавяраюць назве «пэрыядычныя». Зрэшты, стан справаў з гэткімі выданьнямі — толькі адбітак стану справаў з гуманітарыстыкай у нашым грамадзтве. Балазе, часопісы ўсё ж выходзяць, хай сабе й нерэгулярна.

Адна з апошніх навінак нашага кніжнага рынку — часопіс «Философский поиск. Белорусский философский журнал» (Выпуск 3, 1997). Назва, безумоўна, крыху ўводзіць у аблуду: «беларускім» гэты часопіс зьяўляецца найперш паводле месца рэгістрацыі і выданьня. Што праўда, мы знойдзем у ім невялічкі ўзор лібэральнай крытыкі сацыяльна-культурнай сытуацыі ў Беларусі (яе «недыялягічнасьці», с. 113), што стала ўжо ў багата якіх тэкстах агульным месцам і, натуральна, на разьвіцьцё самой сытуацыі аніяк не ўплывае, і яшчэ невялічкі ўзор філязофскай лірыкі Генадзя Барысава зь Віцебска (с. 170), а таксама агляд літаратуры, выдадзенай у Беларусі ў 1996-1997 г. і рэцэнзію на зборнік «Философия: проблемы преподавания», выдадзены ў 1995 г. у Менску. Але галоўнае нават ня ў гэтым, а ў тым, што і па духу, і па агульнай накіраванасьці зьмешчаных у часопісе матэрыялаў — гэта выданьне расейскае, хоць і не без прэтэнзіяў на агульнаўсходнеэўрапейскую значнасьць. Пра апошняе сьведчыць, у прыватнасьці, і геаграфія чальцоў Рэдакцыйнай Рады (Менск, Кіеў, Санкт-Пецярбург, Коўна, Тбілісі) і геаграфія аўтараў разгляданага выпуску (Тбілісі, Санкт-Пецярбург, Менск, Екацярынбург, Цюмень, Масква, Днепрапятроўск, Віцебск). Уключаныя ў 3-ці выпуск тэксты размеркаваныя па 7 рубрыках: «Перекрестки мысли», «Философия диалога», «Переводы, комментарии, размышления», «Обзоры, рецензии, отклики», «Ad hominem», «Cum grano salis» і «К сведению». Найбольш зьместоўныя — матэрыялы першых трох. На жаль, у кароткім аглядзе немагчыма менш-больш паважна абмеркаваць прапанаваныя тэксты. Таму далей — толькі галоўныя ўражаньні (а што асабліва ня ўразіла, тое застанецца па-за асадамі гэтага агляду).

Распачынаюць нізку публікацыяў два тэксты, блізкія па сваіх зыходных інтэнцыях: «Парадигма и чудовище (расследование философского разума)» Г.Тэўзадзэ (Тбілісі) і «Русская классическая литература и философия значений» І.Данілава (Санкт-Пецярбург). Што аб'ядноўвае абодва тэксты, дык гэта выкрывальніцкі патас у дачыненьні да пэўных культурных фантомаў, яўна не незалежных ад адлаведных досьведаў некаторых сучасных інтэлектуалаў, кштальту Фуко, Дэлёза ці каго-колечы яшчэ. Праўда, у разгляданым выпадку выкрываньню падлягаюць, хутчэй, фантомы ўласнай сьвядомасьці аўтараў гэтых тэкстаў. У Тэўзадзэ гэта — Парадыгма, у Данілава — Тэкст. Зацемім, што абодва словы «нярускія», а менавіта запазычаныя культурныя канцэпты ўтвараюць прыдатную глебу для гіпастазаваньня і анталягізацыі таго, што насамрэч уяўляе тэму спэцыялізаванага дыскурсу (гэта, напрыклад, адбываецца апошнім часам са словам «ідэнтычнасьць», гл., напрыклад: Малахов В. Неудобства с идентичностью // Вопросы философии. 1998. №2. С.43-53). Але ў прыгаданых аўтараў гэткае гіпастазаваньне робіцца безаглядна, а ў выніку — два Абсалюты, да якіх трэба нейкім чынам паставіцца. Данілаў тут — постмадэрновы паганец. Для яго «Тэкст» — гэта Абсалют, па-за межы якога сьвядомасьць прынцыпова не можа выйсьці, паколькі яна толькі й робіць, што азначае свой уласны «жыцьцёвы сьвет». Гэта — у кантэксьце тых філязофскіх пошукаў, якімі арупленыя аўтары разгляданага часопіса — даволі цьвярозая пазыцыя, бо ўсялякія «модныя» размовы пра тое, чым мог бы быць чалавек па-за асадамі сваёй «чалавечнасьці», як правіла, заводзяць у сфэры, дзе рэлевантнай стаецца адно глыбакадумная «балбатня». І Данілаў, не без прэтэнзіяў на лёгкі эпатаж, спрабуе вывесьці тыпалёгію сьвядомасьці, безумоўна апанаванай Тэкстам, багата ілюструючы свае разважаньні прыкладамі з клясычнай расейскай літаратуры. «Паганізм» аўтара выяўляецца ў тым, што ён не высільваецца выйсьці па-за асады сьвядомасьці і спрабуе апісаць «правілы гульні» ў сытуацыі, дзе сама гульня, па вялікім рахунку, ня мае сэнсу, бо сэнсы стварае ўсё тая ж азначальная функцыя сьвядомасьці, якая, паводле аўтара, робіць яе вечнай службіткай наперад зададзенага Тэксту-Абсалюту.

Тэўзадзэ, як шчыры анты-юда-хрысьціянін і анты-новаэўрапеец, гэта значыць — проста нэгатыў зь юда-хрысьціянства і новаэўрапейства — ня згодны заміраццa з прыдуманым ім самім Абсалютам — «Парадыгмай» — і таму шукае шляхоў выхаду па-за парадыгмальнасьць усялякага мысьленьня, найперш, канечне, свайго ўласнага. Але парадыгмальнасьць змаганьня з «Парадыгмай» выяўляе сябе ў тым, што для аўтара існуе толькі Адна парадыгма (або Парадыгма). Гэта свайго роду постмадэрнісцкі монатэізм або монатэістычны постмадэрнізм (як аўтару больш да спадобы). І ці дзіўна, што «Пачвара», як абсалютна «Іншае» для «Парадыгмы», набывае банальныя інфэрнальныя азнакі, чын, відаць, і спакушае аўтара. Зрэшты, блізка ўсе забабоны таго самага «новаэўрапейскага» мысьленьня, зь якімі, нібыта, змагаецца —нават вядзе дазнаньне, забыўшыся на «прэзумпцыю невінаватасьці» — аўтар, мы знойдзем у гэтым тэксьце, што робіць яго цікавым спакменем спэцыялізаванага культуралягічнага дасьледаваньня. Чаго не стае тут — гэта рэфлексійнасьці, зьвернутасьці да сябе, якая выяўляла б «пачварнасьць» або «хімэрычнасьць» азнакаў «парадыгмічнасьці», якой арупленны аўтар.

Артыкул М.Мацэвіча «Кризис идеи универсальности разума и становление традиции постклассического философствования» ўяўляе нешта накшталт «браўзэра» — калі скарыстаць тут сучасную тэрміналёгію — для навігацыі па цытатах клясыкаў філязофіі, дзе аўтарскія зацемы выконваюць службовую функцыю «склейкі». Часам нават бывае незразумела, дзе сканчаецца цытата, а дзе пачынаецца аўтарскі тэкст, таму вельмі цяжка скласьці аб ім уражаньне, бо аб клясыках «або — нічога, або —добра». У цэлым тэкст прасякнуты папулярнай праблематыкай «канца стагодзьдзя» з уласьцівымі тэкстам такога роду (асабліва расейскамоўным) тропамі і рыторыкай.

Тэкст Стэнлі Л. Які — манаха бэнэдыктынца са Злучаных Штатаў Амэрыкі — зусім недарэчна патрапіў пад рубрыку «Перекрестки мысли», бо акурат апошняя ў гэтай працы збаналізаваная да таго, што перакрыжоўвацца ёй, уласна, і няма з чым. Высоўваючы тэзіс, што бог стварыў «усё», С.Л.Які лічыць, што абмяжоўвае ня толькі прэтэнзіі сучаснай навукі на інтэрпрэтацыю першага разьдзелу Бібліі, паколькі любыя навукі могуць вытлумачваць толькі канкрэтныя прыватнасьці, але таксама і аматараў літаралізму як яе разуменьня. Каб я пісаў тут гіпэртэкст, то паставіў бы «лінк» да першага тэксту Тэўзадзэ, гэта ажывіла б усю рубрыку, але і адрадзіла б старую дыскусію пра анталягічнасьць «д'ябла».

У другім разьдзеле «Философия диалога» пададзеная нізка тэкстаў, традыцыйная для гэтага часопіса. Тэматычны спэктар адлюстроўваюць загалоўкі артыкулаў: «Вера в слово, ее философские отзвуки и коммуникативный смысл» (Н.Мечковская), «Полифонический проект М.Бахтина» (Гаробинский М.), «Диалогическая парадигма в американской культурной антропологии XX века» (Просекава М.), «Онтология и семиотика диалога» (Сагатовский В.), «Уровни философского диалога» (Кажеурова Н.), «История и диалог: формы соответствия» (Логовая Е.), «Философия образования Ж.-Ж.Руссо и В.В.Розанова: диалог культур» (Панфилов В., Шевцов С.), «Проблема понимания онтологических парадоксов сознания» (Мелешина С.). Для бальшыні гэтых тэкстаў уласьцівае гіпастазаваньне аднаго чальца апазыцыі — дыялёгу, моднае ў сучаснай філязофіі, і супрацьпастаўленьне яго так званаму «маналягічнаму мысьленьню». Пры гэтым забываецца, што «маналягічнасьць» можа быць проста разьвітай формай дыялёгу, так бы мовіць, рэфлексіяй дыялёгу ў самога сябе, калі скарыстацца тут гегелеўскай тэрміналёгіяй (прыгадаем формулу Платона, што «мысьленьне — гэта гутарка душы з самой сабою»), і што для дасьледаваньня, прынамсі, культуралягічнага, цікавейшымі бываюць зьявы канфлікту і непаразуменьня культур, якія высьвятляюць іх нутраную сутнасьць, чымся дыялёг, які галоўным чынам адбываецца на павярхнёвым узроўні сэнсавага універсуму. Дадамо таксама і тое, што камунікатыўная функцыя, на якой грунтуецца ўся «філязофія дыялёгу» — далёка не галоўная функцыя мовы і што дыялёг у сваёй гэтай функцыі вельмі лёгка ператвараецца ў простую «балбатню». Здаецца, што абмеркаваньне гэткага праблемнага кола магло б узбагаціць «філязофію дыялёгу», але, падобна, што акурат яно знаходзіцца за сэнсавым небакраем апошняй, а таму «дыялёг» тут пакуль што стаецца немагчымым.

Пераклад сарбонскіх лекцыяў Морыса Мэрлё-Панці «Патология языка» — безумоўна, найцікавейшы матэрыял гэтага выпуску. Гэта някепская ўводзіны ў сучасную «філязофію мовы», хаця й не без уласьцівай франкамоўным аўтарам падазронасьці і недаверлівасьці да мовы, што я схільны вытлумачаць складаным лёсам складваньня самой французкай мовы ў выніку канфліктнага ўзаемадзеяньня розных моўных сыстэм: кельцкай, лацінскай і германскай. Тым больш гэтыя лекцыі будуць карысныя для зацікаўленага тутэйшага чытача, які воляй свайго ўласнага лёсу, незалежна ад моўнай і геапалітычнай арыентацыі, дагэтуль знаходзіцца пад уплывам працэсаў моўнай інтэрфэрэнцыі.

Гэтыя, зробленыя побегам заўвагі, безумоўна, маюць зацікаўлены характар, і таму ніяк не зьмяншаюць дадаткаў часопіса наогул. На жаль, мне патрапіў пахібны асобнік, у якім аркушы былі сшытыя ў адвольным парадку (напрыклад, пасля старонкі 19 ідзе старонка 112, пасля 111 — 20, пасьля 72 — 165 і г.д.), а таксама на старонцы 54 адсутнічае зноска на спасылку 13. Гэта, канечне, не спрыяла разуменьню надрукаваных тэкстаў. Але, як прывучаны да парадку «тутэйшы», я палічыў, што так і трэба, і дачытаў выпуск у прапанаваным рэдакцыяй парадку. Чаго і жадаю іншым чытачам. Бо ў якім парадку яго ні прачытаць, зацікаўлены розум усё роўна знойдзе плён для ўласнага мысьленьня.

**Сяргей Санько**

# грамафон.

## Андрэй Аляксандраў

***

Я не павінны ў тым, што я — жывы:
У маёй крыві — нянавісьць да магілы.
Я не павінны ў тым, што пах травы
Маёй Радзімы надае мне сілы.

Ня мае сэнсу папракаць мяне
За тое, што так горача кахаю,
І тым жыву на яве і у сьне:
Я сам сябе за гэта папракаю.

Выносіце сьмяротны мне прысуд?
За тое, што я не люблю аковы?
І не магу зусім трываць Іюд,
Што пралілі сьвятую кроў Хрыстову?

Ні кроплі тут няма маёй віны:
Я не павінны ў тым, што я — жывы.

## Аляксандар Антончык

ПАЛЯВАНЬНЕ

Ня слухаўся маці хлапчына
І на вуліцу выбег гуляць,
Дзе злосныя сёстры-вядзьмаркі
На дзетак прыйшлі паляваць.

Іх выгнаў на промысел Зюзя,
Нячэсаных, злых і галодных,
Каб зь сьцюжай ахвяры шукалі
Уздоўж вуліц і сьцежак халодных.

Угледзелі сёстры дзяціну
І паймчалі за ім наўздагонкі,
Злавіўшы ж, марозіць пачалі,
Залезшы пад футра і ў валёнкі.

Пабег пасінеўшы малеча
На помач у пакой клікаць тату,
А сёстры за ім разам зь сьцюжай
Праз шчыліны лезуць у хату.

Бацькі, напаіўшы сыночка
Гарачай гарбатаю зь мёдам,
Пад коўдру паклалі пухову,
Каб выгнаць хваробы ўсе з потам.

А хлопец сапе неспакойна,
Трасецца ад жару й палае.
То ліхаманка Агнея
Агнём ў яго злосным шпурляе.

Ой, мамачка, вельмі балюча,
Стогне дзіцятка і плача.
А ведзьма другая Глухея
Над ім ужо з рогатам скача.

Нябачнымі пальцамі вушкі
Яму як смалой затуляе.
Матуля ж сядзіць у адчаі,
Ні сну, ні спакою ня знае.

Трызьніць аб нечым малое,
Дзень белы ўжо стаў яму ночкай,
А трэця сястрыца Глядзея
Танцуе ў яго сініх вочках.

Туман напускае пунсовы,
Павекі сьвінцом налівае,
Прывідам мільгае па столі,
Злавесна птушкай гукае.

Яе падмяняе Навея,
Старэйша і зьлейша сястра,
Якая хлапчыну шапоча:
Зьбірайся, ў дарожку пара.

Цябе ўжо даўно ў нас чакае
Красулечка Баба-Яга,
У каторай клыкі замест зубак,
І адна касьцяная нага.

У ступе яе ты паедзеш
Туды, дзе пануе Пярун.
Дарогу паказваць вам будуць
Кашчэй і крывы Карачун.

А маці у гэты час бачыць
У жудасным сьне, як гурбой
Вядзьмаркі пакінуўшы хату
Сыночка панесьлі з сабой.

## Тацяна Багарадава

***

*В саду горит калины куст,*
*калины куст...*

На белым сьнежным жупане
Сьляды ад сотні брудных ног...
Каліны гронка у вакне
Ля скрыжаваньня ўсіх дарог.

Палае велічны пажар
І раздае агонь жыцьця,
Ашчадна захаваю дар
З глыбінь зямнога небыцьця.

І асьцярожнаю хадой,
Каб сьнежны не стаптаць дыван,
Сваіх пякучых думак рой,
Сумненьняў доўгі караван

Я да каліны прынясу.
І горкія патокі сьлёз
Затопяць кідкую красу,
А велічнасьць скуе мароз.

Павольна пацерку зары
Да вуснаў сьмяглых паднясу,
І са зьнявечанай кары
Сатру спагадную сьлязу.

А у адказ каліна мне:
Падорыць сьпелых гронак смак:
Пад ногі ягады сыпне
Не як падзяку — а за так.

... Стаіць каліна ля вакна
Сярод сьнягоў і завірух,
На ўсіх буйных вятрах — адна,
Зямны змыкаючы ланцуг.

## Вольга Базылёва

***

Плачуць вокны дажджынкамі з самага
ранку,
Плачуць вочы твае у маркотнай журбе,
Родны дом, мы вандруем цяпер без
пристанку,
Родны ветразь прыгорне мяне і цябе.

Зразумець я зусім не спрабую чужыну,
Паварочвае сэрца дадому ізноў,
Я люблю, я аддана кахаю Айчыну,
І яна — гэта сэнс маіх думак і сноў.

На чужыне і рай здасца цемразным
пеклам,
На чужыне ня тое, і сэрца з высноў
Захлынаецца, вочы ад болю паблеклі,
Як складана стагодзьдзі ня чуць
родных слоў.

Як маркотна, і дождж падзяляе
маркоту,
Бо ён быў шмат разоў на Радзіме
маёй.
Плачуць вокны дажджынкамі; сум і
турботы
Крочаць з восеньню, я ж размаўляю зь
вясной.

## Тацяна Барысава

БЯСКОНЦА-НЕВЫНОСНАЕ ЧАКАНЬНЕ

Бясконца-невыноснае чаканьне.
Сплывае сум зьнясіленай ракой.
І толькі прага моцная змаганьня,
Як і каханьня, кліча за сабой.
Наперадзе ў нас вясновы ранак!
Наперадзе і воля, і вятры!
І сэрца у крыві ірваных ранаў.
І сьвята пераможанай нуды!

## Аляксей Бацюкоў

***

У небе плеці доўгіх струн.
Б'е наводмаш дождж у твар.
Зноў у сьцюжу вывеў брук
Нас, зьнявечаных пачвар.
Ты — заплёваная хмара.
Я — стаптаны дым кастра.
Мы — забітыя стажары,
Бляск сьляпога ліхтара.
Мы — апошняя завея.
Нас — сьпляталі ў бізуны.
Я ня веру, я ня веру,
Што між зор ня толькі мы!

## Уладзімер Васількоў

ГЛЯДЗІЦЕ, ЛЮДЗІ, НА СОНЦА
ЧАСЬЦЕЙ

Глядзіце, людзі, на Сонца часьцей,
Купайце твары свае ў промнях,
Хоць гэта нязвыкла для слабых вачэй,
Глядзіце, людзі, на Сонца часьцей.

Мы пройдзем лёсу цярністы лазьняк,
Мы дасягнем запаветнай мэты,
Хоць ён будзе драць нас і гэтак, і так,
Мы пройдзем лёсу цярністы лазьняк.

Забудзем бясслаўную крыўду і страх
І жыць будзем з раніцай вечна у
сэрцы.
Ня будзе куколі на нашых палях.
Забудзем бясслаўную крыўду і страх!

Давайце зоркі на небе лічыць,
Каб потым зьзяньнем іх захапляцца,
Хоць гэта нам часам і цяжка рабіць,
Давайце зоркі на небе лічыць...

Глядзіце, людзі, на Сонца часьцей...

## Уладзіслаў Вольны

1944. УСХОДНЯЕ ПАЛЕСЬСЕ. МРОІ
САЛДАТА

Я знайду чырвоную ружу
пасярод зьмярцьвелых прастораў
і адчую, як стане дужым
маё сэрца, як зьнікнуць мроі,
прытулю некранутую сьвежасьць —
шчэ расінкі блішчаць на пялёстках —
да грудзей і пачую, як штосьці
мне вішнёвыя вусны шэпчуць...

А назаўтра з ранішнім сонцам
я пайду і скажу на растаньне:
«Дачакайся свайго абаронцы,
зьберажы ў сваім сэрцы каханьне.
Я прыйду, ты павер, я вярнуся
зь перамогай для нашай Айчыны,
і пад неба блакітным абрусам
ты народзіш дачку мне і сына,
калі здрадзіш — клінок мой гостры,
ад варожай крыві не астылы,
вашы сэрцы гарачыя знойдзе,
вечным домам вам будзе магіла...»

## Марта Гамановіч

***

Ўва мне ёсьць храм.
Я бачыла яго.
І чула ў ім малітвы й песнапеньні.
Ці то ўяўленьня дзіўны плод майго?
Ці мо ад Бога мне прадвызначэньне?

## Сяржук Гіркін

***

Радуйцеся хрысьціяне,
Езус нарадзіўся.
З Панны-Маці найясьнейшай
Бог уцелавіўся.

Пан прыйшоў у стаенцы беднай
Дзеля нашага збаўленьня.
Хрыстус стаўся чалавекам,
Каб жыцьцё мы ў небе мелі.

Ночка ціхая, сьвятліста
У касьцёле мша-пастэрка
Людзі ў сьвеце праслаўляюць
Сына-бога, чалавека
Божае нараджэньне.

## Аляксандар Голуб

ДЗЕНЬ ВОЛІ

Адчыняйце дзьверы, вокны —
Дзень прыйшоў сьвяточны!
Дваццаць пяты сакавік
Па Радзіме крочыць!

Залунаў над Бацькаўшчынай
Бел-чырвона-белы —
Сымбаль Незалежнасьці,
Сьцяг наш вольны, сьмелы.

Сонца з самай раніцы
Весела сьмяецца,
Няма шчасьця большага,
Чымся сёньня дзеецца!

Браты-беларусы!
Мы зьбяромся разам
За сталом з абрусам,
Пад сьвятым абразам.

Памаўчым, падумаем
Пра тых змагароў,
Што за зямлю нашую
Пралівалі кроў.

Ворагам-чужынцам
Не даліся ў рукі —
Выбралі лепш сьмерць,
Чым цяжкія мукі.

Шмат гадоў мінула
З той пары далёкай,
Вечна будзе памяць
Жыць пра патрыётаў!

Беларусь Жыве!
І сьвятло «Пагоні»
Хай навекі сьвеціць
Пераможным промнем.

## Андрэй Гуцаў

ГІМН НЕМАГЧЫМАМУ

Эўклід апошняй пэрспэктывы,
Смуга асеньніх голых схем,
Зманіся, стома, у наплывах
Абсурду, ісьцін і дылем.

Сьцярожкім поступам наблізься
І слоў ніякіх не кажы,
Даверся так — і не дзівіся,
Што ты даўно ў маёй душы.

У сэнсавобразах змаганьня
На боскай табуле пустой
Табе прабачу існаваньне —
Бо не прабачыць больш ніхто...

Эўклід зламанай пэрспэктывы
У неэўклідавым Другім,
Абсурдны боль майго надрыву!..
Прымі стамлёны, ціхі гімн.

## Ала Кажэра

***

Залатая гранёная шклянка
Напаўняецца цёмным віном,
Так далёка яшчэ да сьвітанку
Пад начным непразрыстым сяйвом.

Зажуруся, уздыхну ад зьнямогі,
Буду раньня, як сябра, чакаць,
Захварэю нябачнай трывогай,
Каб ружовую радасьць спаткаць.

У прыгоршні пад допытам ночы
Навучуся лавіць прамяні,
Загараюцца ясныя вочы
У маёй прамянёвай радні.

## Мікола Кананові́ч

ПАКАЯНЬНЕ

Ты нешта плёў пра рамантызм
Калядаў каталіцкіх,
Хаваючы душы стрыптыз
Ад самых блізкіх.
Ты быў расьпрануты, як Бог,
Твая Галгофа
Расла, як фалас, паміж ног,
Як катастрофа.
Ты так хацеў сваю душу
Перапратрахаць,
Як наркаманы анашу,
Як шлюха ўзахап.
Але зьнясіліўся любіць
Сваю нямогласьць,
Бо грэшнік каецца й грашыць,
Грахоў ня помніць...
Бясьсільны Біблія і Зэўс
Зь яго багамі —
Зь зямнога пекла шлях наверх
Ляжыць крыхамі.

## Зьмітро Каток

***

Я стаю ля капішча старога;
Ад ціхой вады сыходзіць пара.
Сьпіць Дняпро, ды ўверсе, нібы мара,
Нада мной лунае цень Сварога.

Я стаю ды аб забыцьці мару;
За сабою клічуць мяне цені.
Прывіднага выраю прамені
Беспрасьвецьця прабіваюць хмару.

Я плыву над ціхаю вадою...
Скінуў з плеч праклятце, з рук —
кайданы;
Сумна мне глядзяць усьлед курганы.
Пакідаю цемру за сабою...
Зьніч-вагонь у сутоньні скача цьмяна
Пасярод зацішнае паляны.

## Андрусь Клікуноў

***

Шкада, сябры, што не вясковец я,
Што прашчураў сьляды не супадуць з
маімі,
Мне выпаў лёсам горад, шэрасьць,
мітусьня,
Ім — гоняў ды лясоў абшар нябесна-
сіні.

Бракуе часу зьбегчы з кола будняў,
І ад таго ўсё робіцца мілей
І млын ля рэчкі, і раўчук пад гаем,
І між хмызоў няўрымсна ветрык-
ветравей.

## Якуб Колапс

САНЭТ

*Гэй, беларус, скінь свой прымус!*

*(з клясыкі)*

Блакітнавокі хлопчык,
Чаму ты безь дзяўчынкі?
Чаму рабіць ня хочаш
Мужчынскія учынкі?

Парок цябе разбэсьціў,
І, стаўшы на каленцы,
Пачаў ты абслугоўваць
Багатых вычварэнцаў.

Забыўшы годнасьць, сорам,
Пасыўным стаў партнёрам.

Дык скінь жа, беларусік,
Прыгнёцік свой, прымусік!
Знайдзі сабе дзяўчынку
Для мужнага учынку!

## Вальжына Крывіч

***

Я рэхам сьмеху нішчу цішыню,
ушчэнт парваўшы сон маўклівай
цноты.
Я — крык. Я — боль і ноч. Я —
адзінота.
Я — сарамлівы позірк кадра ню
і рух нахабных рук.
Я тут і там,
была і ёсьць (пытальнік перад «буду»).
Дачка паглядаў зор і словаў Буды,
свой лёс мяжою рэжу напалам.
Паўсюль. нідзе. ніколі. назаўжды.
Жыву і паміраю ў мільгаценьні
Мінулых зданяў і мінорных ценяў.
Я — рэха сьмеху. Крык і боль. А ты?

## Віктар Ліцьвінаў

УЗДОЎЖ

Адзін у купэ
ляжу упоперак рэек
праз Талачын на Воршу,
затое уздоўж шпал, сьнягоў і дрэў за
вокнамі,
уздоўж самоты, размытай шэранькім
дажджом,
уздоўж сьцяны вялікай, цемені
шанхайскай
гарызантальнай сярод зорак, сонца,
жаўцізны кітайскай,
і прастакутнікам да захаваньня
Настардамуса,
і шыба ўздоўж трымціць аконнай
рамы,
сьняжынка ўздоўж думак кружыцца ў
скананьні,
сарока ўздоўж куста сядзіць у
паветры,
і пень уздоўж кустоў выглядвае са
сьнегу,
і сосны тонкія, як вуды, сьпяць уздоўж
бяроз
і разрываючы ўздоўж бярвеньне ў хаце
трашчыць уздоўж за вокнамі мароз!

## Тамара Мазурова

НАРАЧАНСКІ КРАЙ

Я па лесе нарачанскім нясьпешна
блукаю,
Зь векавымі соснамі бязгучна
размаўляю.
У верхавінах ветрык павольна гуляе,
Мае думкі ў рыфму паціху зьбірае.

Як бальзам гаючы, як добрае зельле,
П'ю я па глыточку чыстае паветра.
Водар тут хваёвы, ды такі духмяны,
Шапаціць лясочак, гоіць сэрца раны.

Прыгажосьць такую я нідзе ня ўбачу,
І ад замілаваньня я амаль што плачу.
Край мой нарачанскі, як жа ты мне
люб,
Так сказаў бы некалі Колас наш Якуб.

Хтосьці быў на Кіпры, хтосьці на Гаіці,
Краявід нарачанскі яму й ня сьніцца.
Харастава ж такога ты ня знойдзеш
зноў,
Хоць праедзеш многа замежных
гарадоў.

## Юрась Півуноў

«А ЎСЯГО І ТРЭБА — ГОДНА ЖЫЦЬ!»

За небакрай сплывае сонца,
Зьмярканьне просіцца ў горад,
На небе сьціплы абаронца
Людзкой Душы — хлапчына-Месяц
Глядзіць з вышыняў недасяжных
На мітусьню, штодзённы клопат,
У людзей жа шмат прычынаў розных
Іх позірк прыкаваны долу,
А будні шэрыя зьядаюць
Жыцьця чароўныя імгненьні,
Куды ні глянеш — ўсюды бачыш
Адны нікчэмныя памкненьні...

## Браніслаў Пяткевіч

ДА СУСТРЭЧЫ

Да сустрэчы заўтра рана,
Край мой родны й прыгожы.
Працаваць хачу старанна,
Каб багацьце ты памножыў.
Каб народ сваю прыроду
Не тупіў падчас да бруду.
Ад усходу да заходу
Шчыраваць за гэта буду.
Каб і сябар, і сустрэчны
Мелі радасныя твары,
Каб парадак недарэчны
Не зьядаў надзеі мары.
У гасьцях ці на рабоце
Не гняла душу нястача,
Каб здабытак быў у поце,
Не гублялася ўдача.
Каб народная асьвета
Не стаяла крывабока,
Людзі добрага прывета
Ацанілі нас высока.
І ні крахаў, ні інфляцый
Беларус ня зьведаў горбам,
Бо прасіць у іншых нацый
Недарэчна нашым торбам.

## Паўлюк Рамнёў

***

Мы канаем, мы сканалі...
Нешта маем — адабралі,
Нешта хочам — асадзілі,
Сьлёзы точым — асушылі.

Штосьць спарудзім — паламалі,
Штосьць набудзем — абадралі,
Нешта зьвяжам — разарвалі,
Слова скажам — ўкрыжавалі...

Мы зьбіраем — разагналі,
Мы кахаем — палягчалі,
Мы канаем... ўжо сканалі.
Нас бяз суму закапалі...

## Стлейг

ПСТОРЫЯ

Спадарыня Час перасыпала іскры на
камень
Багіня каханьня замешвае гліну ў
талерцы
Я іх усіх узяў і зьляпіў — атрымалася
ты
Як камень упартая
Як гліна пакорная
Каханьнем панадная
Над часам уладарная
Пасыпана зоркамі.
Калі я цябе ўбачыў —
Жаданьне ва мне разгарэлася
Калі хацеў узяць —
Ты была як каменнай — халодная
Цябе я пакінуў — хацеў не вярнуцца
ніколі
Але ты чакала...
Зьмякчэла, як гліна, у жаданьні.
Ізноў я з табою
Ты — зорная панна мая.

## Гандрусь Стрэмка

КУЛЯМЁТЧЫК

Вечар крывавы зямлю ахутаў,
Зондэр-каманды выходзяць у паход.
Сьпіць мёртвы горад, страхам акуты.
Я на дах цягну кулямёт.

Лезу на дах ратаваці сонца,
Супраць тырана узьняць свой мяцеж.
Я ёсьць апошнім абаронцам,
І гэта — мой агнявы рубеж.

У норы хавайцесе, брыдкія йстоты,
Мяне ня спыняюць воклічы: «Стой!..»
Я лезу на дах са сваім кулямётам,
І ў гэты вечар горад — мой.

Я ненавіджу здраднікаў хеўру,
Біцца зь якой ўжо пара надыйшла.
Я дасылаю чаргу у цемру,
Каб яна чорныя душы знайшла.

У сэрцы маім ные сьвежая рана,
Але кулямёт не спыняе агонь.
Шукаю прыцэлам самога тырана,
Каб зь яго дух злы выпусьціць вон.

Каб забіваць, не шкадую патронаў:
З Радзімы змываю маскальскі бруд.
Дзіка пяюць мае кулі-словы,
Ворагаў кроў яны чорную п'юць.

Вочы шукаюць у цемры мэты,
Палец упэўнена ціснe на спуск.
На языку — смак салёны вэндэты:
Я змагаюся за Беларусь!

## Давыд Сьцізорык

ЗЬНІКНЕНЬНЕ

... Бяжы! Я ўсё роўна загіну!
Лепш дзеля смагі захавай трошкі
сьлёз.
Яны прыдумалі цуд-машыну:
Эфэкту зьнікненьня моц.

Накіравалі праменьчык сіні
У глыбіню пачуцьцяў маіх.
... Ратуйся! Я ўсё роўна загіну.
Ты ж бачыш — амаль што зьнік.

Яны не карысталіся Сьмерцю.
Навошта?! Іхны сіні прамень
Існаваньня пазбавіў сэрца,
Бо яно пяець любоў да цябе.

Потым — чэрап: у ім думкі «вар'ята».
Потым — кроў: надта гучна бурліць.
О, бясспрэчна, гэта толькі пачатак!
Хто паспрабуе яго запыніць?!

На хвілінку сабою зьняволіць,
Запаліць, запалохаць як сьлед!
Зазірнуць... запытаць... замовіць...
Замаліць... Замаліць?! Не.

Я застаюся, там, у сьветлым пакоі,
Ты маліся за мяне, каб я змог
Бяз сэрца любіць — душою.
Бяз крыві сваёй помсьціць — за кроў.

Розумам без абалонкі
Разумець... І іншым сьвяціць.
... Так, ведаю, жудасна, горка...
Але... бяжы! Ты павінна жыць.

## Тацяна Ульянычава

САМОТА

*Прысьвячаецца бацьку*

Цэлы год мінуў у забыцьці,
І пісаць жаданьня не было.
Гэты час паінен быў прайсьці,
Горкае з дажджом сплыло.

Толькі боль кранае, і душу
Агарнулі сум і ўспаміны.
На імгненьне сэрца патушу,
Гэта цяжкія хвіліны.

Я альбому ліст перагарну,
Але сьлёз у вачах ужо няма,
І партрэт апошні абміну,
Каб не растапілася зіма.

Восень наступіла, і яна —
Помнік неўміручасьці тваёй.
Гэта напамін, што я адна,
Гэты год зрабіў мяне такой.

## Ляксей Храпавіцкі

***

Зялёнай хвалі ўздых
З табой нас паглынуў...

Ўцякайма, мілая, хутчэй!
Я ў сінь тваіх вачэй
Аднойчы зазірнуў,
Ды быў забіты назаўжды...

Ня чутна гаманы, —
Далёка ад людзей

З табой мы родная, цяпер.
У лесе дзікі зьвер
Раз-пораз набрыдзе,
Але пазбудземся маны.

Зьдзярэм лайно ды бруд
З расьцятае душы,

Якую больш не заплююць.
З дарогі не саб'юць
Нязпрахадні-лаўжы,
Сваю мы праўду знойдзем тут.

Мы знойдзм тут спакой,
Каханьне ды цяпло, —

І хай нас ятрана клянуць,
Анатэме здаюць
Нас, нашае жытло, —
Адно застанемся сабой.

Застанемся з табой
Навечна ў гушчары,

У краіне думных курганоў;
Мы адшукаем зноў
Сваіх старых
Ды стод збудуем над вадой.

З вачэй тваіх нагбом
Я зыркі п'ю прамень,

Плыву у хвалі валасоў...
Сярод густых лясоў
Палае Зьніч-вагмень,
Мы размаўляем зь Перуном.

## Ірэна Янчанка

***

Я ў Крывічах, я на Радзіме.
Малой, вялікай? Проста — любай.
Тут мае сонца, мае зоры,
Мой край ды родныя мне людзі.

Калі чагось не разумею,
Сюды душа заўсёды рвецца.
Бо тут змагу рашыць любую
Дылему. Мне падкажа сэрца,

Што я раблю ня так ці, можа,
Чаго яшчэ я не зрабіла,
Што трэба выправіць мне дома,
Якія шанцы я згубіла.

Тут няма месца думкам марным,
Абдумываць тут добра пляны,
Ізноў жа вельмі эфэктыўна
Загойваюцца мае раны.

Вяртаюся ізноў дадому,
А дом мой — Менск — ўвесь шэры
горад,
Такі мне родны ды патрэбны,
Мой лепшы сябра, верны вораг.

А ў Крывічах бываю рэдка,
Ды ўсё ж такі якое шчасьце,
Што хтосьці там мяне чакае
І зноў атуліць ад нянасьця.

# ЭПІКОН

Аляксей Бацюкоў

## РОЛЯ МУЖЧЫНЫ

Ідэальная жанчына — гэта кожная жанчына, калі заплюшчыць вочы на абавязковыя яе недарэчнасьці і дадаць да яе высокага мужчыну.

Куды ж дзявацца невысокім мужчынам? Ня ведаю, мне ўсё роўна, я высокі.

## КАЛІ ВАС НЯМА

Пустая кішка калідору апошні дзень чакала гаспадароў. Як пакінутая каханка, яна, сумуючы, лічыла дзень за днём, тыдзень за тыднем, самааддана блішчэла шпалерамі, бялюткай стольлю і люстэркам на сьцяне. Але небыцьцё забівала яе сваёй бязьлітаснай няўмольнасьцю.

Назаўтра пустая кішка калідору памерла. З раніцы, бо зноў узыходзіла сонца, зноў хацелася і не маглося ўсьміхацца.

Увечары прыехалі гаспадары, зарослыя чамаданамі. Глынуўшы пах сьмерці, яны ўздыхнулі: уф, як тут затхла. І гаспадыня пачала ўваскрашаць пустую кішку калідору.

## НАЗІРАНЬНІ

Калі есьці цыбуліну з расплюшчанымі вачыма — яна будзе горкай. Калі з заплюшчанымі — яна ўсё адно будзе горкай.

## ВЯШЧУН

На лёзах паходняў вывіхамі кульгавых літар яны напісалі маё бронзавае імя — Холад.

Я рву лапамі сьнег, я мкну ад іх шалёнымі выбухамі скокаў.

Але паўсюль — яны.

Валяцца з намёту, зьзяюць правыламі вачэй, паўсюдна, куды ні кірую я, плавяць мне бакі вагнём — яны.

Яны камячаць рукамі маё імя Вецер, лупцуюць ланцугамі маё імя Воўк.

Сьцякаючы крывёю, я паўзу пад крыламі ялін і разумею, што павінен абраць

паміж бясконцым імем
Сьмерць
і апошнім імем
Чалавек...

## БАЦЬКА

Бывае, да мяне прыходзіць бацька. І зьнікае, як толькі я пачынаю расплюшчваць вочы, каб убачыць і пераканацца, што — не, ён жывы, ён прыйшоў да мяне!..

## ЗІМА

Зіма ў сьнежні — як цнатлівая дзяўчына. Саромеецца.
Зіма ў студзені — квітнее. Яна спазнала адлігу.
Зіма ў сакавіку — як старэнькая жанчына. Саромеецца.

Вольга Колас

## ПАЧУЦЬЦЁ ШКАДАВАНЬНЯ

***

Вяртаюся дадому пасьля заняткаў і мару... Аднойчы я прайдуся па Менску, які будзе беларускім. На вуліцах будуць вісець беларускамоўныя шыльды, што прапагандуюць айчынную і сусьветную культуру. Я зайду ў краму, каб набыць сьвежы хлеб, і, убачыўшы мяне, прадаўшчыцы з прыемнай ўсьмешкай запытаюцца: «Добры дзень, спадарыня. Што Вы жадаеце набыць?» Я адкажу.

***

Беларусь! Ты стала такой нямоглай, што ўсё болей тваіх няўдзячных дзяцей адварочваюць ад цябе свае твары. Толькі нямногія прыхільнікі глядзяць цябе, ты для іх засталася сьвятой, і калі памрэш, то і ім жыцьця ня будзе. Зараз яны ахвяруюць сабой дзеля твайго выратаваньня. Яны не губляюць надзеі. І калі табе крышачку лепей, яшчэ больш сьветлымі робяцца іх твары. Але іх мізэрна мала.

***

Радзіма, твае ўласныя дзеці гатовыя аддаць цябе ў дом вар'ятаў, бо ты ім больш непатрэбная...

Ты бедная, убогая, нікчэмная. І глядзяць яны ўжо на цябе ня зьнізу ўверх, а зьверху ўніз, а так, пагадзіся, не павінна быць.

## АПОШНЯЯ ЗАВЕЯ

Зараз на вуліцы белы сьнег паўсюль — і на плячах дрэваў, і на дарозе ля нашага дому, і на прываконьнях, і ад яго ў кватэры сьвятлей. Худая вярба ў самым кутку двара згубіла сьнежную хустку. Яна такая гордая і... бедная. Наогул у дрэвах, што растуць побач з намі, прысутнічае частка нас. І чалавеку заўсёды патрэбна месца нешта роднае ці хаця б звыклае, і калі ён гэтага пазбаўляецца (такое часта здараецца па незалежных ад нас прычынах) ён абавязкова нешта прыручае. Каб нармальна жыць, вольна думаць, ён мае патрэбу ў звыклым асяродзьдзі. Гэта як пачатак тратуару, на які чалавек выходзіць з-за павароту і робіць крокі.

***

Высокі белы сьнег ураўнаважыў зямлю і неба. Сьцюжа ў сярэдзіне сакавіка, як заплаканае дзіця, што заблукала далёка ад знаёмай мясьціны, адышло ад дому, каб пашырыць свае веды аб навакольлі і не заўважыла, як аказалася на чужой вуліцы, у натоўпе сярод чужынцаў.

Белы сьнег вабіць сваёй некранутасьцю. Хочацца яго пагладзіць голай рукой, без пальчаткі, і адчуць розьніцу тэмпэратуры. Калі бачыш густы сьнег, часьцей успамінаеш дзяцінства. Ты катаўся на санках, быў творцам сьнегавай бабы, і ты гэта рабіў не адзін. Гурба такіх самых, як ты, цікаўных, добрых, ружовашчокіх ад марозу, забаўлялася ў белым сьнезе. Яны марылі пра прыгожае, чыстае, як гэтая сьнежная вокладка. Жылі сёньняшнім і безупынна весяліліся. Сьнег — гэта ня сум, і ня плач, і не падман самаго сябе...

***

Калі нічога ня робіш, то жыцьцё зьбягае, высьлізгвае з рук, як мокрая рыбіна. Мы жывем дзеля іншых, бо ўсе складаем грамадзтва. Мэта жыцьця адных — зрабіць карыснае для іншых, дапамагчы ім. Другія імкнуцца зрабіць кар'еру і дасягнуць посьпеху, прагнуць раскошы і багацьця, каб вылучыцца сярод іншых, і яны таксама гэта робяць не для сябе.

***

Бліскучы срэбны круг абуджанай дабрадайнасьці ляжыць на дне нябеснага фантану. Дзьме вецер, які парушае празрыстасьць вады. Хвалі накрываюць манэту. Час поўні...

Сяргей Конан

## ЗІМОВЫ ЎСПАМІН

На вуліцы зьлёгку марозна. Сонца сьвеціць, але ні кроплі ня грэе. На шчыце, зьбітым з дошак, ляжыць парсюк. Яшчэ дзесяць хвілін таму ён рохкаў, а зараз маўкліва ляжыць на баку. Запальваецца лямпа і я пачынаю смаліць. Поўсьць чарнее, скручваецца, і я лёгка зьбіваю яе нажом. Праз гадзіну справа зробленая, можна прыступаць да мыцьця. Цёплая вада, анучка робяць парсюка беленькім і чыстым. Ужо хутка поўдзень, ногі пачынаюць прамярзаць. Прыходзіцца тупаць па сьнезе, каб сагрэцца. Рукам зараз будзе цяплей, бо прыйшла хвіліна разьбіраць парсюка. Пачынаецца ўсё з ног, потым галава. Нож, востры, як лязо, пераразае шыю. Потым бярэш парсюка за вушы і круціш, стараючыся зламаць хрыбет. Перараза́юца жыліны, галава кладзецца ў сьнег, каб сьцякала кроў. Кроў з тулава зьбягае ў місу, маці потым зробіць смачную крывянку.

Цяпер зразаецца ашыйнік, далей трэба зьняць падгузьзе. Акуратныя парэзы з двух бакоў, ад сьвінячага цела яно павінна адрывацца само. Потым дастаюцца вантробы, падстаўляюцца ночвы, у іх трэба акуратна вываліць усе кішкі.

Наступная працэдура — аддзяленьне хрыбта з рэбрамі, трэба рэзаць уважліва і ціха, каб не пашкодзіць сала і ня згадзіць паляндвіцу.

Адразаюцца лапаткі, сьцёгны, сала рэжацца на роўныя кавалкі.

Засталося парубіць хрыбет, рэбры. Скласьці ўсё ў місы. Сала, паляндвіцы, лапаткі, сьцёгны ляжаць у лазьні на цыраце. Усё прыбіраецца, месца працы прысыпаецца сьнегам. Як нічога й не было.

Сонца на захадзе коціцца павольна за гарызонт. Мароз мацнее, хочацца хучэй у цяпло.

У хаце на стале стаіць пасмажанае сала, мяса, пячонка. Якая смаката гэтая сьвежаніна!

Цела адыходзіць ад марозу, сьліна напаўняе рот, сківіцы павольна, так больш смаку, усё перацінаюць.

Нехта прачытае, можа, праз шмат гадоў, а можа, і сёньня, і падумае: «Ну і дзікуны гэтыя беларусы. Чым яны лепшыя за людажэраў?» Але ўжо так склалася, што тое, чым жывем, намі ўспрымаецца нармальна. І я, які ня можа прысутнічаць пры працэдуры закалваньня парсюка, з задавальненьнем апісваю ўсё астатняе.

Мы не дзікуны, проста гэта зімовы ўспамін, які мае прыемны тон.

Мы так жывем.

Алесь Менскі

## НА ЖЫЎЦА

Заўсёды знаходзяцца людзі, якія не прамінуць нагадаць мне пра тое, што я навічок у Камітэце. Гэта, вядома, так, але... На маю думку, я маю даволі нядрэнны досьвед у пэўных справах. Асабліва добра я разумею псыхалёгію ды паводзіны гэтых чалавечкаў, якія пачуваюцца зусім бясьпечна сярод натоўпу такіх жа самых баязьліўцаў, дзяруць горла на плошчах ды праспэктах, а потым, згарнуўшы свае квяцістыя анучы, схаваўшы ў кішэнях свае бязглуздыя значкі, хуценька крочаць дадому па вузкіх бакавых вулках. Яны спадзяюцца, што ссутуленыя плечы ды адсутна-бяскрыўдны выраз твару нейкім чынам маскіруюць іх. Які наіў!

Гэты хлопец, які пасьля кожнага воклічу папраўляе спаўзаючыя на нос акуляры, — адзін з такіх вось чалавечкаў. Дробная рыбка, вядома. Але яны ўсе такія. Магчыма, падсьвядома ён і здагадваецца, што сядзіць на кручку. Зразумела, зараз мы яго браць ня будзем — які сэнс? Вось людзі патроху разыйдуцца, ён таксама пацягнецца дадому, і тады...

І ўсё ж такі ёсьць нешта ў тым, каб павольна, упэўнена крочыць утрох за сваім «аб'ектам», пераглядацца са стоенай у вачах усьмешкай ды лузгаць семачкі.

Вось ён азірнуўся. Яшчэ раз. Паскорыў хаду. Пераглядаемся. Ён пабег, энэргічны рывок наперад...

— Пройдёмте!

Ну, нашто так упінацца? Мы ж усё адно засьвецім плёнку з твае «мыльніцы», ператрасем кішэні, завядзем куды трэба. Здаецца, нават і весьці ня трэба будзе: вунь непадалёк спынілася сьветла-шэрая «Волга» з чырвоным нумарам. Казырнулі чалавеку ў цывільным.

— Взяли? Молодцы. Один из вас с ним — в машину.

Вось вам! Я хаця й навічок, але ведаю, што са здабычай трэба зьяўляцца ва ўласнай пэрсоне, бо йначай узнагароды можна не чакаць. Напарнікі, напэўна, і міргнуць не пасьпелі, як я прасьлізнуў у аўтамабіль.

Люблю «Волгі». Люблю шырокія седалы, пакрытыя дыванам. Пэўна, гэта самая ўтульная рэч у сьвеце.

Вось гэты хлопец, у люстэрку адбіваецца. Хочацца нешта сказаць. Нешта такое, як у фільмах, бо моцна ўсё ж нагадвае...

— Ну что, игра закончена, приятель!

Штосьці няма рэакцыі. Хіба гэта не дарэчы прамоўлена?

— Памыляесься, сябра! Усё толькі пачынаецца!

Нейкая непрыемна халодная ды цьвёрдая рэч упялася ў маю патыліцу. У люстэрку блiснулі спакойныя вочы, схаваныя за акулярамі. Кіроўца скоса зірнуў на мяне, пстрыкнуў недакуркам у шчыліну над прыадкрытым бакавым шклом і пачаў рэзка набіраць хуткасьць.

Юрась Півуноў

## НАСТАЛЬГІЯ ПА ВЕЧНАСЬЦІ

... Лістападаўскі вечар. За вакном шамаціць халодны восеньскі дождж. Раз-пораз па дарозе каля дому праносяцца, распырскваючы лужыны на мноства фантанчыкаў, машыны. У цьмяным сьвятле ліхтароў-маякоў блішчаць пакручастыя, аголеныя (і ад гэтага нейкія пачварныя) мокрыя галіны дрэваў. Роўны пошум дажджу навявае спакой. Ціха. Ня верыцца нават, што недзе побач шуміць-віруе й цяжка дыхае небарака-горад. Там — заўсёды сьпяшаюцца некуды людзі й машыны, там — мора агнёў, сьвятла, гукаў... Тут жа — толькі ціхі шолах дажджу за вакном.

Ніяк не здаволіцца цішынёй. Гэта, пэўна, хранічная «хвароба» многіх гараджанаў. Вяскоўцам гэтага не зразумець. Яны пастаянна жывуць у спакойнай атмасфэры зацятага сялянскага побыту — і для іх гэта звыклы стан.

У вёсцы, асабліва летнім позьнім вечарам ці ноччу, стаіць гэткая ціша, што чутна, як шуміць рэчка на перакатах, як стукае ўдалечыні, бегучы па рэйках у вялікія, тлумныя гарады, цягнік.

Усё думаю, як назваць гэтую неспатольную прагу цішыні, спакою? Магчыма, настальгіяй па вечнасьці...

Руслан Равяка

## СКАВЫТАНЬНЕ ВАЎКОЎ

Жывучы ў лесе, разумееш кошт сапраўднага сяброўства. Ніхто ня дасьць за яго нават драўлянага замшэлага талеру. Які дурань будзе плаціць за нябачнае, за вар'яцкае заспакаеньне? Кожны сам корміць сябе штодзённай аднастайнай працай. Пасьля такіх цяжкасьцяў я яшчэ павінен некаму дапамагаць?

Каханьне, як і сяброўства — лухта! Казулькі ды матылі знаходзяць сваю палову за сотні кілямэтраў. Чым розьнімся мы? Крыху іншыя, больш «інтэлектуальныя» шуканьні дзеля той самай патрэбы — працягу свайго роду. Наш інстынкт празваны каханьнем. А сям'я — гэта саюз на нейкі час, дзеля задавальненьня собскіх патрэбаў двух істотаў. Калі гэта прыносіць задавальненьне — чаму не? Але па нараджэньні нашчадкаў слабейшая палова павінна, калі жадае, сама ўзгадаваць іх. Здаровы самец бачыць у маладых будучых супернікаў. На халеры карміць будучы заняпад самога сябе?

Жыцьцё гэта барацьба. Барацьба за спакойную й годную сьмерць. Барацьба за будучае забыцьцё. Каб выкараскацца з пасткі, трэба выбрацца з заўсёднага, алёсістага, імшэлага лесу. На волю. За мяжу, куды толькі адзінкі, заплюшчыўшыся, здолелі зрабіць колькі крокаў. Пасьля яны вярталіся, каб паклікаць астатніх, але заставаліся ў лесе назаўжды. Я ж пайду толькі наперад. Гэта патрэбна мне, а не натоўпу.





## Сяржук Сокалаў-Воюш

### ПАЛІТЫЧНЫ ЭМІГРАНТ

*— А за Гомляй людзі ё?*
*— Ё. Толькі — дробненькіё.*
(З фальклёру)

*За акіянам людзі ё,*
*І досыць нелюдзяў удома,*
*Хаця паўсюдна ёсьць, вядома,*
*Народ прыстойны і зьвяр'ё.*

*Чаму ж тады за горы й моры*
*У сьвет іду з Радзімы я —*
*Таму, што не бывае горай*
*Свайго уласнага зьвяр'я?*

*Але чаму тады з чужыны*
*Да нас ня пхнуцца пад крысо?*
*Бо лепей іхнае ласо,*
*Чым посьвіст нашай батажыны?*
*Бо наш прыўладны шапіто*
*Існуе славаю Пішчалы?*
*Бо каля нашага вяшчалы*
*Прарокі іхныя нішто?*

*Ды што мне да чужога краю,*
*Хіба што стоячы ўбаку*
*Засьведчыць: кожны ў сьвеце мае*
*Сваіх Сапегу і Луку.*

*А кожны з нас — сваё аблічча,*
*Свае і дзіч, і ВІЧ, і лыч...*
*І нас усіх Радзіма кліча,*
*Ды той ідзе, хто чуе кліч...*

1 лютага 1998 г. Прага

***

*Менск ці польскі, ці літоўскі,*
*Ці расейскі, ці нямецкі,*
*То — з улады — фашыстоўскі,*
*То — імпэрскі, то — савецкі,*
*Ды заўсёды ёлкі, друзкі*
*І няўтульна-непрывабны*
*Для захопнікаў нахабных,*
*Бо заўсёды — Беларускі...*

*Клічнік, — думкі вымагалі,*
*Ды шматкроп'е пальцы білі...*
*І адно другому йлгалі,*
*І адно з другога кпілі,*
*І прыгадвалі дэталі,*
*І дамешвалі дамешкі,*
*І пра Мінск мяне пыталі,*
*З хітраватаю ўсьмешкай...*

*Мінск і польскі, і літоўскі,*
*І расейскі, і нямецкі,*
*І з улады — фашыстоўскі,*
*І імпэрскі, і савецкі,*
*І ніколі — ёлкі, друзкі,*
*Ці няўтульна-непрывабны*
*Для захопнікаў нахабных,*
*Бо ніколі — Беларускі!*

*Так і цягнецца вякамі —*
*Дзякуй Богу — не спрадвеку...*
*Ды мінчане зь менчукамі*
*Абмінаюць пустасеку,*
*Не тубыльцы з чужакамі*
*Каб дабіцца да нагробку,*
*А й ня так, каб сваякамі*
*Пачуваюцца міжсобку.*

*Во й жывуць па-палавінску,*
*Мысьляць: хто каго рабуе?*
*А тым часам Менск па Мінску*
*Неадроджаны шыбуе.*
*На Траецкім і па Менцы,*
*Між будынкаў, з вулак шэрых...*
*І трымцяць перараджэнцы*
*За фіранкамі ў кватэрах.*

9 сакавіка 1998 г. Прага

***

*Там смала і вагонь, і смурод.*
*Мы ўдвох — кожны з нас зарабіў.*
*Ты — таму, што забіў свой народ,*
*Я — таму, што цябе не забіў.*

9 сакавіка 1998 г. Прага

*Падарожныя нататкі*

## Адам Глёбус

# Падарункі зь Вены

Знайдзі малапатрэбную рэч у кватэры. Знайшоў? Знайдзі яшчэ колькі падобных штучак і атрымаецца абагульненьне: самыя непатрэбныя рэчы ў доме — падарункі. Чужы чалавек ня можа, каб і хацеў, выбраць тваю рэч. Ведаю, разумею, і не магу адмовіць сабе ў задавальненьні шукаць, набываць, прывозіць і раздаваць падарункі. Праз падарунак вымяраецца цеплыня ўзаемаадносінаў, таму я пазьбягаю дарыць сваім жанчынам паўжывыя кветкі, загорнутыя ў цэлюлёідны й агідны саван. Люблю прэзэнтаваць функцыянальныя доўгажывучыя рэчы й носьбіты задавальненьняў. Колькі я ўсяго ўсялякага панапрывозіў, панараздаваў, перадарыў?! Вагон. А можа й два.

Вось вазьму нататнік з падарожжа ў Аўстрыю. Я толькі набыў квіткі да Вены й адразу ж напісаў пералік асноўных асобаў, каму трэба, кроў з носу, прывезьці падарунак ці пачастунак. Добра-добра, з крывёю яўны перахлёст, але менавіта крэўныя ўзаемаадносіны фармуюць сьпіс прэтэндэнтаў. Пачаў з дачкі. Можна пачаць зь іншага, якога сябра ці супрацоўніка ў маім выдавецтве, ці з маці, ці з жонкі, але я заўсёды пачынаю з дачкі — традыцыя, завядзёнка, звычка, сэнтымэнт — калі пажадаеш.

Можна было б эгаістычна, ва ўмовах нашага постперадкаляніяльнага грамадзтва, пачаць зь сябе. Толькі сабе першы падарунак зроблены, вандроўка ў Венскі лес і жоўты элегантны гарадок Бадэн, недалёка ад якога аўстравугорскі прынц Рудольф, сын апошняга значнага, так пішуць аўстрыйскія даведнікі, імпэратара Аўстрыі Франца Фэрдынанда з Габсбургаў, дабраахвотна пакінуў наш з табой сьвет. З-за чаго ён зрабіў бацькам такі звышарыгінальны падарунак, утварыўшы забароненую Богам справу, даведаесься пазьней.

Спачатку я ўсё ж пералічу сваіх кандыдатаў на падарункі... Пасьля дачкі ў сьпісе стаіць жонка. Тлумачэньні залішнія. За ёй — мае маці з бацькам. Потым — сын, брат, братава, іх дзеці, цешча зь цесьцем, мае сябры па пяру, сябры па працы, сябры па рублю, сябры па чарцы і патрэбныя людзі X.Y.Z. Дарэчы, X.Y.Z. у кожнай вандроўцы розныя, сябры гэтаксама знаходзяцца ў стане пэрманэнтнай ратацыі, толькі пачатак сьпісу нязьменны.

Ненадзейны я чалавек? Ну ты сказаў, ну ты залупіў, дружа мой! А хто надзейны? Той, у каго X.Y.Z. на першым месцы? Дулю з макам табе ў падарунак, мой любы дружа. А чаму дулю, зараз патлумачу... Адна пажылая й разумная паэтка, такая старая й такая геніяльная, што можна, не сказіўшы душы й праўды, назваць яе вялікай старажытнай паэткай, сказала мне: «Усе твае грошы, да астатняга шэлега, табе не належаць, яны належаць тваёй малодшай дачцэ». Чаму дачцэ, а ня сыну? Чаму малодшай, а не старэйшай? Чаму ня жонцы? Пытаньняў столькі, што лепей не разважаць, а даверыцца генію. А калі мае грошы належаць ёй, дык лягічна, каб дачка займала каронную прыступку ў сьпісе падарункаў. Так, дачка запісаная ў чырвоны пачэсны радок, а X.Y.Z. замыкаюць сьпіс. Нельга бяз X.Y.Z., як немагчыма не хадзіць у прыбіральню, як нельга хадзіць у прыбіральню й спраўляць патрэбы, ня зьняўшы майтак. Даруй за фізыялягічнае параўнаньне. Але ў біялёгіі й ёсьць лёгіка. Праўда, у фізыялёгіі й біялёгіі лёгіка з моцным прысмакам фізыкі. Нідзе ня дзенесься ад фізыкі. Яна наскрозь, паўсюль, ва ўсім. Яна іскрыцца энэргіяй і імпэтам. Зь фізыялягічным энтузіязмам я й пачынаю набываць рэчы ў падарунак для людзей і жывёл. У сьпісе заўсёды прысутнічаюць яшчэ й каты, мая котка Кіса й цешчын кот Тарзан. Ім таксама шмат што трэба ў жыцьці: і грабеньчыкі для вычэсваньня поўсьці, і дошкі, каб вастрыць кіпці, і міскі зь ежаю і пітвом.

Жывыя душы ў рухавых целах прагнуць радасьцяў. Хай самых простых: харч, сэкс, сон. Простая формула. Пра яе й разважаю, седзячы на ложку ў венскім гатэлі «Рэнэсанс». Сяджу й думаю, як устаць у тэрмін, каб не спазьніцца на аўтобус у Бадэн, калі будзільнік застаўся дома, у Менску на вуліцы Чырвонай. Дачка мая, чалавек дысцыплінаваны, яна сама ўстае за пяць хвілінаў да званка будзільніка, сама гатуе сьнеданак. У яе пакоі процьма добрых і паламаных будзільнічкаў... Эўрыка... Мярзотнае слоўца зь дзіцячай энцыклапэдыі, але ж ім пазначалася азарэньне, якое спазнаў Архімэд, убачыўшы сувязь паміж масай цела й яго аб'ёмам. Так і я ўбачыў сувязь паміж сьпісам і патрэбаю. Падару дачцэ швэйцарскі ці аўстрыйскі будзільнік. Узра-а-адуецца. Крышку пакарыстаюся сам. Праверу, як працуе. Надзейны ці ненадзейны? І падару. Яна дарует, што карыстаўся. Яна й ведаць ня будзе, калі ты не закладзеш. Сяброў не падстаўляюць. Жартую. У першую чаргу прадаюць якраз сяброў.

У Вене такі спакой і ціша, што трэба іранізаваць, каб не заснуць. Бо калі ў Вене не жартаваць і заснуць на поўным сур'ёзе, дык можна прачнуцца патрыётам Аўстра-Вугорскай імпэрыі і расказваць усім сустрэчным пра веліч імпэрыялізму, пра значнасьць Франца Фэрдынанда, чый сын застрэліў сваю каханку — баранэсу Мэры Вечэру. Што да маіх каханак, дык ім я не прывожу падарункаў пэўна таму, каб узаемаадносіны не перарасьлі ў страсьці, і ні я іх, ні яны мяне не зарэзалі, не застрэлілі, не атруцілі. Каханкі ў сьпіс прэтэндэнтак на падарункі не ўваходзяць з-за сьмертаноснасьці, ці як сказаў бы Жорж Батай — з-за танатаграфіі эрасу. А яны хацелі б, і я хацеў бы. Але мала хто што і хто каго жадае.

Памкненьняў заўсёды больш, чымсьця магчымасьцяў. З такімі думкамі іду па Кругерштрасэ, іду па Шварцэнбэргштрасэ, выходжу на Карлпляц, і нідзе няма крамы з гадзіньнікамі. Так заўсёды: захочаш і няма. І тады варта зрабіць наступны крок —прымітыўны й тупы. Заходжу ў першую краму й набываю любую больш-менш прыдатную для прэзэнту рэч. Набор з трох флямастараў і аўтаалоўка з гумкаю. Невялікі нямецкі канцылярскі набор. X.Y.Z. пазначаюцца ў нататніку як задаволеныя. Ім дастанецца па чорным тонкадзюбым флямастары, аловак схаваецца — пра запас.

Галоўнае ў справе — пачатак. Далей пойдзе лягчэй, як па рэйках з гары. Будуць і перашкоды, ну хоць бы кошты. Ну вось захацеў я набыць для жонкі графіку Жоржа Брака... Стаяў каля вітрыны й разглядаў летуценныя акварэлі Марка Шагала і аскетычныя малюнкі Джакамэці. Паразглядаў, пачытаў сьпіс аўтараў галерэйнай калекцыі, пакуль не зачапіўся за прозьвішча Брака. Каго-каго, а Жоржа Брака я заўсёды цаніў за густ, за партыйнасьць і легендарную сварку з Пабла Пікаса. Пабла й Жорж вынайшлі кубізм. Яны стварылі новую жывапісную рэчаіснасьць. Яны малявалі рэчыва. Яны дамовіліся ўзяць тры простыя прадметы: бутэльку, люльку і тытунёвы ліст, паставіць зь іх, кожны ў сваёй майстэрні, нацюрморты і напісаць па геніяльным палатне. Так і працавалі. І вось да Брака наведаўся Пікаса, зірнуў на карціну й сказаў: «Жорж, мы ж дамовіліся маляваць бутэльку, тытунёвы ліст і люльку, а ты намаляваў вавёрку». Брак запераЖываў, як сумленны творца, ён выконваў дамову і рыскамі, кропкамі, плямамі рабіў кубістычную рэальнасьць, у якой кожная недасканалая рэч імкнецца да дасканалай і геамэтрычнай формы. А Пікаса сваімі лупатымі, як у чарапахі, вачыма ўбачыў на карціне сябра звычайнага паркаваляснога зьвярка, які любіць семкі з арэхамі й ня мае ніякага дачыненьня да абумоўленых бутэлек, люлек і лістоў тытуню. Брак пакрыўдзіўся на Пікаса. А геній Пікаса зрабіў выснову: малюючы адно, можна намаляваць зусім іншае. Ён пайшоў у сваю майстэрню й зрабіў з роварных сядла й руля галаву быка. Глядзіш — руль і сядло. А бачыш — галава быка.

Ідучы на Захад, можна прыйсьці на Ўсход. З такімі ўспамінамі я й апынуўся ў сьветлай галерэі, дзе выхаваны гаспадар расставіў каля сьцяны лінарыты Жоржа Брака ў жоўтых рамах. Мне спадабалася пясочная птушка. Але кошт уразіў. Я магу бязь ценю сумневу зайсьці ў самую дарагую галерэю, магу прымусіць сноба гаспадара насіць і дэманстраваць усе свае каштоўнасьці, але набыць шэдэўр не магу. А ўсё з-за таго, што сам мастак, і калі справа даходзіць да пытаньня: «Набываць ці рабіць самому?», схіляюся да апошняга — вазьму й намалюю, ці яшчэ лепей — напішу й ахвярую жонцы. Паглядзеў, палюбаваўся й дастаткова. А жонцы, жонцы... Посуд фірмы «Цэптар», і ня ўвесь набор, а толькі маленькую бліскавічную кававарку. Раніца, духмяная кава, кубак фірмы «Цэптар». Кубак сабе, а жонцы кававарку. Яна ня любіць піць каву з мэталёвага посуду, а я люблю.

Так заўсёды. X.Y.Z. і жонка выкрэсьліваюцца са сьпісу першымі, а дачка, мая любімая дачка, знаходзіцца ў чаканьні, пра якое, дзякуй Богу, ведаць ня ведае.

У Вене сьцямнела. Вуліцы пустыя. Празь пятнаццаць хвілін усе крамы зачыняцца, а я застануся без гадзіньніка-будзільніка. Іду. Бягу. Лячу. І нарэшце ёсьць вітрына. Іх там процьма. Гандляркі ўжо ў палітонах. Але ласкава пагаджа-

## Наталка Білацэрківец

*ЗЬ НІЗКІ «ТРЫЦЦАЦІГАДОВЫЯ ПАЭТЫ»*

***

Я памру ў Парыжы ў чацьвер увечары.
Сэсар Вальеха

*Забываюцца лініі колеры пахі і гукі*
*зрок слабее слых гасьне і простая радасьць мінае*
*за сваёю душой прасьціраеш аблічча і рукі*
*але недасягальна высока яна пралятае*

*застаецца вакзал на ягоным апошнім пэроне*
*шэрым шумам растаньне брыняе клубіцца і зараз*
*размывае яно кволы шчыт дзьвюх маленькіх далоняў*
*і агідным салодкім цяплом прапаўзае па твары*
*застаецца каханьне ды лепш бы яго не было*

*аж да стомы наплакалася ў правінцыйнай пасьцелі*
*зыркі грэблівы бэз спадылба зазіраў з-за вакна*
*гладка ехаў цягнік заканы млява глядзелі*
*як паліца пад целам тваім задыхаецца ў снах*
*так банальна вакзальна сьціхала цішэла вясна*

*мы памрэм не ў Парыжы*
*у поце сьлязах задушэньні*
*правінцыйнага ложку парэнча застудзіць руку*
*і нічый пацалунак нам не прынясе суцяшэньня*
*і ніхто не падасьць табе цёплы бакал каньяку*
*пад мастом Мірабо не прабліснe смуга мораку*

*надта горка мы плакалі і абражалі прыроду*
*надта моцна кахалі*
*каханкаў саромячы юр*
*надта вершы пісалі паэтаў зьняважыўшы*
*зроду*
*нам яны не дазволяць памерці ў Парыжы*
*і воды*
*пад мастом Мірабо шчыльнай вартай сваёю спаўюць*

*ЧОРНЫ КАМЕНЬ НА БЕЛЫМ КАМЕНІ*

*(з Сэсара Вальехі)*

*Памру ў Парыжы, у чацьвер, у дождж.*
*Я ўжо той дзень прыгадваю паволі.*
*Памру ў Парыжы і не пабягу*
*я пад дажджом, самотны, як сягоньня.*

*Так, у чацьвер, бо і цяпер чацьвер,*
*калі я мрою вершы, калі глуха*
*ў плячах мне ные. Я ўжо не вярнуся*
*да сам-сябе на шляху пустаты.*

*Сэсар Вальеха ўмёр. Яго няма.*
*Яго ўсе білі, хоць нічога злога*
*нікому не зрабіў ён. Задарма*

*сьцяблі яго дубцы і батагі.*
*За сьведкаў жа — самота і дарогі,*
*дажджы, боль плеч, дажджы і чацьвяргі.*

*ЗЬ НІЗКІ «ШЭСЬЦЬ ВЕРШАЎ»*

***

*З кожным каханьнем ня шчасьце, а зараз тым больш:*
*шчасьце такое ж, як твару зацяснуты боль,*
*жменяй прыкуты да вуснаў у прагным аскале.*
*Можа, і хочаш унікнуць апёку нажа —*
*толькі ахвярнай рахманаю птушкай душа*
*кроўю салодкаю жывіць малекулы сталі.*

*З кожным каханьнем няшчасьце, тым болей з маім:*
*нібы маленькі крэтын каля ложку стаіць,*
*гледзіць лагодна і просіць цнатлівай уцехі.*
*І праз агіду і жах бачу крыжык на ім,*
*і замярзаюць ваніты пры ясным сьвятле,*
*што прарастае данізу зь нябеснае стрэхі.*

*Скінь чаравікі, кашулю пакінь на пяску.*
*Скуру сваю растулі, як вужову луску.*
*Быццам бы жэжкую, вузкую, сьлізкую похву —*
*вызваль таксама душу і аддай на пацеху.*
*І ў калатні храмасомаў, у гвалце тканін*
*будзе вас двое, але застанешся адзін.*
*З гэтага курчу каленяў і потнасьці сьпін —*
*дзеці, як макі ў пяску, расьцьвітаюць паціху.*

*РЫБА*

*Заўсёды ў профіль, шэрая і плоская,*
*русалчын хвост, мутнае, шалёнае вока...*
*Зьнімаючы цябе з гачка, рука*
*трымае за жабры проста і жорстка.*

*Заўсёды ў профіль, заўжды нямая,*
*крохкі шкілет, кволыя краты рэбраў...*
*Надыходзіць старасьць. Спакою ня мае*
*мая душа, звыклая здабываць.*

*Стаіць вада ва ўлоньнях мацярок,*
*маўчыць прырода; раптам, як гневу першы крок,*
*скаланаецца яе нутра бяздоннасьць —*

*трымай жыцьцё! Яно сплывае з рук,*
*як рыба, пакідаючы ў далоні*
*разьведзеныя вадою сьлізь і бруд.*

**АД ПЕРАКЛАДЧЫКА**

**Украінская літаратура ХХ ст. настолькі ж экстравэрсійная, наколькі беларуская — літаратура інтравэртаў. І настолькі ж Наталка Білацэрківец выбіваецца з украінскай паэтычнай традыцыі: падкрэсьленая зьвернутасьць да сябе, традыцыйнасьць рытмаў і звыклыя вобразы, адмова ад патэтыкі ў зборніку «Лістапад» (1989). Фармальны стыль Н.Б. застаецца той самы і ў «Шасьці вершах» (часопіс «Сучасність», 1997), але зьмянілася інтанацыя: на нешта заўчасна *позьняе*; скурчанае, артрытнае; «апошнюю спробу вылецець кудысьці». Хочацца сказаць, што гэта жаноцкая паэзія, але што такое жаноцкая паэзія?**

**Праз два гады пасьля «Лістападу» Наталкі Білацэрківец выйшла «Восень» Тацяны Сапач, а ў ёй верш з трошкі фальшывай назвай «Адзінота»: «О, гэта ноч!.. Стамляюцца зьмяняцца / Сьляпыя вочы вечных сьветлафораў / і аціхаюць шолахі шалёных, / з абпаленымі крыламі, мятлух...» — і гэтак далей на 18 гратэскна-паўнаважных (замяніце ноч на дзень: «О, гэта дзень!.. Стамляюцца зьмяняцца...») радкоў сэнтымэнтальнага мэтлуху мятлух, каб раптам вывесьці сябе за дзьверы-шматкроп'е пры канцы верша і бязьлітасна спусьціць па сходах:**

***... Будзе дзень і будзе дзея,***
***і той, хто быў сьляпы, відушчым стане,***
***і будзе наш нябога ўладаром...***
***А толькі мне няма куды ісьці,***
***І ўжо даўно няма куды ісьці —***
***там***
***нехта ёсьць,***
***і я яго баюся...***

**Хто гэты *ён* у жаноцкай паэзіі?**

**Хараствам, шляхетнасьцю і годнасьцю твару і паставы Наталка Білацэрківец нагадвае Эльзу Трыяле або Ганну Ахматаву, а сваёй выкшталцонай густоўнасьцю строяў яшчэ й Сымону дэ Бавуар, пра якую пад час яе з Сартрам паездкі ў Японію адзін японскі журналіст напісаў: «Проста ня верыцца... што настолькі прыгожая жанчына як Бавуар магла напісаць столькі ўсяго таленавітага».**

Андрэй Дынько



юцца зьняць з палічкі гадзіньнічак і загарнуць у прээзэнтацыйную паперу з каляднымі зоркамі. Мне тыя зоркі да лямпачкі. Хто шукае, той знаходзіць. І хай за хвіліну да закрыцьця.

Цяпер спакой. Можна гуляць па Вене да самае ночы. Можна слухаць фугі Баха на двух баянах. Можна паслухаць арфіста. А можна рок-н-рол у выкананьні маленькага гітарыста з магутным вакалам. У Вене шмат музыкі. Гэта адзіны горад з усіх шматлікіх, дзе давялося пабываць, які валодае культурай гуку. Валодае й дорыць гэтую культуру. Моцарт у Вене паўсюль. Ён гучыць у аўтобусах, у мэтро, у кавярнях, у музэях, гучыць ціха. І ты ўслухоўваесься, слухаеш, чуеш. Нават калі сьпіш, у снах гучыць музыка Моцарта.

Пад ціхую музыку Моцарта табе скажуць, што Вена ў цэнтры Эўропы. І паверыш. Бо Вена можа быць і ў цэнтры Эўропы, і ў Заходняй Эўропе, і ў культурнай інтэрнацыянальнай Эўропе. А твая родная Беларусь і дарагая Вільня ня могуць быць у цэнтры Эўропы, бо яны проста ня сталі цэнтрам. Каб быць у цэнтры, трэба быць вышэй і лунаць над фізычным цэнтрам — у залатой сярэдзіне. Нездарма адна з найлепшых паэтычных кніжак, якую мне давялося прачытаць, называлася «Золотое сечение. Der Goldeneschnitt. Австрийская поэзия XIX-XX веков в русских переводах». Менавіта ў ёй я знайшоў кранальныя радкі Георга Тракля. Радкі... Пра... Народы, што гінуць, і якім наканавана бясьсільнай хваляю разьбіцца аб бераг ночы, нібыта зьнічкам. Цікава, ці можна загадваць жаданьні, калі гіне нацыя, ці толькі калі падае зорка? Наўрад. Нацыя гіне, гіне, гіне, а зьнікнуць ня можа. Далёка хадзіць за прыкладам ня будзем. Беларуская нацыя ня толькі гіне, але набірае поўныя грудзі паветра й крыкам крычыць пра ўласную цэнтральнасьць у Эўропе. Выдатна. Толькі ніякай культуры гуку. Гэта енк, гэта крык, што жыве Беларусь! А культура адсутнічае. Сумна, горка, балюча.

У Вене наадварот: спакойна, соладка, прыемна... Вядома, ня ўсім. Аўстрыйцам і гасьцям, з падарункамі ў кішэнях і партфэлях, прыемна й вусьцішна, а палякам, сэрбам, русінам, харватам значна цяжэй. Эмігрант і на Месяцы будзе эмігрантам, і на Сонцы.

Аўстрыя — краіна сонечная, але ня толькі таму, што ў ёй сьпее вінаград, а яшчэ й таму, што ёсьць краіны й культуры сонечныя, а ёсьць адпаведна — месячныя. Сонечнымі культурамі я называю імпэрыі: кітайскую, гішпанскую, ангельскую, расейскую, францускую і г.д., і г.д., і г.д. да аўстрыйскай. А месячнымі, само сабою, назавуцца культуры народаў і краінаў, што знаходзяцца ў залежнасьці ад сонечных дзяржаваў. Сам я, ты ведаеш, жыву ў дзяржаве невялікай. Таму ў Вене мне вельмі добра ўначы, калі вуліцы й пляцы пустэльныя, калі можна зайсьці ў тэлефонную будку, пагаварыць зь Менскам, і твой гучны бескультурны голас будзе запаўняць увесь Карлпляц.

Пэўна ў Вене добра сьпіцца на правым баку, але я заўсёды клаўся на левы, каб раней уставаць, каб болей паглядзець, мне было шкада часу на сон, як Каралу Чапэку ў ягоных вандроўках па Эўропе. Уставаў я радасна, нібыта хлопчык, якому споўнілася адзінаццаць гадоў, і ён чакае віншаваньняў і падарункаў.

Я казаў, што раздарыў два вагоны падарункаў, а колькі іх надарылі мне? Безьліч. Ад простых яблыкаў да найкаштоўнейшых кніжак. Зь дзяцінства мне дарылі кнігі. У імпэрыі, дзе я вырас, быў такі лёзунг: «Кніга — найлепшы падарунак!» Пра імпэрыю гаварыць ня буду, бо яе назоў антыэстэтычны й псуе тканіну тэкстаў, лепш пра кнігі распавяду. Каб я стаў імпэратарам, а не пісьменьнікам, расказаў бы пра геапалітыку, мэтапалітыку, заходнія ўплывы і ўсходнюю экспансію. Разгарнуў бы тэзу пра тое, што каб захаваць мір у вялікай імпэрыі, неабходна весьці ваенныя, баявыя, акупацыйныя дзеяньні за яе межамі, як СССР (не ўтрымаўся) вёў у Аўганістане, Віетнаме, на Кубе ці ў Нямеччыне, бо інакш нязгаснае полымя вайны, а яно нязгаснае, перакінецца ў саму імпэрыю, як перакінулася ў Таджыкістан, Абхазію, а пазьней у Ічкерыю й Дагестан. Але я —літаратар, якому з маленства дарылі кнігі розныя: вялікія, маленькія, танныя, дарагія, расейскія, польскія, нямецкія, беларускія...

Нямецкую кнігу з малюнкамі экспрэсіяніста Барлаха мне прээзэнтаваў перакладчык Норбэрт Рандаў. У свой час я падарыў спадару Рандаву архітэктурны краявід, намаляваны тушшу. Барлах, акрамя безьлічы малюнкаў і скульптураў, стварыў некалькі філязофскіх раманаў, пра якія давялося прачытаць у трохтомнай гісторыі нямецкай літаратуры, якую падарыла мама. Ні на адну з мне вядомых моваў проза Барлаха не перакладалася, а пачытаць яе вельмі хацелася. Ну дык скажу, як вучыў настаўнік кампазыцыі Альгерд Малішэўскі... Ня вельмі й хочацца! Такі сказ супакойвае. Падобныя супакойвальныя сказы можна прээзэнтаваць. Толькі я заўважыў, што людзі ня любяць парадаў, хай карысных і патрэбных, калі тыя парады ня выкладзеныя на паперы й не пераплеценыя ў кніжку. Лёс Сакрата — найлепшы прыклад. Сакрат даваў парады, як жыць сумленна й быць шчасьлівым. А яму за парады-падарункі паднесьлі келіх атруты.

Людзі любяць рэчы. Раздорваць парады небясьпечна. Буду гуляць па Вене, набываць рэчы, каб потым дарыць, а парады буду запісваць у нататнік, каб скласьці ў зборнік і выдаць пад двухмернаю назваю «Парады самому сабе».

Кожнаму сваё, было напісана на браме аднаго ня лепшага месца на тэрыторыі нямецкамоўнага народа. Кожнаму свае падарункі. Каму ад д'ябла. Каму ад Бога. Каму ад імпэратара, а каму й ад маёй нясьціплай пэрсоны. Каму наступнаму? Бацьку. Тата любіць нататнікі, алоўкі, сшыткі, асадкі. Ён любіць усё, што піша і ўсё, на чым можна пісаць. Тата — літаратар. Раней з вандровак я вёз яму сшыткі, а ён перайшоў на друкарскую машынку. Дзіўна, друкарскую машынку я палюбіць ня змог, мне або ручкай пісаць, або на кампутары працаваць, толькі не машынка. Лясь... Лясь... Лясь... На машынцы. І ніводнай думкі ў галаве. Машынка разбурае музыку сказаў, лёгіку думак, руйнуе літаратурна-лірычны настрой. Ня змог я перайсьці на машынку, а бацька змог. Варта ўсё ж падарыць яму кампутар. Толькі ня зараз, а крышачку пазьней. Валачы зь Вены кампутар — рукі адарвуцца. Падарункі з далёкага замежжа мусяць быць каштоўныя, невялікія, лёгкія. Бацька пастарэў і любіць лёгкую адзежу. Апошнім часам ён амаль ня сварыцца з мамаю. Бацькі пастарэлі, і ў іх скончыліся сілы на сваркі. Нават на сваркі. Бацька любіць крышачку выпіць, а мама ўсё ніяк ня кіне курыць. Мне ня хочацца, каб мама кінула паліць цыгарэты. Бо чалавек кідае выпіўку і курыва, калі болей ня можа атрымліваць асалоду. І таму найлепшыя падарункі — тыя, ад якіх чалавек можа атрымаць асалоду неадкладна: пляшка віскі, бутэлька віна, пачак цыгарэт, бляшаная скрыначка з аўстрыйскімі цукеркамі «Моцарт». Усе ж астатнія дары цешаць болей мяне, чымся тых, каму аддаюцца, прээзэнтуюцца, дорацца. І хопіць пра гэта.

*Вена. Сьнежань. 1997 год*



# Бясплатныя прыватныя абвесткі

Усіх шчырых беларусаў віншую з 80-мі ўгодкамі БНР! Алесь Тарасевіч

Стаматалягічныя паслугі: тэрапія. Менск, пр. Ракасоўскага, 166а (раён кінатэатра «Салют»). Тэл.: 214-87-39

Здаю пакой для адной асобы ў прыватным доме (Цяплічная 12). Тэл.: 240-57-55

Кіроўцы-дальнабойшчыкі, купляю імпартовыя, былыя ў выкарыстаньні тэлевізары (хай сабе і сапсаваныя). Тэл.: (274) 51814

Рэдакцыя «Тыднёвіка Магілёўскага» дзякуе ўсім, хто павіншаваў нас зь першымі ўгодкамі газэты. Жадаем трываньня і вам

Куплю саджанцы ружаў гатунку Gloria Dei. 222120, Барысаў, вул. Л.Чалоўскай, 17-1 (пісьмова)

Прадаю сэрыі паштовых марак Беларускай Народнай Рэспублікі: 4 маркі, прысьвечаныя 40-м угодкам Слуцкага збройнага чыну. 60 тыс. руб. 220131, Менск, п/с 417, Віктар Кузьняцоў

Дасылаю газэту «Беларускі калекцыянэр» №16 — 7 тыс. руб. 211030, г. Ворша, вул. Флёрава, д. 7, кв. 16. Алесь Сярожкін

Віншуем Алеся і Яніну Пушкіных з Днём Волі! Разам з Вамі —«Спадзяемся, насуперак спадзяваньню!» Сябры «Малога Палесься»

Спосабы памяншэньня вагі — 8 кг за 13 дзён. Капэрта са зв/а + купон б/а. 246012, Гомель, а/с 147

Спосабы вырошчваньня да 1,5 тон бульбы і памідораў на сотцы. Капэрта са зв/а + купон б/а. 246012, Гомель, а/с 147

Дашлю спосабы нарошчваньня цягліцаў бяз «хіміі» і трэнажораў; павелічэньня грудзей на 1-2 памеры і росту да 8 см бяз «хіміі». Капэрта са зв/а + купон б/а. 246012, Гомель, а/с 147

Спадар Альгерд Чыж! Ад усёй душы віншуем з чарговым юбілеем! Жадаем чаканых і прыемных падарункаў! Мельнікавы

Вальжына, непараўнальная ты наша! Шчыра віншуем з Днём Нараджэньня! Жадаем бачыць! Сям'я Мельнікавых

Nastaŭnika Skurata z uhodkami BNR vinšuje himnazičnaja klasa

**КУПОН**

**Бясплатнай прыватнай абвесткі**

*Тэкст:*

*Імя і прозьвішча*

*Адрас, тэлефон*

Запоўніце гэты купон і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220123, Менск, а/с 71

Arynu, Hanusiu, Złatu, Alisu, Tacianu, Jahora, Andrusia, Siarhieja, Laksieja, Irynu vinšuju z uhodkami BNR. Incognito

Chałodnuju harbatu łubiš? Prychodź u kaviarniu «Lody», tam znojdzieš siniuju cytrynu ŭ sałodkaj vapnie. Ramualda Cymt

Z dniom narodzinaŭ, Jurka Čarnavoki. Budź insurhentam! Siabroŭka Damavika

Куплю энцыкляпэдыю «Этнаграфія Беларусі». Тэл.: 274-05-07, Марыя

Польская мова: пераклады якой заўгодна складанасьці, індывідуальнае навучаньне. Тэл.: 221-23-68

Ксэракопія, А-4, 800 руб. Тэл.: 253-92-26

Праца ў хатніх умовах, паштова-канцылярская, высокааплочвальная, зьдзельная. Капэрта са зв/а + купон б/а. 220073, Менск, а/с 26

Шаноўных Падольскага Юру і Гарунову Натальлю віншую з Днём Волі і жадаю шчасьця, крэпкага здароўя і посьпехаў у жыцьці. Падольскі Слава

Здыму аднапакаёвую кватэру з тэлефонам у ваколіцах Менску Тэл.: 221-23-68

Куплю «Пана Тадэвуша» (пераклад Семяжона), выд. 1985 г. Тэл.: 213-70-85, Алесь

Праца ў хатніх умовах — 8 відаў. Прыбытак ад 100 $. Навык не патрабуецца. Ад вас — капэрта са зв/а + купон б/а. 246012, Гомель-12, а/с 143

Спадарыні Іне зь Менску — вялікі дзякуй за спраўджаныя надзеі. З Днём Волі. Андрэй Коржыч з Гомеля

Набуду слоўнік беларуска-польскі, або расейска-польскі, або польска-расейскі, або польска-беларускі. Тэл.: 017-30-53-18. Ігар

Набуду паперу для ксэракса. Танна. Тэл.: 253-92-26

Праца ў хатніх умовах. Заробак — 3 млн. на месяц. 2 капэрты, 1 са зв/а + купон б/а. 220073, Менск, а/с 26

Ксэракопія, 800 рублёў копія, А4. Тэл.: 253-92-26

Шукаю працу хатняга настаўніка маляваньня для маленькіх. Тэл.: 215-82-52. Натальля

Zaprašajem prychilnikaŭ manarchii, VKL. My za sapraŭdnaje adradžeńnie! Listujcie: 246012, Homiel, a/s 124

My za sapraŭdnaje adradžeńnie! Chopić chłuśni!!! Zaprašajem lićvinaŭ-manarchistaŭ! 246012, Homiel, a/s 124

Праца ў хатніх умовах — 8 відаў. Прыбытак ад 100 $. Навыкаў не патрабуецца. Пабрабязнасьці лістом. Капэрта са зв/а + купон б/а. 246012, Гомель, а/с 143

Набуду «Права на Волю» №3; «Спадчыну» №5 за 1995 год. 212001, Магілёў, Бялінскага 22-13. Тэл.: (0222) 21-30-35, Аляксей

Шаноўны Юрась Мацко! Віншуем з гадавінай нараджэньня! Жадаем посьпехаў на глебе творчасьці і ў астатнім! Сям'я Мельнікавых

Гарадзенскія беларускамоўныя гурты «Кальян» і «Deviation» шукаюць памяшканьне для рэпэтыцыяў. Тэл. у Гародні: (0152) 31-30-46, Андрэй

Беларускамоўны гурт «Інтэльмэдыя» жадае мець дапамогу дзеля выкананьня асобных песень: скрыпачку і дзьвюх дзяўчын з вартасьцю галасоў альт і сапрана. Існуе невялікі конкурс. Тэл.: 253-47-66

Прапаную больш за 70 найменьняў беларускамоўных аўдыёкасэт. 220085, Менск, а/с 5. Тэл.: 249-08-88 да 10 раніцы, Віталь

Прадаю грэйдэрныя нажы. Тэл.: 64-87-87 (25) Андрэй

Гурт «Нейродюбель» шукае памяшканьне для рэпэтыцыяў. Тэл.: 276-93-88, Аляксей

Калі ты жадаеш, каб твой любімы беларускі гурт прагучаў на «Радыё Рокс», дасылай свае заяўкі, прапановы, патрабаваньні на адрас: 220002, Менск, Старажоўская 8а

Дапамога беларускамоўным рок-гуртам. Тэл.: 213-50-41. Сяргей

Калі ты любіш Беларусь і прагнеш змаганьня за яе, прыходзь на паседжаньні Маладога Фронту шточацьвер а 19 гадзіне —Варвашэні, 8. Тэл.: 233-50-12

Любы мой! Віншую з нараджэньнем! Узрост — паняцьце адноснае, каханьне ж нікуды не зьнікае. Твая Птушачка

Мужчына сярэдняга веку (59) і сярэдніх разумовых здольнасьцяў, але захаваўшы валасы й зубы, мог бы стаць добрым падарункам жанчыне з добрым характарам. Антось. 220109, Менск, а/с 63. Тэл.: 246-78-55

# ВЯРТАНЬНЕ «СЛОТЫ»



*МЯСЦОВЫ ЧАС, Слота, Мой Дом, «Ковчег», Менск, 1998.*

Гэтая касэта працягвае традыцыю выданьня старых рарытэтаў беларускага року. Што да «Слоты», дык запісаны напрыканцы 80-х на бытавой апаратуры, першы альбом наваполацкага МЯСЦОВАГА ЧАСУ ўпершыню выйшаў у «аформленым» выглядзе.

Наўрад ці непадрыхтаванаму слухачу гэтыя запісы дапамогуць скласьці ўражаньне, хутчэй зробяць адмоўны «прамоўшн». Мяркую, ён можа стацца падзеяй адно для заўзятых мэляманаў. Для тых, хто памятае падвойную кружэлку хіт-параду радыёстанцыі «Беларуская Маладзёжная», на якой зьмешчаныя дзьве кампазыцыі з «Слоты» («Вартаўнік» і «Ўцякач»), якім пашэнціла быць запісанымі на прафэсійнай апаратуры Дому радыё.

МЯСЦОВЫ ЧАС выбухнуў на пачатку 90-х разам з шэрагам іншых «монстраў» новай беларускай рок-хвалі. Менскую публіку прыемна ўразіла тое, што выканаўцы былі «хлопцамі з правінцыі», і пры гэтым гралі цалкам «адвязную», не падобную ні да чаго музыку.

«Слота», бадай, адзіны ў беларускім року альбом, які паводле тэкставай і музычнай стылістыкі цалкам адпавядае панятку «пост-панк». Гэта менавіта тая, папулярная ў эўрапейскай альтэрнатыўнай моладзі плынь, якая ў Беларусі скончылася на першым альбоме МЧ — адзін зь безьлічы нерэалізаваных беларускіх праектаў. Тым ня менш, МЯСЦОВЫ ЧАС ня страціў сваёй папулярнасьці. «Падключаны» да працы з тэкстамі Алесь Аркуш «зьмяніў дыскурс» МЯСЦОВАГА ЧАСУ з «пад'езднага дэкадансу» да наіўнапатаснай, але кранальна шчырай узьнёсласьці альбомаў «Мой Дом» і «Ўскраіна». Настрой цалкам адпавядаў першаму пэрыяду Незалежнасьці...

МЯЧСЦОВЫ ЧАС нечакана хутка перайшоў у стан прыгожага міту. Гурт распаўся раней, чым у грамадзтве пачалася «прэзыдэнцкая дэпрэсія». Але ж летась адбыўся першы «рэанімацыйны» выступ гурта ў менскім «РЫФ-клюбе». «Я жыў», «Доўгі шлях дамоў», «Ускраіна»... Старыя хіты пляцовак пад бел-чырвона-белымі сьцягамі выконваліся больш прафэсійна, чым сем гадоў таму. Новыя творы амаль не запомніліся.

Вяртаньне МЯСЦОВАГА ЧАСУ нагадала мне прагулку дарослага дзядзькі па вулках свайго юнацтва — вакол усё зьмянілася. Словы, прамоўленыя калісьці ўпершыню, гучаць не мацней за рэха. Тым ня менш, мяркую, што МЯСЦОВЫ ЧАС мае шанец на спраўджаньне мрояў дзесяцігадовае даўніны. Варта ўзяцца за недаведзенную калісьці да ладу «Слоту», і, магчыма, завяршэньне працы супадзе з чарговай адлігай.

**Севярын Кваткоўскі**

# Каралі № 96



*Ляпис Трубецкой. Ты кинула. — Масква, студыя «Союз», 1998.*

«Пайдзём са мной у зялёны садзік — там інцярэсная трава...» Ёсьць у беларускім фальклёры і такія песьні — жорсткія або гарадзкія рамансы расейскага паходжаньня. У свой час гэтым жанрам захапіўся гурт «Ляпис Трубецкой» — як своеасаблівым сьцёбам з таго, што тады называлася савецкімі рэаліямі.

Калі «Ляписы» толькі пачыналі выступаць са сцэны, іх часта параўноўвалі з папулярным тады музычным правакатарам Васем Шугалеем. Але Шугалей зьехаў у Маскву, і «Ляпис» застаўся сам-насам з публікай, знайшоўшы іншую глебу для творчасьці —гарадзкі фальклёр. Менавіта ў рэчышчы апошняга, зь яго любоўнай і бандыцкай лірыкай, прыпеўкамі і дзіцячымі страшылкамі і з абавязковай для беларускага кантэксту трасянкай гурт здабыў сваю найбольшую ў Беларусі папулярнасьць у 1996 годзе. Але, як той казаў, Расея багатая на свае таленты. Таму сваім кідком на Ўсход «Ляписы» адразу рызыкавалі страціць сваю аўтэнтычнасьць, патрапіўшы пад скальпэль тамтэйшага шоў-бізнэсу. Так і атрымалася: на новым альбоме гурт канчаткова страціў беларускія рысы, адвечны сьцёб ператварыўся ў нешта іншае, часам блізкае да пошласьці.

Штучнасьць творчасьці «Ляписов», якая ў нас выглядала як экзотыка, у суседняй краіне не выбіваецца з агульнай плыні безгустоўшчыны. Г.зн. каралі'96 у Беларусі ў Маскве сталі каралямі № 96.

**Сяргей Сахараў**




"Наша Ніва"
незалежная газэта

НАША НІВА

заснаваная ў 1906,
адноўленая ў 1991

рэдактар ........ Сяргей Дубавец
выдавец ........ Рэдакцыя газэты "Наша Ніва"
заснавальнік ........ Павал Жук
адказны сакратар ........ Алег Дзярновіч
мастацкі рэдактар ........ Сяргей Харэўскі
аддзел інфармацыі ........ Андрэй Лапцёнак
Віктар Корзун
дызайн і вёрстка ........ Лявон Раманчык
набор ........ Аляксандра Макавік
стыль і карэктура ........ Паўлюк Канавальчык
пры ўдзеле ........ Сяргея Шупы



АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ
220123 Менск, а/с 71
Тэл./факс 232-51-76
E-mail: niva@user.unibel.by
http://members.xoom.com/Nasa_Niva



© НАША НІВА. Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая. Наклад 2810. 8 палос фармат А2 нумар падпісаны ў друк 23:43, 12/4/1998. Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 2003. Кошт свабодны. У шапіках "Белсаюздруку" — 9500 руб.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты "Известия", д. 8, кв. 173.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12